ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# Камуністычнае выхаваньне

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ
ПРАЦАСЬВЕТЫ
БССР

№ 6-7
1933

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# Камуністычнае выхаваньне

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ
ПРАЦАСЬВЕТЫ
БССР






ЧЭРВЕНЬ
ЛІПЕНЬ
№ 6-7
1933

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

*Я. Г. Захарык*
*М. Е. Лявіцкі*

# Вынікі гадавой працы ўзорных школ і іх далейшыя задачы

ЦК УсеКП(б) у сваёй гістарычнай пастанове ад 5/IX-31 году аб пачатковай і сярэдняй школе, даючы дырэктыву органам народнае асьветы аб стварэньні ў кожным раёне і ва ўсіх гарадох сеткі ўзорных школ, патрабаваў ад іх паставіць сваю працу так: «каб настаўніцкія масы, рабочыя, калгасьнікі і вучні маглі на практыцы вучыцца ў іх будаўніцтву палітэхнічнай школы».

Узорныя школы павінны стаць авангардам масавых школ, павесьці іх за сабой і ўзьняць іх на ўзровень адказьнейшых задач, высунутых перад школай сучасным этапам сац. будаўніцтва.

Узорныя школы павінны стаць прыкладам бальшавіцкай барацьбы за зьнішчэньне «карэннага недахопу», за пралетарскія мэтады навучаньня, за палітэхнічную школу Маркса—Леніна—Сталіна, за барацьбу з правай як галоўнейшай на даным этапе і «левай» небясьпекай ў школе, за выхаваньне пралетарскага інтэрнацыяналістага, чалавека камуністычнай маралі.

У сучасны пэрыяд абвостранай клясавай барацьбы, калі капіталістычныя элемэнты разьбітыя, але канчаткова яшчэ не дабітыя імкнуцца скарыстаць у сваіх мэтах кожны вучастак сацыялістычнага будаўніцтва ў тым ліку і школу—задачы ўзорных школ у галіне камуністычнага выхавання становіцца асабліва адказнымі.

Побач з пералічанымі задачамі, узорныя школы пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі павінны даць масавай школе прыклады бальшавіцкай барацьбы за выкананьне задач другой пяцігодкі на ўсіх вучастках сацбудаўніцтва і ўмелага падпарадкаваньня грамадзкай вытворчай працы вучняў вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

Як-жа ўзорныя школы БССР справіліся ў 1932-1933 навучальным годзе з пастаўленымі перад імі задачамі?

## У галіне зьнішчэньня „карэннага недахопу"

Пераход на новыя вучэбныя праграмы, увядзеньне цьвёрдага раскладу, праверка ведаў кожнага вучня, падвышэньне сьвядомай дысцыпліны ў школе, узмацненьне адказнасьці настаўніка і вучня за вучобу і арганізацыю лекцыі як асноўнай формы работы школы ў барацьбе з «карэнным недахопам», далі магчымасьць дасягнуць ва ўзорных школах некаторых посьпехаў. Можна канстатаваць, што мінулы 1932-1933 навучальны год даў некаторы зрух ў сэнсе перабудовы ўсёй працы ўзорных школ на аснове рашэньняў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе.

Асноўны паказчык працы школы—пасьпяховасьць вучняў па ўзорных школах БССР на аснове 80 справаздач роўны ў сярэднім 90 проц. з мінімумам у 75 проц. і максымумам 96 проц.

Па паасобных дысцыплінах процант пасьпяховасьці разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | Дысцыпліны | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Прыродазн. | Бел. мова | Гісторыя | Рус мова | Бел. літарат. | Грамадазн. | Геаграф. | Палітэх. нав. | Хімія | Фізіка | Арытмэтыка | Альгебра |
| Сярэдні % па 1-му канцэнтру . . . . | 93 | 86,6 | — | 87 | — | 93 | 92 | 95 | 95 | — | 87 | — |
| Па 2-му канцэнтру . | 92 | 88 | — | 84 | — | 81 | 89 | 90 | — | — | 87 | — |
| Агульны % па школах . . . . . . | 92,3 | 87,8 | 87,3 | 90 | 89,7 | 89,6 | 93 | 90 | 92 | 87 | 97 | — |

## Аб чым сьведчаць пададзеныя лічбы?

1. Узорныя школы ў параўнаньні з масавай школай паказваюць больш высокі процант пасьпяховасьці: у той час як масавыя школы па выніках 56 раёнаў даюць 86,8 проц. пасьпяховасьці, узорныя школы маюць на 3,2 проц. вышэйшы паказчык.

2. 10 проц. непасьпяховасьці сьведчаць аб тым, што ўзорныя школы спраўляюцца з пастаўленымі перад імі задачамі яшчэ нездавальняюча і што «карэнны недахоп» яшчэ не ліквідаваны і ва ўзорных школах.

3. Слабым зьвяном у засваеньні ведаў на сёньнешні дзень застаюцца: грамадазнаўства, беларуская і руская мовы.

4. Сярэдні процант пасьпяховасьці 1-га канц. узорных школ некалькі вышэй сярэдняга проц. пасьпяховасьці па 2-му канц.

Разглядаючы прычыны азначаных недахопаў трэба з усёй цьвёрдасьцю сказаць, што справа не ў «аб'ектыўных прычынах», а справа ў людзях, справа ў тым, як гэтыя людзі змагаюцца за

рэалізацыю гістарычных пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе, за пабудову сапраўднай палітэхнічнай школы.

Аналізуючы працу паасобных узорных школ, не цяжка пераканацца ў тым, што толькі тая школа магла дабіцца найлепшых паказчыкаў у выкананьні пастаноў партыі і ўраду аб школе, якая найлепш арганізавала і расставіла выкладчыцкія і вучнёўскія сілы, мабілізавала вакол работы школы пралетарскую грамадзкасьць.

Такія школы ў нас маюцца, напрыклад, Ветрынская узорная ШКМ Полацкага раёну. Вынікам гадавой барацьбы за стварэньне ўзорнай школы на падставе пастаноў партыі зьяўляецца дасягненьне 96,3 проц. пасьпяховасьці. Школа дабілася гэтага ў рэзультаце разгорнутай барацьбы за выкананьне праграм, за кантроль над працай настаўніка, за цьвёрдую плянавасьць і кантроль над плянамі, за кантроль над выкананьнем гэтых плянаў з боку настаўніцкіх брыгад. Узаемнае наведваньне настаўнікамі лекцый зьяўляецца не эпізадычным фактам у школе, а плянавым мерапрыемствам. Акадэм. баі, конкурс на лепшага вучня, удзел ва ўсесаюзным конкурсе на лепшую школу зьяўляліся буйнейшымі фактарамі мабілізацыі вучнёўскіх мас. Барацьба школы з дэфіцытам ведаў мінулых год шляхам паўтарэньня ў старэйшых групах некаторых частак курсу малодшых груп (матэматыка і мова), адыграла не апошнюю ролю ў параўнаўча высокім проц. пасьпяховасьці. У прыватнасьці проц. пасьпяховасьці па матэматыцы ў пачатку году быў 80, а ў канцы навучальнага году ён павысіўся да 96,5. Па мове—з 88 проц. у пачатку навучальнага году павысіўся да 96,5 у канцы. Сельсавецкі актыў таксама быў уцягнуты ў барацьбу за палітэхнічную школу.

Урэцкая школа, Слуцкага раёну, дабілася 96 проц. пасьпяховасьці (з якіх 42 проц. «добра» і «вельмі добра») тым, што яна акружыла адстаючых вучняў асаблівай таварыскай увагай. Ужо з пачатку навучальнага году школьны калектыў распачаў працу з слабейшымі вучнямі—сходы бацькоў адстаючых вучняў, сыстэматычныя абходы кватэр, забесьпячэньне адстаючых падручнікамі ў першую чаргу, арганізацыяй дошкі штодзённай пасьпяховасьці, канцэнтрацыяй увагі на працы з адстаючымі школьных, камсамольскіх і піянэрскіх арганізацый.

Паўтараем, што лепшыя ўзоры пэдагагічнага вопыту і арганізацыі пэдпрацэсу дасягаюцца жывымі людзьмі, перадавымі настаўнікамі. Вось настаўнік Буйнавіцкай узорнай ШКМ, Лельчыцкага раёну т. Стасенка М. Я. зьяўляецца жывой ілюстрацыяй гэтага палажэньня.

Тав. Стасенка працуе бесперапынна на пэдагагічнай працы 38 год. Ня мае ніводнага прагулу ў сваёй рабоце. Зараз вядзе першую групу. Пасьпяховасьць вучняў па гэтай групе раўняецца 93 проц., пры агульным ліку вучняў у 55 чалавек. Пераведзеныя добра засвоілі курс праграмы, чыста, прыгожа і граматна (адпаведна ўзросту) пішуць, добрае чытаньне. Акцябрат у групе 97 проц. Тав. Стасенка два разы прэміяваны раённымі арганіза-

цыямі і ў 1932-1933 навучальным годзе атрымаў другую прэмію на ўсебеларускім конкурсе на лепшую палітэхнічную школу і лепшага настаўніка. Тав. Стасенка зьяўляецца актыўным грамадзкім працаўніком, актыўна ўдзельнічае ва ўсіх праводзімых гаспадарча-палітычных кампаніях.

Пастаноўка работы ў школе і барацьба з «карэнным недахопам» залежыць ня толькі ад працы настаўніка, але таксама ў вялікай ступені ад кіраўніцтва школай.

Вось загадчык Тураўскай 7-годкі тав. Сіўко, дзякуючы ўмелай арганізацыі і кіраўніцтву работай школы, выходзіць у лік перадавых. Прэзыдыум Тураўскага РВК так ацэньвае работу тав. Сіўко:

«Справа барацьбы за савецкую палітэхнічную школу ёсьць справа гонару і геройства. Засвоіўшы гэтыя бальшавіцкія ісьціны, Вы, як арганізатар і кіраўнік першай узорнай ШКМ у раёне, самаадданзена, ударна, па-бальшавіцку ўключыліся за чоткае канкрэтнае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду аб школе.

Ваш энтузіязм, Ваш творчы парыў у барацьбе з «карэнным недахопам» школы мабілізаваў увесь школьны калектыў, вывеўшы школу ў лік перадавых школ БССР.

Прэзыдыум Тураўскага РВК у другі раз выказвае Вам шчырую падзяку і з усёй упэўненасьцю спадзяецца, што на дасягнутых посьпехах ня спынецеся, а яшчэ з большым пад'ёмам разам з усім калектывам ўзьнімеце яшчэ на вышэйшую ступень якасьць вучэбнай і выхаваўчай працы ў барацьбе за поўнае выкананьне дырэктыў партыі і ўраду, моцна трымаючы пераходны сьцяг Райкому КП(б)Б у барацьбе за першынство».

(Пастанова Прэзыдыуму Тураўскага РВК ад 17/VI-33 г.).

За што Тураўская ўзорная ШКМ атрымала пераходны сьцяг Райкому КП(б)Б і пастановай Калегіі НКА БССР ад 27/V-33 г. была прэміявана 500 руб., а заг. школы тав. Сіўко 250 руб.

За тое, што ўвесь школьны калектыў пад кіраўніцтвам раённых партыйных і савецкіх арганізацый зрабіў барацьбу з «карэнным недахопам» у школе асноўным стрыжнем сваёй работы. Гэтаму падпарадкавалася ўсё жыцьцё школы, аб гэтым гаварылася на сумесных сходах бацькоў з піянэрамі, у гэтую барацьбу ўключылася раённая газэта «Чырвоная Тураўшчына», якая сыстэматычна асьвятляла жыцьцё і працу школы з пункту гледжаньня барацьбы з «карэнным недахопам». З гэтай-жа мэтай для вучняў, якія жывуць на значнай адлегласьці ад школы, арганізоўваліся пад наглядам настаўніка тэрытарыяльныя гурткі для ўзьняцьця іх пасьпяховасьці і для азнаямленьня з іх хатнімі ўмовамі. З мэтай арганізацыі дапамогі маладым настаўнікам і перадачы ім вопыту старэйшых настаўнікаў, пры наяўнасьці ў школе раўналежных груп 1-га канцэнтру, да іх прымацоўваліся адзін

вопытны з вялікім стажам настаўнік і другі малады з тым, каб усю працу яны праводзілі сумесна. Нават спэцыяльная шавецкая пачыначная арцель была арганізавана з той мэтай, каб ніводная гадзіна не прападала дарэмна для вучня. Барацьба за дасканалае знаёмства вучня з геаграфічнай картай, за ўменьне чытаць яе і добра арыентавацца ў ёй,—зьяўляецца таксама вялікім актывам Тураўскай узорнай ШКМ.

Усе гэтыя мерапрыемствы праводзяцца строга па пляну. Сыстэматычная падрыхтоўка настаўнікаў да лекцыі стала ў Тураўскай узорнай ШКМ бытавым зьявішчам.

Праведзеная праца, год бальшавіцкай барацьбы за ўзорную палітэхнічную школу даў свае вынікі: 92 проц. пасьпяховасьці пры досыць строгім падыходзе да ацэнкі пасьпяховасьці вучняў. Аб дасягненьнях у барацьбе за ліквідацыю «карэннага недахопу» у Тураўскай узорнай ШКМ красамоўна сьведчыць вынятка з справаздачы гэтай школы ў НКА БССР:

> «Пісьмовыя работы ў канцы навучальнага году паказваюць, што якасьць пісьма вучняў палепшылася. Напрыклад, з 42 вучняў 3-й групы «б» дыктоўку з 58 слоў пераважная колькасьць напісала добра з 1-2 памылкамі і толькі адна работа нездавальняючая.
>
> У 4-х групах на праверачных іспытах вучні самастойна рабілі пераклад невялікага мастацкага артыкулу. Малая колькасьць памылак, акуратнасьць і чыстата пісьма характэрны для пераважнай большасьці работ. Гэтага школа дабілася ў выніку ўвагі ўсіх настаўнікаў да ліквідацыі карэннага недахопу, у выніку штодзённай крапатлівай работы».

Прыводзячы ў якасьці прыкладаў Тураўскую, Урэцкую і Ветрынскую школы, мы ўзялі ня самыя лепшыя і дастаткова абсталяваныя; мы ўзялі «серадняцкія» школы і паказалі чаго можна дабіцца і як можна перамагчы так званыя «аб'ектыўныя прычыны» пры бальшавіцкім імкненьні змагацца за школу Маркса—Леніна—Сталіна. Умовы працы гэтых школ тыповыя для аграмаднай большасьці узорных школ БССР і ніводная школа ня можа сказаць, што яна ня можа дабіцца тых-жа вынікаў.

Аб значным зруху ў ліквідацыі карэннага недахопу ў 1932-33 навучальным годзе сьведчыць той факт, што ў 35 проц. усіх узорных школ, прыслаўшых справаздачы, пасьпяховасьць вышэй 90 проц. Сярод іх такія як Гомельская 3-я ФЗС, Менская 25-я ФЗД, Копыльская яўрэйская, Вендароская Магілеўскага раёну, Жыткавіцкая давялі проц. пасьпяховасьці да 94-96 проц. Калі з паказаных школ узяць для прыкладу 25-ю Менскую ФЗД (заг. тав. Цмых), дык для яе характэрным зьяўляецца ўдалая пастаноўка мэтадычнай работы, якая канцэнтруецца ў спэцыяльна арганізаваным школьным пэдгабінэце. Пры ўваходзе ў школу адразу бачыш парадак, чыстату, дысцыплінаванасьць вучняў.

Унутраны распарадак школы можа служыць сапраўдным узорам для іншых школ. Вынікі працы гэтай школы характарызуюцца тым, што вучні некаторых груп, якія ў пачатку году на 100 слоў рабілі 67 памылак, к канцу году рабілі толькі 1-2 памылкі.

Аднак, значная частка узорных школ ня можа пахваліцца ўзорнай пастаноўкай пэд. працэсу, высокімі ведамі і сьвядомай дысцыплінай вучняў. Яшчэ шмат якія ўзорныя школы БССР ня толькі не зьяўляюцца прыкладам для масавых школ, але нярэдка стаяць нават ніжэй іх.

Шэраг «узорных школ» прышлі к канцу навучальнага году з ганебнымі паказчыкамі пасьпяховасьці вучняў. Смальнянская ШКМ, Аршанскага раёну мае 75 проц. пасьпяховасьці, Веляціцкая ШКМ, Барысаўскага раёну 77 проц., Вушацкая ШКМ 78 проц., Чашніцкая ШКМ—77 проц., Гайшынская, Прапойскага раёну 78 проц., Старадароская 80 проц.

Дзе-ж прычына гэтага прарыву? Усе ўмовы, напрыклад, Смальнянскай школы зьяўляюцца зусім адпаведнымі для таго, каб ня плесьціся ў хвасьце, а быць у ліку перадавых і сапраўды ўзорных: будынку гэтай школы пазайздросьцілі-б шмат якія ўзорныя школы (цалкам прыстасаваны і адпавядае школьным заняткам), склад настаўнікаў гэтае школы таксама ня дрэнны— 3 чалавекі з вышэйшай адукацыяй і 9 з сярэдняй, сярод якіх маецца 1 сябра КП(б)Б і 3 камсамольцы. Тое-ж самае трэба адзначыць і пра Вушацкую ўзорную ШКМ—будынак спэцыяльны, каменны 2-х паверховы, 2 настаўніка з вышэйшай асьветай і 7 з сярэдняй. Прычым, сярод настаўнікаў 6 камсамольцаў. Фізычны і хімічны габінэты школа таксама мае больш-менш абсталяваныя, але там, дзе пануе апартуністычная бязьдзейнасьць, няўменьне ажыцьцяўляць задачы, пастаўленыя тав. Сталіным— па новаму працаваць, па-новаму кіраваць, дзе маецца часамі простае нежаданьне змагацца за гістарычныя пастановы ЦК аб школе—там прарыў няўхільны.

Другой прычынай таго, што шмат дзе ўзорныя школы не апраўдалі свайго ганаровага званьня зьяўляецца тое, што шэраг АНА, не ўлічваючы ўмоў і магчымасьцяй дадзенай школы, наклейвалі на яе ярлык «узорнай» і гэтым справа канчалася. Аб школе забывалі, не клапаціліся аб стварэньні нават самых элемэнтарных умоў для работы. Да гэтага мы яшчэ зьвернемся ніжэй.

Зараз неабходна падкрэсьліць, што большасьць узорных школ уключылася ў барацьбу за пісьменны і ўзорны сшытак вучняў. Штодзенны кантроль усяго настаўніцкага калектыву за пісьмом вучняў, выстаўка горшых і лепшых пісьмовых прац вучняў ужываецца ўжо шмат у якіх школах.

Аднак, становішча пісьма і ва ўзорных школах таксама як і ў масавых яшчэ яўна нездавальняючая. Барацьба за арфаграфічную і стылістычную пісьменнасьць вучняў, за прыгожае і чыстае пісьмо не стала цэнтральнай і важнейшай задачай школы

і кожнага настаўніка незалежна ад выкладаемай ім дысцыпліны. Па цэламу шэрагу школ сшыткі альбо зусім не выпраўляюцца, альбо выпраўляюцца без належнай увагі, пакідаючы пасьля выпраўкі памылкі (Яромінская ШКМ, Гомельскага раёну, Стара-Дароская ШКМ, Гайшынская і інш.).

Загад Наркамасьветы БССР тав. Чарнушэвіча ад 2/VIII-33 г. аб барацьбе за арфаграфічную і стылістычную пісьменнасьць вучняў і аб увядзеньні праверачных сшыткаў павінен зрабіць з будучага навучальнага году рашучы пералом у зьнішчэньні недахопаў, меўшых месца ў мінулым годзе. Загад абавязаў усіх настаўнікаў, незалежна ад выкладаемай дысцыпліны, кантраляваць і выпраўляць арфаграфічныя і стылістычныя памылкі вучняў самым дасканальнейшым чынам у пісьмовых працах як хатніх, так і школьных. Загад забараняе прымаць ад вучняў сярэдняй школы брудна, неразборчыва і нядбайна напісаных пісьмовых прац. Апрача гэтага, загад прадугледжвае ўвядзеньне з 1933-34 навучальнага году праверачных сшыткаў для кожнага вучня 1-й і 5-й груп. Гэтыя сшыткі ставяць сваёй мэтай выявіць на ўзорах працы вучня за ўвесь час навучаньня ў школе ступень яго прасоўваньня наперад і эфэктыўнасьць працы школы.

Узорныя школы, ажыцьцяўляючы гэты загад, павінны паказаць масавым школам сапраўдныя ўзоры барацьбы за пісьменнасьць вучня.

Праведзеныя веснавыя іспыты таксама паказалі няпісьменнасьць і слабую падрыхтоўку вучняў некаторых узорных школ. Самі ўзорныя школы паказалі часамі прыклад таго, як можнаператварыць іспыты ў савецкай школе ў экзамен накшталт старой школы з усімі яго атрыбутамі—з «зялёным сукном», камісіямі, запужваньнем вучняў і інш. (Барысаўская ФЗС, Касьцюковіцкая ШКМ). У хуткім часе, па дадзенай НКА БССР дырэктыве пачнуцца ў школах асеньнія іспыты. Задача узорных школ заключаецца ў тым, каб улічыць недахопы і памылкі вясеньніх іспытаў і паказаць масавым школам як патрэбна праводзіць у жыцьцё гэтае важнейшае палітычнае мерапрыемства, як правільна па-бальшавіцку ажыцьцяўляць дырэктывы партыі і змагацца за тое, каб паставіць іспыты на службу барацьбы за аўладаньне ведамі вучняў.

## Пэдкадры і выхаваўчая праца ўзорных школ

Ва ўзорнай школе павінны выкладаць лепшыя з лепшых, найбольш кваліфікаваныя, клясава-вытрыманыя настаўнікі. Бо іх задача паказаць узоры пэдагагічнага майстэрства масавым школам.

Пастанова ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе патрабуе згрупаваньня ва ўзорных школах лепшых пэдагагічных сіл, каб яны маглі сапраўды даць узоры работы масавым школам.

Наступная зводка характарызуе склад настаўніцтва па 74 узорных школах БССР:

| Агульны лік н-каў. | Адукацыя | | | Пэд. стаж. | | | | | Сац. паходж. | | | | Партыйн. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Выш. | Сяр. | Ніж. | Да 1 г. | Да 3 г. | Да 5 г. | Да 10 г. | Звыш. | Раб. | Сял. | Служ. | Інш. | Сябр КП(б)Б | Сяб КСМ. | Бесп. |
| 1065 | 24,6 | 60,3 | 15,1 | 14,3 | 11 | 17,6 | 17 | 40,1 | 16,3 | 54,2 | 23,5 | 6 | 6,1 | 18,9 | 75 |

Аналіз гэтай табліцы паказвае, што процант настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй надта нізкі (24,6 проц.), а наяўнасьць ва ўзорных школах настаўнікаў з ніжэйшай адукацыяй зьяўляецца зусім недапушчальнай. Трэба дабіцца таго, каб у I канц. працавалі настаўнікі з сярэдняй адукацыяй, а ў другім з вышэйшай і з адпаведным пэд. стажам.

Па прыведзенай зводцы ў галіне пэдстажу справа абстаіць больш менш здавальняюча: 75 проц. усіх настаўнікаў маюць пэд. стаж звыш 5-ці год.

Партыйна-камсамольская праслойка ва ўзорных школах далёка недастатковая.

Нельга абыйсьці той факт, што ў сьценах узорных школ працуюць у якасьці пэдагогаў 6 проц. выхадцаў з клясава-чуждай праслойкі. Такое становішча з пэдкадрамі сьведчыць аб тым, што шэраг АНА ня выканалі пастаноў партыі і дырэктыў Наркамасьветы аб укамплектаваньні ўзорных школ вопытнымі праверанымі і клясава-вытрыманымі настаўнікамі.

Нецярпімымі зьяўляюцца такія факты, калі ва ўзорнай школе з лікам настаўнікаў у 8 чалавек трое маюць сярэднюю асьвету і 5 ніжэйшую, прычым 1 з іх зьяўляецца выхадцам з клясава-чуждай сям'і (Гайшынская ШКМ, Прапойскага раёну). Адсюль зразумела чаму пасьпяховасьць па гэтай школе раўняецца 78 проц.

Загадчык Насовіцкай ШКМ заяўляе, што ня ўсе настаўнікі 2-га канцэнтру яго школы могуць змагацца за пісьменнасьць вучняў, бо сярод саміх настаўнікаў маюцца ня досыць пісьменныя людзі. Справаздача Каменскай ШКМ, Лепельскага раёну, даводзіць, што слабая пасьпяховасьць вучняў па матэматыцы і геаграфіі тлумачыцца дрэннай падрыхтоўкай настаўнікаў.

Гэтыя факты сьведчаць аб апартуністычнай недаацэнцы ролі і задач узорных школ з боку шэрагу АНА, аб імкненьні шмат якіх АНА зваліць са сваіх плеч клапоты аб укамплектаваньні ўзорных школ, аб неразуменьні таго, што лепшымі пэдагогамі раёну павінны быць укамплектаваны ўзорныя школы, ня спыняючыся перад тым, каб пераводзіць асобных лепшых настаўнікаў з масавых ва ўзорныя школы, чаго АНА баяцца рабіць і лічаць за лепшае чакаць пакуль ім гэтыя настаўнікі цудам з неба зваляцца. Вынікам гэтага зьяўляецца тое, што ў

працы ўзорных школ не аказваецца самага галоўнага—узорнасьці таму, што масавай школе няма ў такіх школах чаму вучыцца.

Нядбайнасьць АНА да настаўніцкага складу ўзорных школ выяўляецца яшчэ часта ў тым, што лепшая частка пэдагогаў узорных школ часамі бывае да таго перагружана пэдагагічнай працай у іншых навучальных установах, што эфэктыўнасьць іх працы ва ўзорнай школе робіцца мінімальнай. У Шклоўскай узорнай ШКМ 6 настаўнікаў працуюць па сумяшчэньню. У Віцебскай 23 узорнай школе большая частка настаўнікаў зьяўляюцца гастралёрамі ў школе. Тое-ж ў Бярэзінскай, Лагойскай, Чырвонапольскай і інш. школах.

Задача ў тым, каб лепшыя сілы раёну сканцэнтраваць ва ўзорных школах і паставіць іх у такія ўмовы, каб яны былі не гасьцямі ў школе, а сталымі кадравымі працаўнікамі.

Няўважлівыя адносіны некаторых АНА да ўкамплектаваньня ўзорных школ пэдагогамі прывялі да засьмечанасьці часткі школ клясава-чуждымі настаўнікамі, якія працягваюць антыпралетарскую ідэалёгію ў савецкую школу. Такія факты, як наяўнасьць былых служыцеляў рэлігійнага культу ва ўзорных школах (Горацкая 2 чал., Хойніцкая Бел. 2 чал. і інш.), наяўнасьць дзяцей былых паліцэйскіх (Аршанская ФЗС № 2, Васілевіцкая ШКМ і інш.), вялікі лік схаваўшыхся пад графой «іншых» (Старасельская Шклоўскага раёна—2 чал., Палуская—3 чал., Васілевіцкая, Веляціцкая і інш.),—цалкам падцьвярджаюць злачынна-нядбайныя адносіны АНА да гэтай справы, ня гледзячы на катэгорычную пастанову Калегіі НКА па пытаньні аб ўкамплектаваньні пэдкадрамі ўзорных школ.

Агентура клясавага ворага ў школе скарыстоўвае ўсе магчымасьці для таго, каб весьці барацьбу з камуністычным выхаваньнем, зрываць мерапрыемствы партыі і ўраду ў галіне школьнага будаўніцтва, насаджаць кулацкую ідэалёгію сярод дзяцей.

Толькі згубленьнем клясавай пільнасьці з боку некаторых АНА і загадчыкаў школ тлумачыцца тое, што часамі клясавы вораг ва ўзорнай школе выступае з адкрытым забралам. Некалькі фактаў:

Выкладчык мовы Глускай узорнай ШКМ характарызаваў творчасьць Янкі Купалы як выключна рэвалюцыйную.

Настаўніца Яромінскай школы Маневіч займалася «рукапрыкладствам».

Маюцца выпадкі пратаскваньня ў школу пражэкцёрскіх мэтадаў (Плешчаніцы).

Да чаго наглее клясавы вораг там, дзе ў кіраўніцтве сядзяць шляпы, сьведчыць кулацкае гняздо, якое зьвілі сабе контррэвалюцыянэры ў Васілевіцкай узорнай ШКМ. У гэтай школе настаўнік Мэлех, былы афіцэр, даказваў дзецям наяўнасьць, пекла

і раю. Настаўніца Янушкевіч за антысэмітызм неаднокраць здымалася з працы. Паромінскі—сын папа, былы афіцэр, ня лічыў патрэбным нават скрываць свае контррэвалюцыйныя настроі. Настаўніца Кулевіч—жонка б. прystава. У гэтай «узорнай» школе лекцыі па рускай мове ператварыліся ў контррэвалюцыйны сэмінар. Вось некалькі прыкладаў, якімі карыстаўся кулацкі рупар ў школе на лекцыях рускай мовы:

„Тебя не зовет на работу завод“.
„Отольются волку овечьи слёзы“.
„Досыта мы никогда не наедались“.
„Есть грозный суд'я... он ждет?“.
„От судьбы, друг мой, не уйдеш“.

Загадчык Рэчыцкага АНА Гарбацэвіч характарызаваў Васілевіцкую узорную ШКМ як адну з мацнейшых у раёне. Што гэта—клясавая блізарукасьць ці саюз з клясавым ворагам? Рэчыцкая партарганізацыя адказала на гэта пытаньне тым, што выключыла Гарбацэвіча з шэрагаў партыі, настаўніцкі склад аднаўлен.

Антысавецкая вылазка нацдэмаў у Крычаўскай школе лішні прыклад таго, што робіць клясавы вораг там, дзе АНА траціць сваю клясавую пільнасьць.

Вывады напрашваюцца самі сабою. Калі вораг не здаецца, яго зьнішчаюць.

Толькі савецкі настаўнік, адукаваны і клясава-вытрыманы пэдагог, сумесна з усёй школьнай грамадзкасьцю, пад кіраўніцтвам кампартыі выхавае «пакаленьне, здольнае канчаткова ўстанавіць камунізм».

І на гэтым фронце, на фронце камуністычнага выхаваньня за апошні час наглядаецца некаторы зрух у працы ўзорных школ.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў сувязі з рашучым наступленьнем на рэшткі капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне не застала ўзорныя школы ўрасплох. Імкненьні клясавага ворага супроцьставіць камуністычнаму выхаваньню буржуазна-клясавае выхаваньне, атрымалі рашучы адпор ад калектываў большасьці ўзорных школ, якія ўключаюць у сабе звыш 25 проц. партыйцаў і камсамольцаў, ад вучнёўскіх камсамольскіх арганізацый (прыблізна 6 проц. усяго вучнёўскага складу) і ад піянэрбаз, якія ахапілі 55 проц. усіх вучняў. Навакол іх канцэнтраваліся лепшая частка беспартыйнага настаўніцтва, пераважаючая частка вучняў і досыць моцны бацькаўскі касьцяк.

Аб тым, што маса настаўніцтва ўключылася ў справу выхаваньня новага чалавека сьведчыць той факт, што 90 проц. настаўнікаў узорных школ былі ахоплены ударніцкім рухам, а з іх 35 проц. былі вызначаны як ударнікі школьнай грамадзкасьцю. Гэта база—аснова, на якой трымаецца камуністычнае выхаваньне ў нашых школах.

У актыў узорных школ у галіне камуністычнага выхаваньня мы можам запісаць такія факты, як 100 проц. ахоп у некаторых школах вучняў піянэррухам (Нараўлянская яўрэйская, Магільнянская, Капыльская і інш.). Наяўнасьць моцных камсамольскіх арганізацый (Каменская ШКМ 38 чал., Чэрвеньская—22 чал., Лагойская 22 чал., Мсьціслаўская—23 чал. і цэлы шэраг іншых). Шырокі ахоп вучнёўства ўдарніцкім рухам (Хойніцкая польская прэміявала 40 вучняў ударнікаў, Шчадрынская 71 чал. і інш.). Газэтны насьцендрук ахапіў усе куткі школьнага жыцьця, а некаторыя школы здолелі навакол насьценных газэт скалаціць моцны дзяткораўскі касьцяк (Шчадрынская).

Кіно і радыё шырока скарыстоўваліся ў мэтах камвыхаваньня (звыш 75 проц. усіх школ забясьпечаны радыё-ўстаноўкамі і 50 проц. школ кінофікавана). Закон аб ахове сацыялістычнай маёмасьці знайшоў шырокі водгук ва ўзорных школах. Навакол яго праводзілася вялікая выхаваўчая праца і шэраг школ могуць з поўным правам ганарыцца тым, што ў канцы навучальнага году зразумелі сутнасьць гэтага закону і па сацыялістычнаму сталі адносіцца да дзяржаўнай маёмасьці. Значная частка школ падкрэсьлівае ў сваіх справаздачах, што крадзёж у школах к канцу году рэзка зьнізіўся.

Плянаваньне ня толькі вучэбнай працы, але і выхаваўчай (25-я Менская ФЗД і інш.), індывідуальныя пляны выхаваньня для сацыяльна-запушчаных дзяцей далі магчымасьць некаторыя школам прэміяваць у канцы году такіх дзяцей, якія ў пачатку навучальнага году былі кандыдатамі на выключэньне. Адказнасьць настаўнікаў за камуністычнае выхаваньне дзяцей узмацнілася і як агульнае правіла на мэтадаб'яднаньнях абгаварваліся і вывучаліся паасобныя мэтады камуністычнага выхаваньня.

Пастанова ЦК аб падпарадкаваньні грамадзка-карыснай працы вучняў вучэбна-выхаваўчым мэтам, зьявілася моцным фактарам камуністычнага выхаваньня. Па шэрагу школ сувязь школы з калгасамі асабліва ўзмацнілася дзякуючы дзейнай дапамозе з боку вучняў калгасам у час пасеўнай кампаніі (брыгадныя насьценгазэты, індывідуальнае сацспаборніцтва з бацькамі, барацьба асобных вучняў з іх бацькамі-прагульшчыкамі). 96—99 проц. наведваньня школ у канцы навучальнага году сьведчыць аб значным зруху ў справе ўкараненьня сьвядомай дысцыпліны сярод вучняў.

Найбольш характэрным фактам узмацненьня клясавай пільнасьці вучняў зьяўляецца тое, што амаль усе антысацыяльныя і антысавецкія выступленьні паасобных вучняў выкрываліся самімі вучнямі. Выкрываліся і атрымлівалі рашучы адпор і такія выступленьні, якія адбываліся па-за сьценамі школы. Уключэньне інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня ў вучэбныя пляны школы сьведчаць аб тым, што шмат якія настаўнікі знайшлі шлях злучэньня вучобы з інтэрнацыянальна-антырэлігійнай

выхаваўчай працай. Сацспаборніцтва стала штодзённым мэтадам камуністычнага выхаваньня.

Было-б злачынствам абыйсьці моўчкі тое, што ў галіне камуністычнага выхаваньня мы маем пакуль што толькі зрух. Клясавы вораг знаходзіць яшчэ сабе падгалоскаў у школе ў выглядзе паасобных вучняў. Шмат зроблена ў галіне камуністычнага выхаваньня, але яшчэ больш трэба зрабіць. Наша школа не адлучана кітайскай сьцяной ад клясавай барацьбы ў нашай краіне і факты кажуць аб тым, што амаль ўва ўсіх школах знаходзяцца паасобныя вучні, якія прыносяць у школу кулацкі ўплыў. Аднымі выключэньнямі з школ тут справе не дапамагчы. Паставіць усю школу, кожны крок яе на службу камуністычнаму выхаваньню—вось у чым задача.

Падамо некалькі фактаў:

Насіцелем антысэмітызму ў Сеньненскай ШКМ аказаўся вучань, які быў нават камсамольцам.

У Васілевіцкай школе некалькі вучняў старэйшых груп складалі і расьпявалі антысавецкія частушкі.

У Магільнянскай ШКМ 2 вучні старэйшай групы вялі нацдэмаўскую агітацыю.

У Старадарожскай ШКМ былі вывешаны адным вучнем контррэвалюцыйныя лёзунгі. У Смалявіцкай яўрэйскай узорнай ШКМ 3 вучні абакралі мясцовы каапэратыў.

У Хойніцкай польскай узорнай ШКМ вучаніца 7-й клясы вяла агітацыю сярод вучняў супроць удзелу ў 1-майскай дэманстрацыі.

У Лагойскай і Уваравіцкай ШКМ былі выступленьні асобных вучняў супроць нарыхтовак. У Гайшынскай ШКМ былі выпадкі наведваньня царквы. У Гомельскай 3-й ФЗС справа дайшла да таго, што патрабавалася ўмешваньне Гаркому партыі.

У значным ліку школ былі асобныя факты антысэмітызму. Хуліганства таксама яшчэ не канчаткова зжыта (Магільнянская, Глуская, Віцебская яўрэйская, Віцебская 4-я, Узьдзенская, Плешчаніцкая школы).

Тут-жа трэба адзначыць, што кулацкімі рупарамі былі дзеці служыцеляў рэлігійнага культу, кулакоў і цьвёрдазаданьнікаў. Так у Яромінскай ШКМ агітацыю супроць нарыхтовак вяла дачка цьвёрдазаданьніка. У Нараўлянскай беларускай ШКМ сын папа вёў антысэміцкую агітацыю. У Кахановіцкай школе на чале групы хуліганаў стаялі 2 вучні раскулачаных бацькоў.

Гэта далёка ня поўны пералік фактаў сьведчыць аб тым, што нягледзячы на некаторы зрух у галіне камуністычнага выхаваньня справа пастаўлена ўсё яшчэ нездавальняюча.

Кулацкія настроі сярод часткі вучняў гэта плата за клясавую блізарукасьць часткі АНА і загадчыкаў школ, за слабае кіраўніцтва піянэр. базамі з боку райдзет. бюро, за слабы падбор важатых, за іх цякучасьць (усеагульнае зьявішча), за нежаданьне

часткі настаўніцтва па сапраўднаму ўключыцца ў піянэр-працу. «Адзваніў і з званіцы далоў»—так, і толькі так можна характарызаваць працу асобных настаўнікаў Узьдзенскай, Чырвонапольскай, 3-й Гомельскай, Веткаўскай, Віцебскай яўрэйскай, Расонскай і інш. школ.

Няўменьне даводзіць да канца распачатыя выхаваўчыя мерапрыемствы зьяўляецца частай хваробай нашых школ. Шмат якія ўзорныя школы заключылі ўмовы па сацспаборніцтву з украінскімі і іншымі школамі саюзных рэспублік, але ніводная школа не давяла гэтай справы да канца. Сувязь з школамі іншых нацыянальнасьцяй у падаўляючай большасьці выпадкаў не зьяўляецца дзейнай і абмяжоўваецца толькі зьнешняй парадансьцю.

Сацыяльная запушчанасьць дзяцей у выніку недастатковай пэдагагічна-выхаваўчай працы з бацькамі зьяўляецца не апошняй прычынай хуліганства.

Вялікай хібай у выхаваўчай працы нашых узорных школ зьяўляецца таксама і тое, што настаўніцкія калектывы і дзіцячыя школьныя арганізацыі часамі ідуць па лініі найменшага супраціўленьня—замест сапраўднай выхаваўчай працы займаюцца адміністраваньнем. Наглядаюцца досыць частыя выключэньні дзяцей малодшага ўзросту за розныя антысацыяльныя ўчынкі, калі яшчэ ня ўсе выхаваўчыя магчымасьці скарыстаны. Магільнянская школа абвяшчае вучню вымову за антысэмітызм. Лояўская школа выключае бяспрытульнага, таксама не скарыстаўшы ўсіх выхаваўчых магчымасьцяй. Досыць часта чорная дошка ў школе замяняе перакананьне вучняў. Празьмернае адміністраваньне размагнічвае школу ў барацьбе за камуністычнае выхаваньне і накіроўвае працу дзіцячых школьных арганізацый у іншы бок, чым указана ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб школе. Трэба ўказаць, што маюцца школы, якія змаглі знайсьці належныя мэтады камуністычнага выхаваньня. Напрыклад, Каменская ШКМ удзяляла асаблівую ўвагу нагрузцы недысцыплінаваных вучняў грамадзкай працай. Шчадрынская яўрэйская ШКМ досыць удала арганізавала культурныя перапынкі, чым скарачала час, у якім вучні былі прадастаўлены самім сабе. 25-я Менская ўзорная ФЗД практыкавала спэцыяльныя нарады сацыяльна запушчаных дзяцей, практыкавала ўнутрышкольныя піянэрскія кастры. Смалявіцкая школа ўжывала як сродак выхаваньня запрашэньне паасобных т. т. для гутарак з дзецьмі на розныя рэвалюцыйныя тэмы, якія маглі-б аказаць уплыў на эмацыянальныя пачуцьці дзяцей (МОПР, падпольная барацьба нашых брацкіх камуністычных партый); нараду грамадаведаў па пытаньню камуністычнага выхаваньня практыкаваў культпроп Лагойскага Райкому партыі.

Мы стаім ля парогу новага навучальнага году. Неабходна, каб усе недахопы, упушчэньні ў справе камуністычнага выхаваньня былі ўлічаны, асабліва неабходна ні на хвіліну не адры-

ваць выхаваўчыя моманты ад вучэбных. Зараз, праводзячы падрыхтоўку да новага навучальнага году, плянуючы вучэбную працу школы, нельга ўпусьціць з-пад увагі патрэбнасьць дзелавога і строгага плянаваньня таксама і ўсёй выхаваўчай працы школы на 1933-1934 навучальны год.

## Палітэхнічна-вытворчае навучаньне

Палітэхнічнае навучаньне ёсьць неадымная частка камуністычнага выхаваньня ў школе. Узорныя школы ў барацьбе за палітэхнізацыю павінны ісьці наперадзе ўсіх іншых школ, паказваць прыклад барацьбы за школу Маркса—Леніна—Сталіна.

Зараз, на жаль, невялікая яшчэ частка школ могуць пахваліцца дасягнутымі посьпехамі ў гэтай галіне працы (Гомельскія імя Камінтэрну і 3-я чыгуначная ФЗС, 25-я Менская ФЗД і некалькі інш.). Гэтыя школы змаглі арганізаваць майстэрні і наладзіць працу ў іх, падпарадкаваўшы гэтую працу вучэбна-выхаваўчым мэтам школы. Мсьціслаўская ўзорная ШКМ у парадку палітэхнічнага навучаньня змагла арганізаваць выраб розных фізычных прылад сіламі вучняў. У Тураўскай узорнай ШКМ надзвычайна ўдала арганізавана практыка вучняў на школьным зямельным вучастку (ініцыятыва настаўніка М. Е. Бруя). Там культывуецца соя, рыс, сорга, вінаград, закладзен пітомнік на 200 пладовых дрэў. Вучні не зьяўляюцца там толькі рабочай сілай, а ў працэсе працы на прышкольным зямельным вучастку знаёмяцца з асноўнымі працэсамі с/гаспадарчай тэхнікі, прывучаюцца да дасьледчай працы і да ўменьня скарыстоўваць тэарытычныя веды для сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, набываюць навыкі ў калектыўнай працы, пашыраюць вопыт прышкольнага вучастку на акаляючыя калгасы. Апрача гэтага, прадукты прышкольнага вучастку ствараюць базу для арганізацыі гарачых сьнеданьняў вучняў на зімовы пэрыяд.

Асіпавіцкая ШКМ на падставе дагавору з чыгункай дабілася добра абсталяванай майстэрні пры школе і ўдзелу інжынэрна-тэхнічных работнікаў станцыі ў палітэхнічна-вытворчым навучаньні.

Вандароская ШКМ пастаноўкай сваёй працы зацікавіла сельскі савет, які даў школе 2 швэйных машыны.

У большасьці ўзорных школ палітэхнічна-вытворчае навучаньне пастаўлена яшчэ нездавальняюча. У гэтай галіне работы вопыт масавым школам перадаецца надзвычайна слаба.

Палітэхнічныя майстэрні хоць і арганізаваны пры ўсіх узорных школах, але ў значнай частцы слаба абсталяваны. У гэтай справе надзвычайна слаба праяўляецца ініцыятыва саміх школ, недастаткова прыцягнуты грамадзкія арганізацыі. Удзел гаспадарчых і саўгасна-калгасных арганізацый у абсталяваньні прышкольных майстэрань нездавальняючы, што адбіваецца на выкананьні пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе.

Школы яшчэ не зразумелі асноўнай ісьціны, што за палітэхнізацыю трэба змагацца, што майстэрні, рабочы пакой самі не абсталююцца, што дастаць інструмант магчыма толькі тады, калі прыцягнуць да гэтага ініцыятыву грамадзкасьці.

Нічым іншым як толькі гэтым можна тлумачыць тое, што ў Дубровенскай ШКМ абсталяваньне майстэрань, ня тледзячы на тое, што ў яе пад бокам фабрыка «Дубровенская мануфактура», зусім недастатковае. Такія школы, як Чавуская, Веткаўская і цэлы шэраг іншых маюць не палітэхнічныя, а саматужныя майстэрні. Кахановіцкая ШКМ зрывае працу майстэрні з-за адсутнасьці жалезнага лому. У шэрагу школ замест барацьбы за палітэхнізм ішлі па найбольш лёгкаму шляху—замены гадзін вытворчага навучаньня іншымі дысцыплінамі (Чэрвенская і інш. школы). Маюць месца факты процістаўленьня палітэхнізацыі іншым асноўным дысцыплінам, адсоўваньня вытворчага навучаньня, адсутнасьць увязкі тэорыі з практыкай.

Надта дрэнна стаіць справа з рабочымі пакоямі ва ўзорных школах, недаацэнка задач рабочых пакояў, мэтадычная непадрыхтаванасьць часткі настаўнікаў да выкарыстоўваньня рабочых пакояў, а часамі і простае нежаданьне праявіць ініцыятыву з боку настаўніцкіх калектываў прывяло да таго, што амаль у палове ўсіх узорных школ рабочыя пакоі адсутнічаюць.

Якасьць працоўнага навучаньня ў школе рашае выкладчык па працы. Ад выкладчыка мы павінны патрабаваць, каб ён ня толькі ведаў сваю справу, але і быў дастаткова падрыхтаваны, умеў падыйсьці к дзіцяці, меў адпаведную агульную адукацыю. Асабліва ўсяго гэтага мы павінны патрабаваць ад выкладчыкаў працоўнага навучаньня ва ўзорных школах.

Трэба, каб інструктар палітэхнічнага навучаньня працаваў па пляну, на кожную лекцыю меў «пуцёўку», наглядаў за тым, што праходзяць прадметнікі і адбіваў іх работу ў майстэрні, разьвіваў сярод дзяцей мадэлізм і вынаходніцтва і знаёміў дзяцей з усімі асноўнымі галінамі вытворчасьці.

Наяўнасьць у большасьці узорных школ інструктароў вытворчага навучаньня без належнай пэдагагічнай і агульнай адукацыі (у большасьці школ звычайныя саматужнікі), бязумоўна, ня можа забясьпечыць выкананьне тых асноўных задач, якія пастаўлены перад нашай школай ў галіне палітэхнізму. З будучага навучальнага году павінна быць зьвернута сур'ёзьнейшая ўвага на ўкамплектаваньне ўзорных школ адпаведным складам інструктароў палітэхнічна-вытворчага навучаньня і на падрыхтоўку адпаведных кадраў у гэтай галіне.



## Кіраўніцтва ўзорнымі школамі

АНА—рашаючае зьвяно ў сыстэме кіраўніцтва школаю, у тым ліку і ўзорнымі. Гэта вядома ўсім, але трэба таксама ведаць, што большасьць АНА, пачынаючы з загадчыка і канчаючы ін-

структарамі мэтадыстамі—з гэтай задачай, бязумоўна, не спраўляюцца.

Большая частка АНА не разумее, што дзелавое канкрэтнае кіраўніцтва ўзорнымі школамі будзе мець дзеясны эфэкт ня толькі для гэтых школ, але і для ўсёй сеткі масавых школ.

З вялікага ліку школ, з якімі мы азнаёміліся, толькі дзе-ні-дзе адчувалася кіраўніцтва АНА (Дубровенская ШКМ: інструктары мэтадысты цікавіліся школай і дапамаглі ёй, Тураўская, дзе па ініцыяцыве АНА школа была грунтоўна абсьледавана, Вушацкі АНА сыстэматычна дапамагаў узорным школам). У значнай большасьці інструктары мэтадысты ня толькі не дапамагалі школе, але часамі тармазілі ініцыятыву саміх школ—адмаўляліся ад падтрыманьня абвешчанага па пачыну ўзорных школ конкурсаў. Як агульнае правіла АНА нічога не рабілі для пашырэньня вопыту ўзорных школ на масавыя. У цэлым шэрагу фактаў АНА халднакроўна наглядалі за тым, як некаторымі арганізацыямі адбіраліся школьныя будынкі (Мсьціская ШКМ, Гомельская ФЗС). У Плешчаніцкай узорнай школе былі факты ўжываньня мэтадаў заданьняў, там былі факты антысэмітызму, вялікадзяржаўнага шавінізму, а ў гэтай школе ня толькі ня было на працягу году абсьледваньня, але інструктары мэтадысты нават прайшлі міма гэтых фактаў. Віцебская 50-я школа правяла іспыты па картках накшталт добрае памяці старых білетаў, чым парушыла ўсе інструкцыі НКА. У Сеньненскай ШКМ настаўнікі сыстэматычна адрываліся ад заняткаў, праграма ня выканана з прычыны частага адрыву настаўнікаў на іншую працу, а АНА па-геройску маўчыць. У Веткаўскай ШКМ па тэй-жа прычыне праграма па грамадазнаўству выканана толькі на 50 проц. У Талачынскім раёне за ўвесь навучальны год інструктары ні разу ня былі ва ўзорных школах. Частка АНА імкнуцца ператварыць настаўнікаў узорных школ у сваіх разьяздных інструктароў, узвальваючы на ўзорную школу свае функцыі, чым парушаюць нармальны ход школьных занятак у самой школе.

Ня лепш стаіць справа з тымі інструктарамі, якія «абсьледуюць школы на манер гогалеўскіх крыс»—«пришли понюхали и прочь ушли». Шмат якія інструктары дагэтуль не зразумелі, што яны не інспэктары, а інструктары і іх справа інструктаваць, дапамагаць школам жывым паказам правільных мэтадаў і адпаведнымі тлумачэньнямі.

Часамі і інструктары НКА няправільна арыентавалі настаўнікаў у мэтадычных пытаньнях. Так, інспэктар яўрэйскай культуры тав Гольдберг у вывадах абсьледваньня Шчадрынскай яўрэйскай узорнай ШКМ раіць: «вызначыць процант пасьпяховасьці па кожнай дысцыпліне на другое паўгодзьдзе (кантрольныя лічбы), за што павінна змагацца кожная група».

Па-бальшавіцку змагаючыся за поўнае і пасьпяховае ажыцьцяўленьне ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўраду ў галіне школьнага будаўніцтва, АНА дапамогуць узьняць усю масу школ на

вышыню тых вялікіх задач, якія пастаўлены перад імі ўсім ходам сацбудаўніцтва.

Прафарганізацыі, як школьныя, так і с/савецкія і раённыя, таксама яшчэ не павярнуліся тварам да ўзорных школ, ня ўключыліся ў падвышэньне якасьці працы і палепшаньне матар'яльна-бытавых умоў настаўнікаў. Засьмечанасьць некаторай часткі нашых школ клясава-чуждым элементам таксама сьведчыць аб недастатковай працы прафарганізацыі. У цэлым шэрагу школ маюцца яшчэ так званыя «нейтральныя» настаўнікі, для якіх сацбудаўніцтва, грамадзкая праца зьяўляецца чужой справай. У Старобінскай ШКМ зрываецца выкладаньне фізыкі з-за непадрыхтаванасьці настаўніка (прафарганізацыя добра ведае аб гэтым, але лічыць гэта не сваёй справай). У Чэрвенскай ШКМ частка настаўнікаў сабатуе арганізацыю дапамогі слабейшым вучням, а прафарганізацыі ня ўмешваюцца ў гэтую справу.

Праведзеная кампанія перататарыфікацыі настаўнікаў таксама паказала недастатковую працу прафарганізацый. У значнай частцы раёнаў гэту важнейшую палітычную кампанію замест таго, каб ператварыць яе ў вагар ўзьняцьця пэдагагічнай кваліфікацыі, клясавай пільнасьці і працоўнай дысцыпліны настаўнікаў, замест уздыму навакол перататарыфікацыі крытыкі і самакрытыкі, зачастую ператварылі ў габінэтную справу, у гандаль стаўкамі зарплаты.

Вядома, праца прафарганізацый ні ў якім выпадку не павінна парушаць адзінаначальля загадчыка школы. Наадварот— усямернае узмацненьне аўтарытэту загадчыка, барацьба з імкненьнямі некаторых загадчыкаў зваліць з сябе адказнасьць за ўсё, што робіцца ў школе, — адна з задач прафарганізацыі. Трэба помніць, што не апошнюю, а першую ролю ў школе павінен адыгрываць загадчык школы. Ён у першую чаргу, як адзінаначальнік, адказвае за тое, каб даручаная яму школа была школай камуністычнага выхаваньня. Цьвёрдае адзінаначальле, канкрэтнае кіраўніцтва з боку загадчыкаў школ—неабходная ўмова добрай працы школы.

Гаворачы аб кіраўніцтве ўзорнымі школамі нельга не ўспомніць добрым словам і Навукова-Дасьледчы Інстытут Камвыхаваньня, якому НКА даручыў арганізаваць сталае кансультацыйнае бюро для аказаньня мэтадычнай дапамогі ўзорным школам, а кіраўнікі інстытутаў нічога не зрабілі для выкананьня гэтай пастановы. На працягу году амаль ніякай дапамогі ўзорным школам з боку НДІ не аказвалася.

## Перанясеньне вопыту ўзорных школ на масавую

Асноўная задача ўзорных школ заключаецца ў тым, каб, правільна ажыцьцяўляючы дырэктывы партыі і ўраду аб будаўніцтве сапраўднай палітэхнічнай школы Маркса—Леніна—Сталіна, стварыць лепшыя ўзоры работы і даць магчымасьць мала-

дому настаўніцтву, рабочым, калгасьнікам і вучням на гэтых праверaных узорах вучыцца будаўніцтву палітэхнічнай школы.

На справе ня ўсе ўзорныя школы вопыт сваёй работы пераносяць на масавыя. Пералом, які адбыўся ў гэтым годзе, яшчэ далёка недастатковы.

Калі Тураўская ўзорная ШКМ давала сыстэматычна ўзорныя лекцыі, зьмясьціла ў раённай газэце 6 мэтадычных лістоў, калі Шчадрынская яўрэйская ўзорная ШКМ сыстэматычна рассылала свае пляны працы ва ўсе яўрэйскія школы раёну, калі пры Чэрвенскай школе склікаліся спэцыяльныя канфэрэнцыі выкладчыкаў 2-га канц., Асіпавіцкая арганізавала школьную выстаўку, якая потым абгаварвалася на настаўніцкай канфэрэнцыі, Узьдзенская праводзіла спэцыяльную работу з маладымі настаўнікамі, Дубровенская практыкавала сыстэматычныя выхады сваіх настаўнікаў у школы раёну, то частка школ абмежавалася толькі ўзорнымі лекцыямі, якія дарэчы дрэнна наведваліся, а частка школ зусім нічога не рабіла ў гэтай галіне.

Як відаць, распаўсюджваньне вопыту ўзорных школ на масавыя праводзілася ў большасьці праз дачу ўзорных лекцый, што бязумоўна ні ў якім выпадку нельга лічыць дастатковым, хаця ўзорныя лекцыі адыгрывалі ўсё-ж вялікую ролю ў падвышэньні якасьці пэдпрацэсу масавых школ. Узорная лекцыя дапамагае грунтоўна рыхтавацца да ўрокаў, паказвае як лепш і дасканальней акрэсьліць мэту ўрока, як лепш забясьпечыць сыстэматычную прапрацоўку дадзенай тэмы ў адпаведнасьці з намечанай мэтай, як сплянаваць лекцыю, як падбіраць і падрыхтоўваць неабходныя да лекцыі дапаможнікі і інш.

Узорныя лекцыі дапамагаюць рацыяналізаваць пэдпрацэс, але побач з гэтым трэба падкрэсьліць і буйныя недахопы ў пастаноўцы узорных лекцый. Асноўным недахопам зьяўляецца тое, што ўзорныя лекцыі разглядаюцца большай часткай толькі як сродак паказаць свой вопыт, выпадае другая, ня менш важная задача — дабіцца, каб узорныя лекцыі сталі для настаўніка сродкам аўладаньня пэдагагічным майстэрствам, сродкам выпрацоўкі і праверкі на практыцы мэтодыкі выкладаньня, а таму лепш усяго пры выбары тэм узорных лекцый выдзяляць вузлавыя мэтадычныя моманты, у сувязі з якімі і даваць узорныя лекцыі на пэўныя тэмы. Напрыклад, пры прапрацоўцы табліцы множаньня ў другой групе даць некалькі лекцый, якія паказвалі-б як трэба падыйсьці да гэтага.

Другім асноўным недахопам зьяўляецца недастаткова дасканалы разбор лекцыі, зачастую няўменьне крытычна падыйсьці да ацэнкі станоўчых і адмоўных момантаў гэтай лекцыі. Пытаньне аб арганізацыі ўзорнай лекцыі павінна быць да пачатку навучальнага году грунтоўна прадумана ў кожнай ўзорнай школе.

Мэтадычным органам таксама трэба падрыхтавацца да апэрацыйнага кіраўніцтва гэтым важным вучасткам работы ўзорных школ, выкарыстоўваючы матар'ял лепшых з іх.

Тут-жа трэба сказаць, што з боку АНА і ў прыватнасьці інструктароў мэтадыстых вопыт работы ўзорных школ слаба абагульняўся і ў большасьці не пераносіўся на масавыя школы. Гэта сьцьвярджаюць ужо праведзеныя факты аб тым, што шмат у якіх раёнах узорныя школы зусім ігнараваліся інструктарамі мэтадыстамі.

## Матар'яльная база

У справе забесьпячэньня ўзорных школ будынкамі мінулы 1932—1933 навучальны год даў некаторае палепшаньне. Значная частка школ займалася ўжо ў новаадбудаваных спэцыяльных школьных памяшканьнях (узорныя школы Лельчыцкага, Любаньскага, Чырвонапольскага і інш. раёнаў). Вялікая колькасьць школ мае будынкі досыць прыстасаваныя для школьных заняткаў.

Аднак, па цэламу шэрагу школ будынкі ні ў якім разе не адпавядаюць свайму прызначэньню і не даюць ніякай мажлівасьці па ўзорнаму арганізаваць працу. З боку шэрагу РайАНА і раённых арганізацый не ўдзяляецца патрэбная ўвага да стварэньня ўзорным школам адпаведнай матар'яльнай базы. Прыкладам ганебных адносін да забесьпячэньня школ будынкамі можа служыць Мсыціская ШКМ, Бягомльскага раёну. Тут новая школа пачала будавацца яшчэ ў 1929 годзе і цяпер яшчэ ня скончана, частка груп займаецца ў нова-будуючымся памяшканьні, дзе адсутнічае яшчэ столь. Другая частка груп раскідана па ўсяму мястэчку. Але РВК ня толькі не дапамагае школе, ён адно з старых школьных памяшканьняў перадае бальніцы, а праз нейкі час і сарай адбіраецца ў школы. Жыліцкая ўзорная школа, Бабруйскага раёну, займаецца ў будынку, у якім узімку тэмпэратура ніжэй нуля і ня гледзячы на гэта «ні РайАНА, ні с/с, ні іншыя арганізацыі не клапоцяцца аб умацаваньні матар'яльнай базы школы» (з справаздачы загадчыка школы). Лоеўская ўзорная ШКМ займаецца ў 4-х старых будынках, Жыткавіцкая—у 3-х, Узьдзенская—у 4-х, Асьвейская займаецца ў цесным і старым будынку.

Школьнай мэбляй школы ў асноўным забясьпечаны. Праўда, у значнай частцы школ яна патрабуе грунтоўнага рамонту. АНА неабходна зьвярнуць увагу на тое, каб прыстасаваць школьную мэблю да пэдагагічных і пэдалёгічных запатрабаваньняў школы.

Фізыка-хімічныя і прыродазнаўчыя габінэты маюцца пры ўсіх узорных школах, але, як агульнае правіла, узорныя школы, якія вылучаны пазьней, маюць недастатковае абсталяваньне. Часта школы ня маюць магчымасьці разгарнуць свае габінэты з-за адсутнасьці памяшканьня, у большасьці ўзорных школ абсталяваньне фізычных габінэтаў устарэла і не адбівае дасягненьняў навейшай тэхнікі. Такія школы, як Старасельская, Віцебскага раёну, Урэцкая, Горацкая, Ветрынская і шэраг іншых змаглі забясьпечыць сябе адпаведнымі габінэтамі, але побач з імі

маюцца школы, у якіх увесь габінэт уключае ў сябе толькі некалькі навочных дапаможнікаў. Разгорнутай барацьбы за тое, каб забясьпечыць габінэты ўсім неабходным, зрабіць іх ня толькі месцам для хаваньня прылад, алеператварыць у лябораторыі і скарыстаць для гэтага мясцовыя магчымасьці,—у некаторых раёнах яшчэ няма.

Добры ўзор таго, як можна скарыстаць розны ўціль для абсталяваньня фізычных габінэтаў паказала Мсьціслаўская ўзорная ШКМ.

Навочнымі дапаможнікамі (геаграфічныя карты, глёбусы, тэрмомэтры, магніты, компасы) узорныя школы ў асноўным забясьпечаны. Адчуваецца вялікі недахоп у навочных дапаможніках па прыродазнаўству і грамадазнаўству (карт па зоалёгіі, мінэралёгіі, розныя калекцыі, гістарычныя і гісторыка-геаграфічныя карты). Значнай частцы школ не хапае геаграфічных карт БССР.

Нельга абыйсьці і такой здавалася-б «дробязі», як умывальнікі, мыла, ручнікі, плевацельніцы, якія адыгрываюць значную ролю ў рабоце школы і пры тым зачастую зьяўляюцца рэдкасьцю ў школе. Узорныя школы яшчэ не дабіліся ідэальнай чыстаты і парадку ў школе. Падрыхтоўваючыся да новага навучальнага году ўсе гэтыя рэчы павінны быць набыты ва што-б там ні стала.

Вялікую ролю для нармальнай работы школы ў стварэньні харчовай базы для вучняў і пастаноўцы палітэхнічна-вытворчага навучаньня павінны адыграць прышкольныя зямельныя вучасткі.

На жаль ня ўсе школы гэтыя вучасткі маюць. Ёсьць выпадкі з боку савецкіх і саўгасна-калгасных арганізацый, калі пастанова СНК аб надзяленьні школ зямельнымі вучасткамі ня выконваюцца, а месцамі і груба парушаюцца. Напрыклад, у Дукорскай ШКМ, Пухавіцкага раёну, саўгас адабраў зямельны вучастак і зараз вядзецца судовая справа. Гомельскі гарсавет перадаў зямельны вучастак 2-й чыгуначнай ФЗС пад пабудову інстытуту, на якім замест інстытуту пабудован барак і вучастак разьмеркаван сярод жыхароў гэтага бараку. Ня гледзячы на катэгарычнае супярэчаньне з боку НКА супроць гэтага, зямельны вучастак і дагэтуль ня зьвернут.

Задача ўзорных школ, якія маюць зямельныя вучасткі, па ўзорнаму сабраць ураджай, належным чынам захаваць яго і гэтым стварыць харчовую базу для гарачых сьнеданьняў. Сваячасовая апрацоўка вучастку павінна быць зьвязана з вучэбна-выхаваўчымі мэтамі школы.

Вопыт мінулага году паказаў, што за адсутнасьцю ў школе адпаведнай харчовай базы, гарачыя сьнеданьні хоць і былі арганізаваны пры ўсіх школах, але ў большасьці школ ў сярэдзіне году спыніліся. Гэта трэба ўлічыць цяпер пры падрыхтоўцы да новага навучальнага году і бязумоўна забясьпечыць школы не-

абходнай харчовай базай, прыцягнуўшы да гэтага гаспадарчыя, прафсаюзныя, саўгасна-калгасныя арганізацыі і бацькоў.

* * *

Набліжаецца новы навучальны год, падрыхтоўка да яго павінна ўключыць ў сябе як важнейшы элемэнт неабходнасьць бальшавіцкай барацьбы і ўвагі да пабудовы сапраўднай узорнай школы.

Гэтая падрыхтоўка павінна забясьпечыць поўнае выкананьне пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаньню пастаноўкі ўзорных школ ў больш спрыяючыя матар'яльныя ўмовы, згрупаваньне ў іх лепшых пэдагагічных сіл.

Будучы навучальны год павінен даць рашучы пералом ў пастаноўцы вучэбна-выхаваўчай работы, палітэхнізацыі школы і распаўсюджваньні вопыту сваёй працы на масавыя школы.

З боку загадчыкаў АНА і інструктароў-мэтадыстых ўзорныя школы павінны быць абкружаны асаблівай увагай па штодзённай дапамозе ўзорным школам у іхняй працы, памятаючы аб тым, што па іх рабоце будуць раўняцца масавыя школы.

Камсамольскія арганізацыі, як шэфы ўсенавуча і бюро ДКА павінны з большай настойлівасьцю, з бальшавіцкай упартасьцю змагацца за працаздольную камсамольскую ячэйку ва ўзорнай школе, за добра згуртаваны, моцна спаяны, умеючы змагацца за палітэхнічную школу, за засваеньне навук, за камвыхаваньне маладога пакаленьня, піянэр. атрад. Больш кіраўніцтва піянэрбазамі! Больш кантролю і кіраўніцтва камсамольскімі ячэйкамі ўзорных школ!

ЗАДАЧА ОРГАНАЎ НАРАСЬВЕТЫ, узорных школ і настаўніцтва БССР заключаецца ў тым, каб у новым навучальным годзе поўнасьцю ліквідаваць «карэнны недахоп», палепшыць усю вучэбна-выхаваўчую работу школы і пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі забясьпечыць рэалізацыю гістарычных рашэньняў Ленінскай партыі аб выхаваньні пакаленьня здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм.

*Ів. Ів. Масюкевіч*

# Школы гор. Менску і яго раёну на агляд пралетарскай грамадзкасьці

12—14 чэрвеня бягучага году на настаўніцкай канфэрэнцыі г. Менску і раёну падводзіліся вынікі работы школ за мінулы 1932/33 навучальны год.

На абвестцы дню стаялі пытаньні: 1—Чарговыя задачы гаспадарча-палітычных мерапрыемст્вв і вынікі ўдзелу культасьвет-

ных устаноў у веснавой пасеўкампаніі і задачы па ўдзелу асьветнікаў у праполачнай і ўборачнай кампаніях; 2—Вынікі 1932/33 навучальнага году, вынікі і задачы палітэхнічнага навучаньня і вынікі сацспаборніцтва і ўдарніцтва па школах.

Нам. Наркамасьветы тав. Сурта ў дакладзе па першаму пытаньню ахарактарызаваў вялікія дасягненьні ў галіне сваечасовага і акуратнага выращэньня школай чарговых задач гаспадарча-палітычных мерапрыемств, дзякуючы належнай арганізацыі і арганізаванасьці асьветніцкіх мас—настаўніцтва. Выключнае месца ў гэтай справе належыць асьветнікам вёскі, якія праз насьцендрук ускрывалі работу клясава-варожых элемэнтаў—кулацтва і іх спадручных падкулачнікаў і апартуністых розных колераў. Вясковае настаўніцтва арганізавала калгасную, саўгасную і аднаасобную бядняцка-серадняцкую масу на барацьбу з клясава-варожымі элемэнтамі і іх ідэалёгіяй, на барацьбу за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну па правядзеньню раньняй веснавой сяўбы.

Гэтая ўдарная работа праробле́на сваечасова, плянава і арганізавана. Таварышы з месц яскравымі прыкладамі дапоўнілі дакладчыка, а канфэрэнцыя цалкам аднагалосна вынесла пастанову аб самамабілізацыі для работ ў саўгасах і калгасах на час уборачнай і праполачнай кампаній, далучыўшыся цалкам да адозвы ціміразеўцаў.

На канфэрэнцыі выявілася, што ня зусім добра абстаіць справа з шырокім азнаямленьнем настаўніцкае масы з асновамі мясцовае вытворчасьці, нашай адпаведнай матар'яльнай базы для палітэхнізму, у шмат якіх школах, асабліва ў сельскай мясцовасьці, зусім адсутнічаюць рабочыя пакоі і больш менш абсталяваныя майстэрні. Нават майстэрні МенГарАНА далёка не зьяўляюцца ўзорнымі і няпоўнасьцю абсталяваны, як гэтага вымагае палітэхнічная школа.

З дакладу па другому пытаньню—вывады за 1932/33 навучальны год выявілася, што ўсенавучам дзеці ва ўзросьце 8—15 год па гораду ахоплены цалкам на 100 проц., а па раёну на 98,5 проц.

У параўнаньні з 1931/32 навучальным годам агульная колькасьць вучняў па сацвыху за год павялічылася на 5596 чалавек. За мінулы навучальны год зроблены крокі да ахопу ўсенавучам дзяцей ва ўзросьце да 17 гадоў. За справаздачны год школа ўпяршыню мела 8 гр., дзе навучалася 196 чалавек.

Бюджэтныя асыгнаваньні на нарасьвету па Менскаму гарадзкому савету ўзрасьлі ў 1932/33 годзе да 6 млн. 200 тыс. рублёў у год. Значна палепшана абсталяваньне школ інвэнтаром і навучальнымі дапаможнікамі.

Усе школы гор. Менску і яго раёну на 100 проц. былі забясьпечаны гарачымі сьнеданьнямі. Да гэтае справы была сваечасова прыцягнута грамадзкасьць—бацькоўскія арганізацыі ў

горадзе, а на сяле калгасы і саўгасы, якія таксама дапамаглі школам у арганізацыі майстэрань і рабочых пакояў пры школах, а таксама і ў здабываньні сродкаў наогул на дапамогу школе.

Усе школы сваечасова перабудавалі сваю работу, згодна пастаноў ЦК УсеКП(б) ад 5/IX-31 г. і 25/VIII-32 г. аб школе, дзякуючы чаму менскія і прыгарадныя школы дабіліся значных посьпехаў у галіне павялічэньня аб'ёму агульна-адукацыйных, галоўным чынам па вядучых дысцыплінах—матэматыцы, роднай мове, фізыцы, геаграфіі і г. д. Вучэбныя заняткі праводзіліся па цьвёрда-распрацаваных плянах і сталаму раскладу заняткаў, пры абавязковай умове, што формай заняткаў быў вурок.

Па гор. Менску процант непасьпяваючых за мінулы год даходзіць да 9,6 проц.

Па паасобных групах гэта вызначаецца наступным парадкам:

| | Пераведзена | Залікі на восень | Застаўлена на 2 год | %% другагодніцтва |
|---|---|---|---|---|
| 0 групы. | 2475 чал. | 28 чал. | 108 чал. | 4,1 |

Да сораму працаўнікоў «0» гр. і тут не абышлося без другагодніцтва, а таксама і пераносу іспытаў на восень.

| Пераведзена | | На восень | Засталося на 2 год | %% другагоднiцтва |
|---|---|---|---|---|
| 1 гр. | 3,125 чал. | 128 чал. | 240 чал. | 6,87% |
| 2 „ | 2,694 „ | 145 „ | 212 „ | 9,9% |
| 3 „ | 3,205 „ | 155 „ | 224 „ | 8,3% |
| 4 „ | 1,677 „ | 211 „ | 205 „ | 9,9% |
| 5 „ | 1,324 „ | 348 „ | 290 „ | 14,7% |
| 6 „ | 1,055 „ | 237 „ | 165 „ | 11,3% |
| 7 „ | 816 „ | 163 „ | 44 „ | 4,3% |
| 8 „ | 102 „ | 24 „ | 5 „ | 3,8% |

Агульны процант другагодніцтва па гор. Менску 8,2 проц.

Па вячэрніх рабочых школах гораду пэўных зьвестак няма.

Па 19 прыгарадных раёнах пасьпяховасьць мае такі выгляд:

| Пераведзена | | На восень | На 2 год | %% другагоднiцтва |
|---|---|---|---|---|
| 1 групы | 2005 чал. | 65 чал. | 359 чал. | 14,7% |
| 2 „ | 2453 „ | 74 „ | 229 „ | 8,3% |
| 3 „ | 1762 „ | 87 „ | 187 „ | 9% |
| 4 „ | 1528 „ | 92 „ | 201 „ | 11% |
| 5 „ | 616 „ | 63 „ | 125 „ | 15,5% |
| 6 „ | 310 „ | 22 „ | 34 „ | 9,3% |
| 7 „ | 64 „ | 3 „ | 2 „ | 3% |

Процанты другагодніцтва па прыгараду 10,4 проц., а па гораду і прыгараду ў сярэднім 9,6 проц.

За мінулы год значна палепшылася праца піянэрарганізацыі і дзіцячага самакіраваньня, якія значна вырасьлі і колькасна.

К канцу мінулага навучальнага году па школах сацвыху гор. Менску і яго прыгараду налічвалася піянэраў 9,962 чал. і акцябрат 7096 чалавек.

Добраахвотнымі грамадзкімі арганізацыямі вучні былі ахоплены — МОПР—60 проц., АСО — 30,5 проц., Бязбожнік — 50 проц. і г. д.

Школьны насьцендрук у значнай частцы школ пастаўлены добра. Ён адыграў вялікую ролю ў падвышэньні якасьці вучобы, ва ўзьняцьці і замацаваньні на належнай вышыні школьнае дысцыпліны.

Пазашкольная работа з вучнямі як у горадзе, так і на вёсцы праводзілася, але недастаткова. Як вынік недахопу належнай работы на гэтым вучастку, некаторыя з гарадзкіх вучняў удзельнічалі ў антысавецкіх групоўках «Амэрыканцы», «Жураўцы», па школах мела месца панажоўшчына, разбоі, крадзеж, п'янкі і іншыя хуліганскія ўчынкі. Значная частка школьных калектываў недастаткова рэагавала на гэтыя шкодныя праявы і не змаглі сваечасова мабілізаваць грамадзкасьць і вучнёўскую масу на барацьбу з шкодніцтвам.

Мелася нязначная частка настаўнікаў, якія казённа, фармальна падыходзілі да выкананьня сваіх абавязкаў, не заўсёды акуратна і добрасумленна рыхтаваліся да лекцыі і ня мелі чоткае мэтавае ўстаноўкі ў сваёй рабоце. Выкладчыкамі ў школе не заўсёды выкарыстоўваліся бібліятэкі, габінэты і лябораторыі—у сэнсе належнай арганізацыі пэдагогічнага працэсу.

Мастацтва—сьпевы, маляваньне, а таксама ваенізацыя і фізвых ніколі не стаялі на належнай вышыні. Гэта таму, што нават заг. школ недаацэньвалі гэтых дысцыплін, а шмат хто абсалютна не разумеў ролі і месца гэтых навук у агульнай сыстэме навучаньня ў савецкай палітэхнічнай школе.

Некаторыя са школ гораду і прыгараду выпусьцілі такі важны момант, як правядзеньне ў жыцьцё правіл унутранага распарадку, устанаўленьне вызначанага рэжыму ў рабоце школы. Дзякуючы гэтаму ў гарадзкіх школах № 9, 3, 13 і інш. мелі месца скарачэньне акадэмічнага часу заняткаў і штучнае павялічэньне перапынкаў паміж лекцыямі. У 17 яўрэйскай школе гораду, Міханавіцкай, Гарадзішчанскай ШКМ на працягу ўсяго навучальнага году панавала антысанітарыя, а ў школах гор. № 10, 15 і 22, Самахвалавіцкай ШКМ канчаткова была сарвана піянэрработа.

Паасобныя школы замест унядрэньня сацмэтадаў работы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва захапляліся лічбамі павялічэньня ліку ўдарнікаў, абсалютна ня цікавячыся як выконваюцца сацумовы, бяз жаднага падліку праробленай работы, і зусім не ўяўля-

ючы сабе, што іменна зроблена ў ажыцьцяўленьні сацумовы і што павінны былі зрабіць абавязкова па гэтай сацумове ўдарнікі.

У справе правядзеньня палітэхнізацыі ў некаторых школах былі грубыя скажэньні нават самой ідэі палітэхнізацыі. Палітэхнізацыя ў сельскіх мясцовасьцях зводзілася да беспадстаўных гутарак аб палітэхнізацыі, а ў некаторых школах гораду, асабліва на другім канцэнтры зводзілася да вузкага рамесьніцтва. Некаторыя са школ гораду і вёскі ня мелі ўмоў з прадпрыемствамі—саўгасамі, калгасамі, МТС, дзякуючы чаму вучні ў канцы навучальнага году зусім не наведвалі прадпрыемств. Шэраг прадпрыемств — Прампарт, ф-ка Скарняжная, Эльвод, ф-ка Крупскай выключна фармальна адносіліся да сваіх абавязкаў ва ўзаемаадносінах з прымацаванымі школамі.

Падагульняючы іспыты ў школах, а галоўнае падрыхтоўка да іх, праведзены ня зусім добра як у некаторых школах гораду, так і прыгарадзе. Мела месца запалохваньне настаўнікамі вучняў іспытамі, а ў некаторых школах гэтыя іспыты былі зьведзены да звычайных заняткаў.

Поруч з недахопамі і промахамі ў рабоце некаторых школ, адчуваліся прабелы, мяжуючыяся з поўным правалам работы ў сэкцыях палітэхнізацыі, грамадазнаўства і гісторыі, якія нават не змаглі арганізаваць сябе і забясьпечыць яўку на канфэрэнцыю.

Папярнянскі, Ратамскі і Новадворскі с/с ігнаравалі пастанову партыі і ўраду аб своечасовым забесьпячэньні настаўніцтва зарплатай і прадуктамі харчаваньня па існуючых нормах. Менкамгас абсалютна нічога не зрабіў вызваленьню школьнае плошчы ад прыватных жыхароў, а таксама і ў сэнсе забесьпячэньня кватэрамі настаўнікаў.

Настаўніцтва Меншчыны ў барацьбе за школу Маркса—Леніна—Сталіна зрабіла надта шмат, але яшчэ засталося шэраг момантаў, на якія патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу. Вось чаму канфэрэнцыя настаўнікаў лічыць неабходным для поўнага забесьпячэньня пачаць і пасьпяхова правесьці надыходзячы новы навучальны год ужыць наступнае:

1. Забясьпечыць своечасовае правядзеньне рамонту школьных будынкаў, абсталяваць школы адпаведнай мэбляй, своечасова забясьпечыць школы падручнікамі і дапаможнымі прыладамі, а таксама пісьмовымі і канцпрыладамі да 15 жніўня 1933 г. Абавязаць МенГарАНА вызваліць усе школьныя будынкі ад прыватных жыхароў і забясьпечыць перавод пад школы ўсіх будынкаў, якія вызваляюцца Наркамасьветы, ЦВК у сувязі з пераходам гэтых установ у Дом Ураду.

2. ГорАНА, Гарком Саюзу Працасьветы разам з загадчыкамі школ і іх завучамі і МК закончыць укамплектаваньне школ настаўніцкім складам як гораду, так і раёну да 25 чэрвеня г. г., каб кожны настаўнік ведаў дзе і з якой нагрузкай ён будзе працаваць у 1933/34 навучальным годзе.

3. Заг. школ і завучы з 15 жніўня г. г. праводзяць укамплектаваньне школ вучнямі, а таксама праводзяць сталы ўлік дзяцей, падлягаючых усенавучу.

4. МенГарАНА абавязана да 20/VI—33 г. адчыніць крэдыты на навучальную частку па ўсіх школах, згодна пастановы СНК БССР ад 29/V 1933 г.

5. ГорАНА, Гаркомсаюзу Працасьветы да 15 жніўня 1933 г. праз пэдгабінэт падрыхтаваць інструкцыю, у якой указаць як правесьці мэтадычную работу па складаньню вытворчых гадавых плянаў, па ўліку плянаваньня і падліку школьнае работы і належнай пастаноўцы навучаньня ў палітэхнічнай школе.

6. Пэдгабінэту да 25 жніўня г. г. скласьці канкрэтны плян усёй мэтадычнай работы па раёну і вывесіць календарны плян занятак сэкцый на 1933/34 навучальны год.

7. Абавязаць ГорАНА правесьці курсы-канфэрэнцыі перад пачаткам новага навучальнага году з 15 па 25 жніўня г. г. і курсы для ўзьняцьця кваліфікацыі маладых настаўнікаў і інструктароў палітэхнічнага навучаньня, асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на асобня маючых сярэдняй спэцыяльнай асьветы.

8. Канфэрэнцыя лічыць, што, улічыўшы недахопы мінулага году, па баявому разгарнуўшы падрыхтоўчую работу да новага навучальнага году, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, настаўнікі Менску і раёну даб'юцца ў новым навучальным годзе яшчэ большых перамог і дасягненьняў у справе будаўніцтва савецкай палітэхнічнай школы Маркса—Леніна—Сталіна.

# АЎЛАДАЕМ ТЭХнікай

## ПЭДАГАГІЧНАГА ПРАЦЭСУ

*А. Нусэнбаум*

## Як працаваць аднаму настаўніку з некалькімі групамі[1])

Работа аднаго настаўніка з некалькімі групамі належыць да ліку першачарговых пытаньняў нашай масавай школы. Колькасьць аднакамплектных і асабліва двухкамплектных школ яшчэ досыць вялікая. У сельскіх мясцовасьцях масавым тыпам школы І-й ступені зьяўляецца менавіта двухкамплектная, а часамі аднакамплектная школа. Таму ня дзіўна, што пытаньні, якія датычацца работы з 2-мя і 3-мя групамі, нязьменна выплываюць на настаўніцкіх канфэрэнцыях, на мэтадычных аб'яднаньнях і ў карэспандэнцыях настаўнікаў.

Між тым, тая літаратура, якая маецца па гэтаму пытаньню, дужа нязначная. Тое, што ёсьць у гэтых адносінах, вельмі ўстарэла. Так напрыклад, вышаўшая яшчэ да рэвалюцыі (у 2-х выданьнях) кніга Обухава і Корыдаліна ні ў якім разе ня можа задаволіць нашага настаўніка. Як з гэтай, так і з іншых аналёгічных работ можна выкарыстаць толькі паасобныя месцы, і то толькі пры ўмовах грунтоўнай пераапрацоўкі.

Прапануемая работа прадстаўляе сабой спробу абагульніць з пункту гледжаньня задач савецкай школы, і ў першую чаргу выкананьня дырэктывы ЦК аб ліквідацыі карэннага недахопу нашай школы, той вопыт, што накапіўся ў гэтай галіне, а таксама вызначыць некаторыя новыя прыёмы вырашэньня ўзьнікаючых у сувязі з гэтым пытаньнем цяжкасьцей. Вялікае значэньне ў гэтых адносінах мы надаем **рацыяналізатарскім прапановам**, з якіх некаторыя выкарыстаны ў прапануемай працы (гл. ссылкі).

Нясумненна, што масавы прыток ад саміх настаўнікаў, якія штодня сутыкаліся з данай праблемай, прапаноў аб тым, як пазбавіцца цяжкасьцей, што сустракаюцца ў працэсе работы, правераных з мэтадалёгічнага пункту гледжаньня, забясьпечыць хутчэйшае і найбольш пасьпяховае вырашэньне гэтых цяжкасьцей.

---

[1]) Праца перакладзена з рускай мовы, выд. Наркамасьветы РСФСР „Учпедгиз", біб. „В помощь начинающему учителю".

Ужо з сказанага тут вынікае, што даная работа не пратэндуе на колькі-небудзь вычарпальнае вырашэньне пастаўленых пытаньняў. Па нашаму замыслу, яна павінна служыць выточным пунктам для далейшых удасканаленьняў у гэтай галіне шляхам накіраваньня рацыяналізатарскай думкі настаўніка на калектыўнае вырашэньне гэтых пытаньняў. У прыватнасьці, з гэтай мэтай падаецца ў канцы працы пералік цяжкасьцей, якія патрэбна вырашыць шляхам унясеньня рацыяналізатарскіх прапаноў.

Усялякія прапановы, апісаньні ўрокаў, указаньні, заўвагі, стрэчныя пытаньні і інш. матар'ялы па данай тэме просім прысылаць па адрасу сэктару Кадраў Наркамасьветы (Москва, Чистые пруды, 6, 4 этаж на імя аўтара).

Гэты матар'ял мяркуецца ўключыць у намечаемы да выданьня зборнік апісаньняў узораў вопыту работы аднаго настаўніка з некалькімі групамі.

У заключэньні аўтар выказвае сваю прызнацельнасьць членам былой сэкцыі пачатковай школы праграмна-мэтадычнага інстытута, які прыняў удзел у абгаварэньні першапачатковых накідак гэтай працы, у асаблівасьці тав. тав. Есіпаву, Луканіну, Рындзічу і Скаткіну, указаньні якіх аказаліся вельмі каштоўнымі.

* * *

На першы погляд нам можа здавацца, што работа аднаго настаўніка з некалькімі групамі або зусім немагчыма, або ва ўсякім разе ня можа быць арганізавана хоць колькі-небудзь мэтазгодна.

На самай справе гэта ня так. Пры правільнай пастаноўцы работы заняткі з некалькімі групамі ня толькі ў поўнай меры магчымы[1]), але і могуць быць пастаўлены на вышыню сучаснай пэдагагічнай і мэтадычнай тэхнікі. Але для гэтага настаўніку патрэбна ў большай ступені, чым пры рабоце з аднэй групай, авалодаць тэхнікай пэдагагічнай работы і **выкарыстаць той вопыт,** што ўжо накоплены ў гэтай справе.

## Як разьмеркаваць абавязкі паміж настаўнікамі, што працуюць з некалькімі групамі

Калі школа 2-х камплектная, гэта значыць ёсьць два настаўнікі на 4 групы, дык узьнікае пытаньне аб тым, як разьмеркаваць абавязкі паміж абодвымі настаўнікамі.

Магчымы наступныя варыянты (выпадкі): 1) першы настаўнік бярэ 1-ю і 2-ю групу, а другі—3-ю і 4-ю групы; 2) першы настаў-

---

[1]) У Амэрыцы і Германіі настаўніку часта даводзіцца працаваць з 8 групамі, менавіта ў тых выпадках, калі лік дзяцей ня больш 60—70, а часта і пры наяўнасьці большага ліку вучняў.

нік бярэ 1-ю і 3-ю групы, а другі—2-ю і 4-ю групу; 3) першы настаўнік бярэ 1-ю і 4-ю групу, а другі—2-ю і 3-ю групы.

Першы варыянт зручны тым, што ў гэтым разе маецца вялікая магчымасьць аб'яднаньня груп для супольнай кляснай работы з імі. Правесьці гутарку з 1-й і 2-й групай альбо з 3-й і 4-й куды лягчэй, чым напр. з 1-й і 3-й.

З другога боку, гэты спосаб разьмеркаваньня абавязкаў мае той недахоп, што ў першых двух групах часта бывае больш вучняў, чым у апошніх двух; такім парадкам у аднаго настаўніка ў гэтым разе акажацца больш дзяцей, чым у другога. Аднак у сучасны момант, у сувязі з увядзеньнем усеагульнага навучаньня, у пераважнай частцы школ у гэтых адносінах ужо няма такой рэзкай розьніцы, якая была раней. Апрача таго, цяжкасьць работы з большым лікам дзяцей у першых двух групах ураўнаважваецца тым, што ў старэйшых групах патрабуецца большая падрыхтоўка настаўніка. Таму гэты спосаб разьмеркаваньня абавязкаў адпавядае ў тым выпадку, калі адзін з настаўнікаў больш схільны працаваць у малодшых групах, а другі ўладае дастатковай падрыхтоўкай для работы ў старэйшых, пры тэй, аднак, умове, што розьніца паміж колькасьцю дзяцей у малодшых і старэйшых групах ня вельмі значная.

Другі варыянт часьцей за ўсё здараецца на практыцы. Гэта тлумачыцца тым, што пры гэтым варыянце абудвы настаўнікі знаходзяцца ў аднолькавых умовах. Кожны атрымлівае групу прыблізна з аднолькавым лікам дзяцей і прытым прыблізна аднолькавай цяжкасьці (адну цяжкую—1-ю альбо 4-ю—і адну больш лёгкую—3-ю альбо 2-ю).

Другая перавага гэтага варыянту зводзіцца к таму, што тут кожны настаўнік мае магчымасьць праз год весьці работу з тымі-ж дзецьмі, што перайдуць у наступныя групы: той настаўнік, які меў 1-ю і 3-ю групу, будзе ў наступным годзе мець магчымасьць узяць 2-ю і 4-ю, а другі настаўнік, у якога былі 2-я і 4-я групы, можа ўзяць 3-ю групу і ўноў паступіўшых дзяцей (новую 1-ю групу).

Аднак гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі абудвы настаўнікі здольны весьці любую групу 1 ступені, а для гэтага патрэбен пэўны вопыт. Пачынаючаму-ж настаўніку лепш за ўсё працаваць ня менш 2-х год запар у адных і тых-жа групах.

Ітак, другі варыянт найбольш мэтазгодны ў тых выпадках, калі абодвы настаўнікі маюць прыблізна аднолькавую кваліфікацыю і нахільнасьці і працуюць у школе ня менш 2-х год.

Нарэшце, трэці варыянт зручны ў тых адносінах, што тут адзін настаўнік працуе таксама як і ў першым выпадку, з сумежнымі групамі (2-й і 3-й), а другі настаўнік мае магчымасьць скарыстаць дзяцей для дапамогі малодшым. Але гэта работа з 1-й і 4-й групамі патрабуе высокай кваліфікацыі настаўніка: тут патрэбен работнік, які аднолькава ўладае мэтадамі работы як з меншымі, так і старэйшымі вучнямі. Трэба яшчэ мець на ўвазе

тое, што менавіта 1-я 4-я групы зьяўляюцца найбольш адказнымі. Таму, даны спосаб разьмеркаваньня абавязкаў можна рэкамэндаваць толькі ў тым разе, калі адзін з настаўнікаў мае дастатковую кваліфікацыю для работы з 1-й і 4-й групамі адначасна, а другі зьяўляецца пачынаючым.

Такім парадкам выбар спосабаў разьмеркаваньня груп у двухкамплектнай школе залежыць у кожным разе ад канкрэтных умоў данай школы і ў першую чаргу, ад нахільнасьцей і падрыхтоўкі настаўнікаў.

Незалежна ад таго, які варыянт абраны для сталай работы, часамі можна практыкаваць таксама **супольную работу абодвых настаўнікаў з усімі групамі.** Падобнае супрацоўніцтва настаўнікаў можна практыкаваць пры правядзеньні некаторых экскурсій, пры дэманстрацыі складанага вопыту, які зьяўляецца цікавым для ўсіх груп, пры падрыхтоўцы да сьвята, а таксама пры правядзеньні грамадзкай работы. Але ў працэсе падобнай калектыўнай работы асабліва важна яскрава разьмежаваць ролю кожнага настаўніка, каб унікнуць абязьлічкі і безадказнасьці (напрыклад, пры правядзеньні вопыту адзін настаўнік паказвае вопыт, а другі выконвае ролю асыстэнта—рыхтуе прыборы, крэсьліць на дошцы і інш.).

Падобная супольная работа двух настаўнікаў вельмі каштоўна таму, што тут магчыма калектыўнае пляваньне работы. Тут кожны ўносіць тое, у чым ён моцны, і адзін як-бы дапаўняе другога. Знаёмства абодвых настаўнікаў з усімі дзецьмі каштоўна таксама і таму, што заўсёды патрэбна мець на ўвазе каманнепрадбачаныя выпадкі (напрыклад, захворваньне альбо камандыроўка аднаго з настаўнікаў). У такіх выпадках аднаму з настаўнікаў, хоча ён ці не, прыдзецца працаваць з усімі групамі, і знаёмства з гэтымі дзецьмі зробіць яму важную паслугу. Асабліва карысны такія супольныя заняткі ў тых выпадках, калі адзін з настаўнікаў зьяўляецца пачынаючым. Выконваючы ролю памоцніка ў супольных занятках, пачынаючы настаўнік навучаецца на канкрэтным прыкладзе правільнай тэхнікі выкладаньня. Гэтыя супольныя заняткі для пачынаючага настаўніка граюць ролю свайго роду практыкума.

## Спосабы правядзеньня занятак адным настаўнікам у некалькіх групах

Супольнае вядзеньне груп магчыма ўсё-ж-такі толькі пры той умове, калі ў школе два настаўнікі, ды і то ў асобных выпадках. Але як быць аднаму настаўніку, які працуе з 2-мя, а то і з 3-мя альбо нават з 4-мя групамі, у яго штодзённай працы?

Тут магчымы наступныя спосабы правядзеньня занятак: 1) настаўнік працуе з аднэй групай, у той час, як астатнія дзеці працуюць самі; 2) усе групы працуюць самастойна, а настаўнік

дапамагае ўсім; 3) настаўнік вядзе агульную клясную работу з 2-мя групамі [1]).

Мы тут ня будзем спыняцца на такіх «спосабах» правядзеньня занятак, якія або зрываюць правядзеньне ўсеагульнага навучаньня, або патрабуюць падвойнай затраты часу ад настаўніка. Напрыклад, некаторыя настаўнікі знаходзяць выхад з становішча ў тым, што прымаюць у школу дзяцей не штогодна і такім парадкам штучна зьмяншаюць лік груп. Другія займаюцца з кожнай групай праз дзень. Відавочна, што ў тым і другім разе ўсеагульнае навучаньне застаецца толькі на паперы: на справе, у першым выпадку частка дзяцей траціць цэлы год, у другім выпадку ўсе дзеці займаюцца толькі палову часу, а другую палову праводзяць бяз справы. Аб 100 проц. прахаджэньні праграмы школы ўсімі дзецьмі ня можа быць у гэтым разе і гутаркі.

Нельга лічыць хоць крышку мэтазгодным і такі выхад з становішча, пры якім настаўнік працуе ў дзьве зьмены. Гэты спосаб правядзеньня занятак, хоць і не адбіваецца непасрэдна на працы дзяцей, усё-ж ён пазбаўляе настаўніка магчымасьці павысіць сваю кваліфікацыю, весьці грамадзкую работу, разумна арганізаваць досуг. У выпадку, калі лік груп вялікі (3—4), гэты прыём можна выкарыстаць толькі часткова, такім парадкам, каб адна з груп (напрыклад 1-ая) прыходзіла троху раней ад іншых (на поўгадзіны) і адна група (напрыклад 3-ая) ухадзіла троху пазьней ад іншых. Такая арганізацыя дасьць настаўніку магчымасьць правесьці найбольш важную работу з якой-небудзь аднэй групай пры адсутнасьці іншых.

Ня спыняючыся больш на падобных захадах, пярэйдзем да разгляду асноўных спосабаў правядзеньня занятак з некалькімі групамі, якія даюць настаўніку магчымасьць паставіць заняткі з усімі групамі на належную вышыню.

## Месца самастойнай работы дзяцей у школе пры рабоце аднаго настаўніка з некалькімі групамі

Найбольш звычайным спосабам правядзеньня занятак з некалькімі групамі зьяўляецца той, пры якім настаўнік вядзе клясныя заняткі з аднэй групай. Гэта дасьць магчымасьць настаўніку падзаняцца з кожнай групай асобна, па яе праграме. У той-ж час астатнія групы самастойна выконваюць заданьні па сваёй праграме.

Другі спосаб вядзеньня занятак з некалькімі групамі заключаецца ў тым, што **ўсе групы** працуюць самастойна, а настаўнік

[1]) У аднакамплектных школах, якія знаходзяцца недалёка адна ад другой, можна ўжыць куставаньне, г. зн. аб'яднаньне абедзьвюх школ і разьмеркаваньне іх на групы па ліку настаўнікаў. Але вырашэньне гэтага пытаньня залежыць ад органаў народнай асьветы, а не ад настаўніка.

кіруе ўсімі. Гэты спосаб добры тым, што тут настаўнік мае магчымасьць сачыць за работай дзяцей і за тым, каб яны трымаліся пэўных правіл гігіены разумовае працы, адказваць на іх пытаньні, вырашаць сумненьні і папераджаць памылкі, а гэта вельмі важна, у асаблівасьці пры рабоце з малышамі, якія не аўладалі яшчэ навыкамі самастойнай работы. Пры гэтым спосабе вядзеньня занятак наяўнасьць некалькіх груп не прадстаўляе асаблівых цяжкасьцяй у параўнаньні з работай у аднэй групе. Таму, поруч з звычайным спосабам правядзеньня занятак, аб якім мы гаварылі вышэй, настаўнік павінен аддаваць некаторы час і для самастойных занятак усіх груп пад кіраўніцтвам настаўніка.

Трэці магчымы спосаб правядзеньня занятак у некалькіх групах састаіць у тым, што настаўнік праводзіць агульную клясную работу з двумя групамі адразу. Гэты спосаб, пры правільным яго правядзеньні, дае добрыя вынікі, бо ён дазваляе настаўніку больш часу аддаць непасрэднай рабоце з дзецьмі, але весьці работу адначасна з дзьвюма групамі даволі цяжка, бо тут патрэбна паставіць справу так, каб кожнай групе гэтыя агульныя заняткі былі карысны для прахаджэньня праграмы менавіта гэтай групы. Значыцца, супольная клясная работа з дзьвюма групамі патрэбна і карысна, але яе трэба праводзіць раней, чым астатнія спосабы занятак з некалькімі групамі. З паказанага відаць, што самастойная работа дзяцей у школе з адным або двума настаўнікамі павінна заняць па неабходнасці важнейшае месца. Але для таго, каб забясьпечыць пасьпяховую прапрацоўку праграмнага матар'ялу, неабходна ўвесь працэс самастойнай работы дзяцей правільна арганізаваць і ў першую чаргу наладзіць сталае сыстэматычнае кіраўніцтва настаўніка заняткамі дзяцей, якія працуюць самастойна.

## Віды і прыёмы самастойнай работы ў 1 ступені

Для пасьпяховага вядзеньня самастойнай работы перш за ўсё неабходна, каб настаўнік меў багаты выбар рознастайных карысных відаў і прыёмаў самастойных занятак, якія былі-б даступны вучням данай групы і разам з тым садзейнічалі-б прапрацоўцы праграм.

На жаль, самастойная работа ў школе часьцей за ўсё носіць даволі аднолькавы характар: сьпісваньне з кнігі, практыкаваньні на арытмэтычных слупках і ім падобныя. Тымчасам маецца вялікая колькасьць самых рознастайных і карысных відаў і прыёмаў самастойнай работы, якія ўпаўне можна ўжыць ва ўмовах масавай двухкамплектнай і аднакамплектнай школы. Нясумненна, што рознастайнасьць прыёмаў самастойнай работы ёсьць неабходная ўмова, якая забясьпечвае посьпех, без якой немагчымы посьпех работы.

Поруч з традыцыйнымі (устарэлымі) формамі, самастойная работа з некалькімі групамі можа прыняць і іншыя самыя рознастайныя формы: работа з кнігай, з газэтай, вылічэньні, разьвязваньні задач, вымярэньні, узважваньні, вырэзваньне, склейваньне, лябараторныя работы, работа з картай, маляваньне, лепка, аплікацыі, фотамантаж, розныя віды канструкцыйных і вытворчых работ, нагляданьні, вопыты, гульні і інш.

Гэтыя рознастайныя формы самастойнай работы дзяцей могуць быць дапасаваны, бадай, да кожнай часткі праграмы: роднай мовы, матэматыкі, грамадазнаўства, прыродазнаўства, геаграфіі, выяўленчага мастацтва. Пры гэтым асобныя прыёмы самастойнай работы могуць быць вельмі рознастайны. Пакажам гэта асобна па кожнаму з пералічаных разьдзелаў праграмы [1]).

## Родная мова

**Чытаньне.** Найноўшая мэтодыка мовы распрацавала шэраг прыёмаў навучаньня **чытаньню пра сябе,** што маюць асабліва важнае значэньне. Дзеці яшчэ ў пачатковай школе павінны навучыцца хутка чытаць [2]), добра разумець прачытанае, выбіраць самае важнае, разьмяшчаць прапрацаваны матар'ял у пэўнай сыстэме, запамінаць прачытанае і даведвацца аб незразумелым. Зразумела, што ўсімі гэтымі навыкамі канчаючыя пачатковую школу павінны ўладаць ня зусім дасканала, а пастолькі, паколькі гэта даступна іх узросту і разьвіцьцю.

Выпрацоўцы гэтых навыкаў і могуць аказваць паслугу розныя прыёмы самастойнай работы ў клясе, якія можна чаргаваць з звычайнай работай па лемантары альбо па іншых гатовых падручніках і дапаможніках.

Найбольш пашыраным прыёмам навучаньня чытаньню, даступным дзецям, якія толькі што прышлі ў школу, зьяўляецца **работа з разразной азбукай** (1), з якой дзеці складаюць цэлыя словы. Гэтыя словы яны перапісваюць (першыя часы друкаванымі, а затым і прапіснымі літарамі) у свае сшыткі.

Калі гэта першая ступень пройдзена, дзеці могуць прыступіць да складаньня сказаў з паасобных слоў (2). У канвэрты ўкладзены карткі, на кожнай з якіх надрукавана адно слова. З гэтых слоў-картак можна скласьці адзін альбо некалькі сказаў. Для таго, каб дзеці маглі самі сябе праверыць, да кожнага канвэрту дадаецца лісточак, на якім напісаны сказы, што складаюцца з картак.

---

[1]) Пералік самастойных работ па працы мы не ўключаем галоўным парадкам таму, што яны падрабязна пералічаны ў праграмах; апрача таго ўрок працы патрабуе занятак настаўніка з кожнай групай асобна і таму можа быць прыраўнаны да класнай работы.

[2]) Ужо ў канцы трэцяга году дзеці павінны згодна праграм 1932 г. дасягнуць хуткасьці чытаньня пра сябе ня менш 85—90 слоў у мінуту. На практыцы-ж можна і патрэбна дасягнуць большых вынікаў.

Навучыць дзяцей 1-й групы хутка апазнаваць знаёмыя словы можна шляхам практыкаваньня, якое заключаецца ў тым, каб дзеці навучыліся **знаходзіць знаёмыя словы ў буйных загалоўках газэт** (3). Па данаму сыгналу дзеці пачынаюць шукаць знаёмыя словы ў старых газэтах (якія яны самі прыносяць у школу). Знойдзеныя словы дзеці абводзяць алоўкам. Пасьля сканчэньня работы падлічваюць хто з дзяцей альбо які рад знайшоў больш слоў.

Другі цікавы прыклад, пры дапамозе якога дзеці лёгка навучаюцца ўспрымаць асобныя словы і зьвязны тэкст, заключаецца ў **злучэньні малюнкаў адпаведным тэкстам** (4). У канвэрце[1]) ляжаць карткі са словамі ці невялікімі фразамі. Да кожнай карткі падабраны малюнак, які паказвае, што на ім напісана. Дзеці павінны самі раскласьці кожную картку побач з адпаведным малюнкам.

Усе гэтыя прыёмы ў поўнай меры даступны дзецям 1-й групы. Але некаторыя з іх могуць праводзіцца і ў 2-й групе, праўда, з некаторымі зьменамі. Так, напрыклад, толькі што зазначаны прыём можна з посьпехам ужываць у 2-й групе, але на больш цяжкім матар'яле. Калі ў 1-й групе тэкст складаецца з слоў альбо аднаго сказу, дык у 2-й групе можна даваць 2—3 сказы альбо нават нескладанае апавяданьне.

Апрача таго, у 2-й групе можна ўжываць і іншыя прыёмы. Напрыклад, замест работы (2) у 2-й групе можна практыкаваць **састаўленьне апавяданьня з паасобных сказаў** (5). У канвэртах знаходзяцца палоскі паперы, на якіх напісаны асобныя сказы, з якіх патрэбна састаўляць апавяданьні. Справа ідзе пра апавяданьне, што прачытана ўжо дзецьмі (непасрэдна для гэтай работы альбо крыху раней).

Добрым практыкаваньнем у сыстэматызацыі зьяўляецца **клясыфікацыяй слоў і фраз па 2-х альбо 3-х рубрыках** (6), што можна ўжываць ужо ў 2-й групе, а ў некаторых выпадках і ў 1-й (у канцы году). Робіцца гэта так: кожнаму вучню даецца канвэрт, у якім знаходзяцца 2 альбо 3 вялікія паперкі з загалоўкамі ці рубрыкамі, напрыклад, **мэбля, плацьце, пісьмовыя прылады і шмат іншых паперак.** На кожнай з гэтых апошніх напісана якое-небудзь слова, што мае адносіны да аднаго з загалоўкаў; напрыклад: **ручка, стол, аловак, пальто, сарочка** і ім падобныя. Дзеці павінны ўкладаць маленькія паперкі ў вялікія.

У 3-й групе таксама можна ўжываць работы (5) і (6), але на больш складаным матар'яле. Напрыклад, пры рабоце (6) лік рубрык павінен быць большым.

З такой-жа дакладнасьцю можна практыкаваць у 3-й групе работу (4), але крыху інакш, чым у першых двух групах, а менавіта: кожны з вучняў атрымлівае які-небудзь іншы ўрывак, перапісаны з кнігі альбо газэты; да кожнага ўрыўку маецца

[1]) Аб вырабе дапаможнікаў гл. разьдзелы „Дапаможнікі для самастойнай работы“ і „Віды дапаможнікаў“, якія могуць быць выраблены самімі дзецьмі.

малюнак, які паказвае самае галоўнае ў гэтым урыўку. Малюнкі ляжаць на стале. Кожны ўважліва прачытвае свой урывак, а затым падыходзіць да стала і падбірае адпаведна данаму ўрыўку малюнак. У канцы ўрока робіцца праверка вынікаў і падлік правільна падабраных урыўкаў.

Таксама цікавы прыём работы з газэтай (часопісам) у 3-й групе. Ён заключаецца ў **прыдумваньні загалоўка да артыкулу.** (7). Па прапанове настаўніка кожны з вучняў падбірае і вырэзвае з газэты альбо часопісу невялікі артыкул. Калі пачынаецца ўрок, кожны адразае загаловак свайго артыкулу, хавае яго, а самы артыкул перадае суседу. Такім парадкам кожны атрымлівае ад таварыша апавяданьне, але без загалоўка. Затым кожны прачытвае атрыманы ім артыкул і пасьля гэтага піша на кавалачку паперы найбольш падыходзячы, па яго думцы, загаловак. Работа канчаецца параўнаньнем прыдуманых загалоўкаў з сапраўднымі.

У 4-й групе, поруч з звычайнай прапрацоўкай кніжнага матар'ялу можна практыкаваць работы (4), (7) пры тэй умове, што зьмест работы адпавядае праграме 4-й групы.

Важнейшае месца ў 4-й групе павінна заняць **сыстэматычная работа з газэтай** (8): сыстэматычнае чытаньне газэты, вырэзваньне найбольш цікавых артыкулаў і нататак, наклейваньне іх у выглядзе альбома. Адзін з спэцыяльных прыёмаў работы з газэтаю ў старэйшых групах ужо заваяваў сабе месца ў практыцы некаторых школ і асабліва піянэр-атрадаў. Гэты прыём вядомы пад назвай **«мэтаду паўпрэдаў»** (9). Вось апісаньне гэтага прыёму, якое дадзена адным настаўнікам:

«Для таго, каб дзеці былі ў курсе міжнародных падзей, з дзяцей 4-х груп абіраюцца «паўпрэды», г. зн. прадстаўнікі пасобных дзяржаў. Гэтыя прадстаўнікі абавязаны сачыць за падзеямі ў тэй дзяржаве, да якой яны прымацаваны (напрыклад, Кітай, Японія, Англія і г. д.). На працягу дэкады дзіцё сочыць за газэтай па свайму разьдзелу, робіць запісы, выразкі выдатных момантаў, абгаварваючы іх з таварышамі.

Затым наладжваюцца групавыя канфэрэнцыі з паведамленьнямі паўпрэдаў, на якіх задаюцца пытаньні і абгаварваюцца матар'ялы. Пасьля канфэрэнцыі высоўваюцца па жаданьню новыя паўпрэды, матар'ялы-ж—выразкі, карыкатуры і інш. афармляюцца ў выглядзе альбома. Калі прыводзяцца цыфры, дык яны выкарыстоўваюцца для красьленьня дыяграм (напрыклад, рост беспрацоўя ў капіталістычных краінах). Такі від работы асабліва цікавіць дзяцей; яны ўцягваюць іншыя групы, і ўсе выпісваюць газэты. Такім парадкам дзецям прышчапляецца любоў да газэты, яны набываюць навык выбіраць галоўнае, найбольш выдатнае з газэт, а таксама прывакаюць рабіць паведамленьне аб ходзе бягучых падзей» [1]).

[1]) Гл. часопіс „Методика политехнической школы“ № 1 за 1932 г. стар. 59.

Да такога апісаньня можна толькі дадаць, што, поруч з «паўпрэдамі» чужаземных і саюзных рэспублік, могуць вылучацца вучні, якія павінны заўсёды сачыць за паведамленьнямі з фронту індустрыялізацыі, за работай на новабудоўлі і інш.

**Пісьмо.** Для таго, каб вучні набылі правільныя навыкі пісьма, ім патрэбна як мага часьцей правяраць напісанае паводле друкаванага тэксту. Таму найноўшая мэтодыка пісьма адхіляе дыктоўку, як спосаб пастаяннага практыкаваньня і рэкамэндуе часьцей практыкаваць сьпісваньне з друкаванага альбо рукапіснага тэксту. Але сьпісваньне карысна толькі тады, калі яно не зьяўляецца мэханічным, бо ў гэтым апошнім выпадку дзеці перастаюць адносіцца да работы з увагай і зацікаўленасьцю, і работа таму губляе ўсялякі сэнс.

Таму вельмі карыснымі зьяўляюцца такія віды перапіскі, якія патрабуюць напружанай увагі і зьвязаны з разумовым намаганьнем.

Самым простым відам «сьвядомага сьпісваньня» зьяўляецца **сьпісваньне з пасьлядуючым падкрэсьліваньнем пэўных слоў** (10). Дзецям прапануецца прачытаць апавяданьне, а затым перапісаць яго і падкрэсьліваць ці абводзіць алоўкам словы пэўнай катэгорыі (напрыклад: назва жывёл, расьлін і інш.). Пасьля сканчэньня работы можна праверыць хто больш правільна выканаў заданьне. Гэта работа падыходзіць для 1-й і 2 групы.

Другім прыёмам «сьвядомага сьпісваньня», які можна праводзіць у выглядзе самастойнай работы, зьяўляецца **сьпісваньне з устаўкай прапушчаных у кожным сказе слоў** (11). Самыя прапушчаныя словы зьмяшчаюцца асобна на лісточку ў альфабэтным парадку. З гэтага сьпісу рабяты малодшых груп падбіраюць прапушчаныя словы замест таго, каб іх угадваць. У старэйшых групах лісточкі з словамі адыгрываюць ролю толькі для самаправеркі. Гэты прыём такім парадкам можна ўжываць ва ўсіх 4-х групах, але зноў-такі на матар'яле, не аднолькавым па зьместу і па ступені цяжкасьці.

Для мэт сьвядомага сьпісваньня можа служыць таксама **перапіска раду слоў без наўмысьня ўстаўленага ў кожны рад лішняга слова** (12). Гэты прыём карысны ня толькі для ўмацаваньня навыку пісьма, але і для праверкі разуменьня прачытанага. Яго можна практыкаваць у 2-й і 3-й, а іншы раз і ў 4-й групе [1]).

Нарэшце, для мэт сьвядомага сьпісваньня можна ўжываць таксама работы, што вызначаны для разьвіцьця іншых навыкаў, у прыватнасьці чытаньня (2), (5), (6). Напрыклад, пры рабоце (6) замест паперак са словамі, якія патрэбна клясыфікаваць, можна напісаць загалоўкі на дошцы буйным шрыфтам, а астатнія словы, што маюць дачыненьне да аднаго з гэтых загалоўкаў,—тут-жа больш дробным шрыфтам, бяз пэўнага парадку. Дзеці дзеляць старонкі сшыткаў на 2, 3 альбо 4 верты-

[1]) Гл. разьдзел „Конкрэтная ілюстрацыя правядзеньня самастойнай работы."

кальных паласы (па ліку загалоўкаў); зьверху ад кожнай паласы пішацца назва загалоўкаў, а пад кожным з іх дзеці самі павінны разьмясьціць тыя словы, што маюць да яго адносіны. Такая работа карысна ня толькі для дзяцей малодшых груп, але і для старэйшых. Для рабят 4-й групы, напрыклад, загалоўкамі могуць служыць назвы саюзных рэспублік, а словамі, што адносяцца да іх—асобныя назвы гарадоў.

З другога боку, пісьмовыя работы могуць быць выкарыстаны як сродак выпрацоўкі і тых навыкаў чытаньня пра сябе, аб якіх мы вышэй гаварылі. Можна нават сказаць, што ўсякае мэтазгоднае практыкаваньне ў пісаньні ёсьць разам з тым добрае практыкаваньне ў чытаньні.

Некаторыя пісьмовыя работы асабліва карысны ў гэтым сэнсе. Сюды адносіцца **чытаньне пра сябе з кнігі альбо газэты з пасьлядуючым адказам на пытаньні** (13). Самыя пытаньні пішуцца на дошцы альбо маюцца ў гатовым выглядзе (у падручніку ці на лісточках). Гэты прыём можна практыкаваць, пачынаючы з 2-й і канчаючы 4-й групай.

Вельмі карысным зьяўляецца таксама **пісьмовае вылажэньне** (изложение—рэд.) **прачытанага** (14), якое можна ўжываць у 3-й і 4-й групе.

Апрача вылажэньня прачытаных апавяданьняў дзецям старэйшых груп можна таксама раіць складаць **пісьмовыя водзывы аб кнігах, што чытаны дома** (15).

Ужо вышэй мы гаварылі аб тым, што важна выпрацоўваць у дзяцей навыкі даведачнай работы. Гэтыя навыкі потым вельмі падыйдуць дзецям у практычнай альбо навуковай дзейнасьці. Найбольш простым і даступным прыёмам для гэтага ў І ступені зьяўляюцца **пошукі адказаў на пытаньні з апавяданьняў, прачытаных даўно** (16).

На дошцы (да ўроку) пішуцца 5—7 пытаньняў, што адносяцца да апавяданьняў, якія прачытаны дзецьмі ужо даўно. Пытаньні нумаруюцца. У кожным пытаньні пішацца назва апавяданьня, у якім зьмяшчаецца адказ на гэта пытаньне. Пасьля таго, як настаўнік растлумачыць дзецям, што патрэбна рабіць, усе адкрываюць кнігі, знаходзяць апавяданьні, карыстаючыся зьместам, і прыступаюць да пошукаў адказаў на пытаньні. Самыя пытаньні ня пішуцца, а пішацца толькі нумар пытаньня і адказ. Гэты прыём можа быць з посьпехам ужыты ў 3-й і 4-й групах. Для разьвіцьця ў рабят **літаратурных здольнасьцяй** могуць служыць: **апісаньне бачанага дзецьмі, чутага, успамінаў, (17), складаньне апавяданьняў па малюнках** (18), **пісьмовая праца на якую-небудзь заданую тэму, альбо па вольнаму выбару тэмы** (19), што можна практыкаваць з першых груп, а ў старэйшых групах апрача таго **прыдумваньне іншага пачатку альбо канца да звычайнага апавяданьня** (20). Вельмі карысны ў гэтых адносінах таксама інсцэніроўкі мастацкіх апавяданьняў (21).

Разьвіцьцю дзелавой мовы садзейнічае **самастойнае складаньне артыкулаў у насьценгазэту** (22), а таксама **ўсялякія запісы, нататкі дзелавога характару** (23),—вядзеньне дзеньнікаў, пратаколаў, складаньне заяў, запаўненьне анкет, распрацоўка правіл, інструкцый абавязацельстваў, дагавароў, запаўненьне картак (напрыклад, станцый абароны расьлін). Некаторыя з гэтых відаў запісаў можна ўжываць, пачынаючы з 1-й групы (напрыклад, кароценькія апісаньні нагляданьняў, экскурсій, працэсаў працы, здарэньняў). Але найбольшую ўвагу ім патрэбна ўдзяляць у старэйшых групах.

Нарэшце, важным відам самастойнай работы па мове зьяўляецца складаньне дапамогі самімі дзецьмі, аб чым гутарка будзе ніжэй.

## Матэматыка

**Выпрацоўка ведаў і навыкаў у вытварэньні арытмэтычных дзеяньняў.** Праграма па матэматыцы для I ступені патрабуе перш за ўсё выпрацоўкі ў дзяцей цьвёрдых ведаў і тэхнічных навыкаў у вытварэньні арытмэтычных дзеяньняў. У малодшых групах гэтага можна дасягнуць ня толькі шляхам вуснага лічэньня, але і шляхам розных самастойных работ, якія можна практыкаваць ужо на першых часох навучаньня. Сюды адносяцца: лічэньне прадметаў (шышак, запалак і ім пад.) **і разьбіўка іх на лічбовыя групы** (24), **работа з манэтамі і грашовымі знакамі** (25), **работа з цыфэрблятам** (26), а таксама **гульні ў кааператыў, у матэматычнае лёто і даміно** (27). У старэйшых групах для гэтай-жа мэты служаць **вылічэньні, падрахункі** (напрыклад, улік пасьпяховасьці альбо наведвальнасьці), **складаньне каштарысаў, вопісаў, вучот выдаткаў і іншых відаў разьлікаў, зьвязаных з калгаснай гаспадаркай** (28). Сюды-ж адносяцца і работы з даведачнікамі (у прыватнасьці чыгуначнымі), табліцамі і статыстычнымі зводкамі, напрыклад, **устаўка прапушчаных даных у табліцы** (29). Матар'ял для падобных практыкаваньняў можна знайсьці ў задачніках; па гэтаму-ж тыпу можна скласьці новыя практыкаваньні з матар'ялаў, што зьмешчаны ў газэтах.

**Разьвіцьцё геамэтрычных прадстаўленьняў і аўладаньне топаграфічнай граматай.** Другая група навыкаў, якія неабходна выпрацаваць у вучняў I ступені, зьвязана з разьвіцьцём геамэтрычных прадстаўленьняў, а таксама з аўладаньнем топаграфічнай граматнасьцю.

У першых двух групах для гэтай мэты можна практыкаваць **вырэзваньне, разьвёрстку, склейваньне і аплікацыі геамэтрычных фігур** (30), **работу з мазаікай і іншымі відамі дыдактычнага матар'ялу па геамэтрыі** (31).

У старэйшых групах для гэтай мэты можна практыкаваць розныя **вымярэньні з пасьлядуючымі запісамі, зарысоўкай і**

**красьленьнем дыяграм і картаграм** (32), а таксама **здыманьне плянаў** (33).

Самы працэс вымярэньня (напрыклад, плошчы вучасткаў і інш.) адбываецца ў пазавурочны час; самастойная-ж работа абмяжоўваецца дыяграмаваньнем, а на ўроках ІЗО (гл. ніжэй) зарысоўкай і красьленьнем пры дапамозе лінейкі, навугольніка, цыркуля і інш. прыбораў.

**Уменьне прыстасоўваць матэматычныя навыкі да разьвязваньня задач.** Матэматычныя навыкі набываюцца для таго, каб карыстацца імі ў жыцьці; а для гэтага патрэбна навучыцца вырашаць і састаўляць жыцьцёвыя задачы, якія павінны стаць паводле праграмы важным зьвяном у сыстэме работы па матэматыцы. У нас разьвязваньне задач праводзіцца галоўным парадкам са ўсёй клясай, альбо як адзін з відаў работы на даму. Тымчасам у апошнія часы даведзена, што лепшы спосаб навучаньня дзяцей уменьню разьвязваць задачы заключаецца ў тым, што рабяты самастойна рашаюць у клясе вызначаныя ім настаўнікам задачы. Поруч з **самастойным разьвязваньнем задач звычайным шляхам** (34) у старэйшых групах можна ўжываць і некаторыя іншыя прыёмы разьвязваньня задач, напрыклад, **разьвязваньне задач з вызначэньнем дзеяньняў, але бяз іх выкананьня** (35). Няма неабходнасьці, каб дзеці заўсёды вытваралі дзеяньні, што патрабуюцца ў задачы. Дастаткова, калі ў некаторых выпадках яны вызначаць, якія дзеяньні трэба зрабіць, напрыклад, калі можна спачатку вытвараць множаньне, потым складаньне і нарэшце адніманьне, яны павінны напісаць: 1) м; 2) с; 3) ад. Гэтым яны паказваюць, што зразумелі, як патрэбна разьвязваць задачу, а гэта самае галоўнае; такім парадкам, захоўваецца час для разьвязваньня большага ліку задач на працягу таго-ж самага часу.

У іншых выпадках можна карыстацца такім прыёмам для разьвязваньня задач, пры якім замест самастойнага знаходжаньня адказу апошні **выбіраецца з некалькіх** (36). Вучань павінен бяз пісьмовых вылічэньняў прадумаць ход задачы і падабраць найбольш адпаведны з адказаў, што напісаны ў канцы задачы. Гэта—надзвычай добрае практыкаваньне для таго, каб навучыць дзяцей удумвацца ва ўмовы задачы, а то шмат хто з дзяцей пачынаюць разьвязваць задачу, зусім не зразумеўшы сэнсу.

Наогул мэтадысты прышлі да таго вываду, што разьвязваньне задач залежыць у вельмі вялікай ступені ад таго, як вучань можа зразумець прачытанае. Але для гэтай мэты гэта ўменьне трэба набыць менавіта на матэматычным матар'яле. У сувязі з гэтым рэкамэндуюцца такія прыёмы, як, напрыклад, разьвязваньне задач, **што патрабуюць у выглядзе адказу «да» альбо «не»** (37), накшталт наступнай: «Янка ўстаў а 9-й гадзіне раніцы, пайшоў у школу, дзе прабыў чатыры гадзіны, а потым пайшоў абедаць і зьвярнуўся ў школу на паседжаньне вучкому,

якое павінна было пачацца а 6-й гадзіне. Хадзьба дамоў і назад працягвалася 3 гадзіны. Ці спазьніўся Янка на паседжаньне?» Альбо: «У Янкі было 13-ць алоўкаў; 5-ць ён аддаў сястры і 6-ць брату. Ці засталіся ў яго яшчэ алоўкі?»

Для гэтай-жа мэты служыць **разьвязваньне задач, у якіх дадзены ўмовы, але няма пытаньняў** (38); патрэбна самому дапісаць пытаньне, а потым разьвязаць задачу. Такія тыпы задач можна ўжываць ва ўсіх групах I ступені, пачынаючы з 2-й.

Самым каштоўным сродкам разьвіцьця ў дзяцей лічбовых прадстаўленьняў і веданьне канкрэтных лічбовых фактаў зьяўляецца **складаньне дзецьмі задач на аснове фактычных даных** (39). На дошцы ці на лістах пішуцца альбо бяруцца з падручнікаў зьвесткі, напрыклад, статыстычныя даныя аб выкананьні пяцігодкі, даныя аб нормах выпрацоўкі, аб цэнах у каапэратыве. Лепш за ўсё, калі гэтыя даныя сабраны самімі дзецьмі. Гэтыя даныя групуюцца ў табліцы, па якіх патрэбна скласьці задачы. Гэты прыём можна практыкаваць у 3-й і 4-й групах.

**Разьвіцьцё канструкцыйных і камбінатарных здольнасьцяй.** Разьвіцьця ў дзяцей канструкцыйных і камбінатарных здольнасьцяй, асабліва важных з пункту гледжаньня палітэхнізму, можна дасягнуць пры дапамозе розных **матэматычных гульняў і забаў** (40), напрыклад, разьвязваньні геамэтрычных галаваломак і прыдумваньні альбо адгадкі лічбаў.

Складаньне дапаможнікаў па матэматыцы, таксама, як і па роднай мове, зьяўляецца ня менш каштоўным практыкаваньнем для самастойнай работы па матэматыцы.

## Грамадазнаўства

У галіне грамадазнаўства самастойная работа ня можа заняць такога вялікага месца, як напрыклад у галіне мовы і матэматыкі. Асноўная работа па грамадазнаўству павінна праходзіць у выглядзе гутарак, дакладаў, экскурсій, а таксама іншых відаў калектыўных занятак.

Аднак для лепшай прапрацоўкі і замацаваньня матар'ялу ў поўнай меры магчыма і патрэбна практыкаваць час ад часу і самастойную работу па грамадазнаўству.

Сюды трэба аднесьці, перш за ўсё, розныя **віды работы з кнігай і газэтай,** аб якіх мы ўжо гаварылі ў сувязі з работай па роднай мове. Работы (4), (5), (6), (7), (9), (10), (13), (14), (15), (17), (21), (22) могуць быць дадзены на грамадазнаўчым матар'яле, для чаго могуць быць выкарыстаны артыкулы па бягучай палітыцы, апавяданьні з рэвалюцыйнага мінулага, жыцьцяпісы рэвалюцыянэраў, ударнікаў і інш.

Таксама і матэматычныя работы (28), (32), (34), (35), (36), (38), (39) могуць складацца на матар'яле грамадазнаўчага характару. Напрыклад, разьвязваньне задач, якія зьвязаны з улікам

прадукцыйнасьці працы ў калгасах, зьяўляецца добрым спосабам увязкі матэматыкі з грамадазнаўствам.

Апрача таго можна практыкаваць і спэцыяльныя віды самастойных работ па грамадазнаўству, як напрыклад **апрацоўка сабранага краязнаўчага матар'ялу** (41)—апавяданьне аб мясцовых рэвалюцыйных падзеях іім пад., а таксама **фотомантаж ілюстрацый з якой-небудзь грамадазнаўчай тэмы** (42). Робіцца гэта так: тэма (напрыклад, «Кастрычніцкая рэвалюцыя», «Чырвоная армія») разьбіваецца на падтэмы; кожнае зьвяно вырэзвае з старых часопісаў і газэт, што прыносяцца з дому, ілюстрацыі для сваей падтэмы і затым мантыруе выразаныя ілюстрацыі на газэтным лісьце. Пасьля занятак брыгадзіры ўсіх зьвеньняў складаюць агульны мантаж [1]). Гэты прыём можна практыкаваць, пачынаючы з 2-й групы. У другой-жа групе, а таксама ў 1-й у канцы году можна ўжываць **складаньне і афармленьне лёзунгаў і плякатаў да сьвят** (43). У старэйшых групах можна прапанаваць дзецям складаць дагавары па **сацспаборніцтву** (44), **а таксама зводкі і рапарты па сацспаборніцтву і ўдарніцтву** (45). Членам рэдкалегіі можна даручаць у часы самастойнай работы **рэдактаваць артыкулы ў насьценгазэту** (46), у той час, як іншыя рабяты складаюць свае ўласныя праекты артыкулаў.

## Прыродазнаўства

У гэтай галіне таксама можна ўжываць некаторыя моўныя і матэматычныя работы на прыродазнаўчым матар'яле, а менавіта: (2), (4), (5), (6), (10), (12), (13), (14), (15), (16), (17), (28), (32), (34), (39).

Апрача таго на ўроках прыродазнаўства можна арганізаваць **вядзеньне календара надвор'я** (47), некаторыя **нагляданьні і вопыты** (48), напрыклад, нагляданьне над часткамі расьлін альбо вопыт для азначэньня складу глебы, а таксама вытварэньне запісаў нагляданьняў, якія праароблены дома. Можна таксама вытвараць некаторыя **лябараторныя работы** (49)—сушэньне расьлін, складаньне калекцый, гербарый і інш.

## Геаграфія

Тут таксама можна выкарыстаць некаторыя прыёмы самастойных работ з разьдзелаў: «Родная мова» (4), (6), (8), (9), (10), (11), (12), (13), (14), (15), (16), (17), «Матэматыка» (29), (32), (33), (34), (39) і «Грамадазнаўства» (42).

На занятках па геаграфіі могуць ужывацца спэцыяльныя віды практыкаваньняў, напрыклад, **знаходжаньне адказаў на пытаньні па геаграфіі**, пры дапамозе падручніка, карты, альбо

---

1) Паводле апісаньня настаўніка Обухава—гл. у часопісу „Методика политехнической школы № 32 за 1932 г. стар. 61.

якога-небудзь іншага дапаможніка (50). Напрыклад, на дошцы, альбо на лістку пішуцца пытаньні, на якія дзеці яшчэ ня ведаюць адказаў. Каб знайсьці адказы, яны даведваюцца па падручніку, па карце альбо параўноўваюць розныя карты. Так, адна настаўніца тав. Мальцава[1]), апавядае аб тым, як вучні самі даведаліся, чаму ў Ленінградзкай вобласьці будзе больш лесапільных заводаў у канцы пяцігодкі, чым у іншых. Гэтага яны даналіся шляхам параўнаньня фізычнай карты СССР і карты пяцігодкі.

Так-жа сама можна адшукаць адказ на цэлы шэраг пытаньняў шляхам вывучэньня іншых відаў карт—карты насельніцтва, жывёл і інш.

Вельмі карысна, каб запамятаваць геаграфічнае палажэньне саюзных рэспублік і іншаземных дзяржаў, **крэсьліць контурныя карты** і пасьля гэтага пераносіць на іх розныя пункты, што нанесены на гатовай карце (51). Спачатку дзеці абводзяць контуры па звычайнай карце, а затым зарысоўваюць і нарэшце прабуюць крэсьліць напамяць.

Цікавы прыём работы з картаю зводзіцца да таго, каб **прасачыць і вызначыць на контурнай карце шлях,** што пройдзены якой-небудзь экспэдыцыяй, а таксама высьветліць жыцьцёвы шлях вядомага рэвалюцыянэра, падарожніка ды ім пад. (52).

З працай па матэматыцы зьвязана **азначэньне адлегласьцяй па карце** (паміж буйнымі тарадамі і інш.) **з дапамогаю маштабу** (53).

Для набыцьця **тапаграфічных ведаў карысны работы з пясочнай скрынкай** (54), на якой зроблены нарысы якой-небудзь мясьціны—горы, даліны, рэкі. Сюды-ж адносяцца **ўмоўныя тапаграфічныя адзнакі ваколіц** (55).

Нарэшце, у галіне геаграфіі магчымы цікавыя і карысныя **гульні** (56), якія можна выкарыстаць для самастойнай работы. Такой карыснай гульнёй зьяўляецца, напрыклад, геаграфічнае лёто, якое заключаецца ў тым, што ўсе члены зьвяна атрымліваюць па карце, пры чым кожнаму адводзіцца асобная рэспубліка, адзін член зьвяна (па чарзе) выбірае з ліку картак, якія знаходзяцца ў канвэрце ці каробцы, назву паасобных гарадоў, рэк, новых пабудоў, што адносяцца да якой-небудзь з рэспублік; астатнія члены зьвяна сочаць і кладуць карткі на адпаведнае месца. Другая гульня заключаецца ў тым, што з карты вырэзваюцца асобныя часткі аднэй і тэй-жа вялічыні і формы (напрыклад, квадраты). Патрэбна ўставіць выразаныя часткі ў адпаведныя месцы, адкуль яны выняты.

Можна таксама прыдумаць і іншыя гульні па тыпу тых гатовых гульняў, што прадаюцца для забаўных мэт.

---

[1]) Гл. вышэйадзначаны часопіс № 1 за 1932 год, стар. 60.

## Ілюстрацыйныя работы

Работы па маляваньню, лепцы, вырэзваньні, аплікацыі павінны служыць ня толькі для выпрацоўкі тэхнічных навыкаў у гэтых адносінах, але і сродкам выражэньня прадстаўленьняў, мысьляй і ведаў вучняў. Так, напрыклад, маляваньне можа служыць добрым сродкам разьвіцьця ў дзяцей навыкаў чытаньня, а таксама наглядальнасьці.

Таму, поруч з **практыкаваньнямі для разьвіцьця тэхнікі маляваньня і лепкі** (57), патрэбна ўжываць прыёмы, якія ўвязвалі-б ілюстрацыйную работу з іншымі разьдзеламі праграмы.

Так, з мэтай замацаваньня навыкаў разумець прачытанае можна рэкамэндаваць у першых двух групах маляваньне, лепку, вырэзваньне, размалёўку **па ўказаньнях, што напісаны на дошках альбо на лістках** (58); у тых-жа групах можна ўжываць **зарысоўку зьместу прачытанага** (59). Той-жа прыём можна практыкаваць і ў старэйшых групах, але ў крыху больш складаным выглядзе, а менавіта: вучні пішуць самастойныя апавяданьні (створаныя імі альбо ўкладзеныя на аснове прачытанага ў клясе і дома). Затым яны абменьваюцца сшыткамі, і кожны ілюструе работу таварыша. Пасьля гэтага работа зварачваецца аўтару, і ўрок канчаецца правядзеньнем узаемнай ацэнкі пад кіраўніцтвам настаўніка.

Для разьвіцьця разуменьня ўказаньняў вельмі карысна для старэйшых груп таксама **дарысоўка незакончаных малюнкаў** (60). Спачатку кожны з вучняў малюе што-небудзь па ўласнаму выбару, але пакідае тое-сёе незакончаным і тут-жа дае пісьмовыя ўказаньні аб тым, што яшчэ патрэбна зрабіць. Затым дзеці мяняюцца сшыткамі, і кожны, карыстаючыся ўказаньнямі аўтара, заканчвае распачаты малюнак.

Адным з прыёмаў увязкі ілюстрацыйнай работы з грамадазнаўствам зьяўляецца **фотомантаж**, аб якім мы гаварылі. Другім відам работы зьяўляецца **складаньне дыяграм і картаграм** (61); **ілюстраваньне насьценгазэты, складаньне карыкатур** (62).

Асабліва важным відам ілюстрацыйнай работы зьяўляецца **геамэтрычнае красьленьне** (63) пры дапамозе прыбораў (цыркуль, лінейка, транспартыр).

З геаграфіяй можна ўвязаць **размалёўку карт** (64), **прыгатаваньне рэльефаў мясцовасьці** (65).

У сувязі з работамі па прыродазнаўству можна ўжываць **аплікацыі** (66) (напрыклад лістоў).

## Дапаможнікі для самастойнай работы

Прыведзены пералік работ, які зусім не зьяўляецца вычарпальным, паказвае, што ў распараджэньні настаўніка, які праводзіць работу з некалькімі групамі, маецца значны выбар прыё-

маў самастойнай работы. Аднак, для таго, каб ажыцьцявіць гэтыя магчымасьці, самастойная работа, як і кожная іншая работа, патрабуе абсталяваньня. Адным з відаў такога абсталяваньня зьяўляюцца падручнікі. Але падручнікі могуць толькі частково абслужыць тыя размаітныя віды самастойнай работы, аб якіх мы зазначалі вышэй. Вось чаму настаўніку неабходна паклапаціцца аб пастаянным накапленьні дапаможнікаў для вядзеньня самастойнай работы.

Перш за ўсё трэба дамагчыся таго, каб у школе былі ня толькі крэйда, алоўкі, чарніла, але і ножніцы, кардон, клей, фарбы, каляровая папера і асабліва інструманты (прынамсі самыя простыя) для работы па дрэву і мэталю. Патрэбна, каб самі рабяты прыносілі з дому тое, чаго ў школе не хапае, хоць бы сабе ўзаемазваротна. Патрэбна таксама падумаць аб тым, каб, прынамсі на час, дастатаваць тое, чаго не хапае, з іншых устаноў (з хаты-чытальні і інш.).

Гэтыя прылады для работы зьяўляюцца найбольш важнымі дапаможнікамі, бо яны служаць для «вытварэньня сродкаў вытворчасьці», г. зн. для вырабу дапаможнікаў, што могуць быць старыстаны пры самастойнай рабоце.

Пры дапамозе гэтых «сродкаў вытворчасьці» можна паступова стварыць, як было сказана, **дыдактычны матар'ял**, г. зн. размаітныя віды дапаможнікаў для самастойнай работы.

Для гэтага можна выкарыстаць асобныя апавяданьні, ілюстрацыі і карты, выразаныя з непадыходзячых падручнікаў, а таксама з старых нумароў дзіцячых часопісаў, газэт, календароў. Увесь гэты матар'ял можна змантыраваць на кардоне. Калі яшчэ гэты матар'ял крыху дапрацаваць, напрыклад, дапісаць да апавяданьняў пытаньні, дык можа атрымацца ў поўнай меры адпаведны для работы матар'ял.

Такім-жа шляхам можна стварыць і іншыя віды дыдактычнага матар'ялу. У гэтай рабоце павінны прыняць актыўны ўдзел самі дзеці. Складаньне некаторых відаў дыдактычнага матар'ялу для другіх груп можа быць удалым відам самастойнай работы для старэйшых рабят. Разам з тым, такім парадкам, удаецца адразу размножыць матар'ялы ў дастатковым ліку экзэмпляраў. Але нават калі кожны з вучняў складае іншы матар'ял, дык і гэты апошні можа прынесьці вялізарную карысьць, асабліва калі прыняць пад увагу, што вельмі часта настаўніку даводзіцца даваць індывідуальную работу паасобных вучняў (адстаючых, адсутных альбо тых, якія забываюць навучальныя прылады).

## Віды дапаможнікаў для самастойнай работы, якія могуць быць выраблены самімі дзецьмі

1. Канвэрты з карткамі, на якіх напісаны асобныя словы для складаньня сказаў. Сказы, якія можна скласьці з слоў, што зьмешчаны ў даным канвэрце, пішуцца на асобным лістку. Канвэрты

з адпаведнымі ім лісткамі з адказам можна нумараваць адным і тым-жа нумарам. Гэты дапаможнік можна скарыстаць у 1-й групе столькі разоў, колькі з рознымі назвамі прыгатавана канвэртаў (кожны раз дзіцяці пападаецца іншы канвэрт). Дапаможнік можа быць складзены вучнямі 3-й і 4-й груп шляхам падбору фраз з лемантароў альбо прыдумваньня іх пад кіраўніцтвам настаўніка. Скарыстоўваецца для работы (2).

2. Падбор, вырэзваньне і мантаж малюнкаў альбо ўласная зарысоўка і снабжэньне іх кароткім тэкстам, напісаным буйнымі літарамі. Затым малюнкі адразаюцца ад тэксту, укладваюцца ў канвэрт і разам з імі выкарыстоўваюцца для работы.

3. Перапіска кароценькага апавяданьня на асобныя палоскі паперы. Выкарыстоўваецца для практыкаваньня (5).

4. Перапіска з падручніка альбо з іншых кніг і газэт фраз з устаўкай лішняга слова ў кожную фразу; таксама з пропускам якога-небудзь слова ў кожнай фразе. Выкарыстоўваецца для работ (11) і (12) (пералік устаўленых альбо прапушчаных слоў пішацца на асобным лісточку і служыць для самаправеркі).

5. Складаньне рубрык для клясыфікацыі, а таксама слоў, што маюць адносіны да кожнай рубрыкі, выкарыстоўваюцца для работы (6).

6. Падбор і зарысоўка малюнкаў, па якіх можна скласьці апавяданьне (самы матар'ял, з якога можна выразаць малюнкі, патрэбна загадзя прынесьці з дому і самому падрыхтаваць). Выкарыстоўваецца для работы (18).

7. Вырэзваньне і мантаж асобных апавяданьняў (кароткіх нарысаў, гумарыстычных апавяданьняў з «Крокодила», цытат, лёзунгаў) і зарысоўка галоўных думак, а затым наклейваньне матар'ялу на кардон. Камплект урыўкаў з адпаведнага ліку малюнкаў служыць матар'ялам для работы (4) (для старэйшых груп) і можа быць выкарыстан столькі раз, колькі маецца розных урыўкаў.

8. Вырабленьне лічыльнікаў (счетов), цыфэрблятаў, вагаў, гір і інш. дапаможнікаў для матэматычных работ. Выкарыстоўваецца для работ (24), (25), (26), (27), (28).

9. Вырабленьне арытмэтычнага лёто і доміно. Лёто складаецца з аднолькавых вялікіх картак (табліц) з лікамі і маленькіх, на кожнай з якіх напісаны два лікі, якія даюць у суме (альбо рознасьці) адну з лічбаў, прыведзеных у табліцы. Выкарыстоўваецца для работы (27).

10. Складаньне арытмэтычных задач і перапіска іх на лістку аднаго фармату. Выкарыстоўваецца для работы (34).

11. Пераробка задач з падручніка ў задачы, якія патрабуюць адказу («да» альбо «не»). Падобныя задачы могуць складацца рабятамі 3-й і 4-й групы, а затым разьвязвацца іншымі дзецьмі тых-жа груп. Выкарыстоўваецца для работы (37).

12. Перапіска задач і падбор да іх некалькіх адказаў, з якіх толькі адзін правільны. Можа быць складзена дзецьмі 2-й, 3-й і 4-й груп. Выкарыстоўваецца для работы (36).

13. Перапісваньне задач бяз пытаньняў. Выкарыстоўваецца для работы (38).

14. Падбор і перапісваньне дыяграм з пропускам некаторых важных даных. Падбор фактычных вестак і складаньне табліц (статыстычных, зводак і інш.). Выкарыстоўваецца для работы (29).

15. Складаньне матар'ялу для геаграфічных гульняў. Напрыклад, з контурных карт вырэзваюцца асобныя часткі, напрыклад, рэспублік СССР, да гэтых частак карт пішуцца на асобных картках назвы гарадоў, рэк і г. д., якія знаходзяцца ў кожнай з рэспублік. Гэты дапаможнік можа быць выкарыстаны як лёто. Для другой гульні па геаграфіі з большай карты вырэзваюцца асобныя часткі аднаго памеру і формы, напрыклад, квадраты альбо кружкі. Гульня зводзіцца да ўстаўкі выразаных частак у адпаведныя месцы. Майстэрства ўкладальніка дапаможніка заключаецца ў тым, што каб выразаць найбольш важныя часткі (напрыклад квадраты, на якіх намалёвана Масква, новапабудоўкі і інш.). Выкарыстоўваецца для работы (55).

16. Выраб дапаможнікаў для вопытаў па прыродазнаўству: штатываў, леек з бляхі, драцяных таганчыкаў для лябараторных работ, батанічных прэсаў з драцяным прымацаваньнем, компасаў і інш.

## Захоўваньне дапаможнікаў і раздача матар'ялаў для самастойнай работы

Для таго каб увесь матар'ял, створаны дзецьмі, захоўваўся ў цэласьці і быў заўсёды пад рукоў, яго патрэбна сыстэматызаваць і захоўваць у пэўным парадку. Сьпіс папак, у кожнай з якіх знаходзіцца які-небудзь адзін від друкаваных і рукапісных дапаможнікаў, з вызначэньнем іх зьместу павінен вісець на відным месцы. Для кожнага роду дапаможнікаў (падручнікі, папкі з рукапісным матар'ялам, прыборы для дэманстрацый вопытаў, карты, інструманты для працы) павінна быць адведзена асобнае месца ў рабочай шафе, гледзячы на тое, які від дапаможнікаў патрэбен часьцей за ўсё выкарыстоўваць. Тыя дапаможнікі, якія рэдка скарыстоўваюцца, могуць ляжаць на самай верхняй альбо ніжэйшай паліцы. Алоўкі, ручкі, пёркі, фарбы, інструманты, якімі даводзіцца часьцей за ўсё карыстацца, могуць знаходзіцца на першым пляне [1]).

Для таго, каб забясьпечыць захаванасьць і парадак дапаможнікаў, лепш за ўсё даручыць гэту справу дзецям, прычым кожны від дапаможнікаў даручаецца якому-небудзь аднаму: на-

---

[1]) Прапанова т. М. Н. Скаткіна.

прыклад аднаму вучню даручаецца дапаможнік па роднай мове, другому — па матэматыцы, трэцяму — інструманты па працы, чацьвертаму—пісьмовыя прылады і інш. Гэтым-жа вучням даручаецца **раздача тых-жа відаў дапаможнікаў,** а затым збор і ўкладваньне іх на месца [1]). Гэта мае рацыю з 2-х прычын: 1) тут дзеці прывучаюцца несьці адказнасьць за даручаную ім грамадзкую ўласнасьць; 2) падзел працы пры хаваньні і раздачы дапаможнікаў дае магчымасьць з найменшай затратай часу выканаць патрэбную падрыхтоўчую работу: кожны вылучаны для гэтай мэты вучань хутка падыходзіць да шафы, бярэ свой від дапаможнікаў і раздае іх дзецям. Такім парадкам усе дапаможнікі раздаюцца «канвэйерам».

## Выбар відаў і прыёмаў самастойнай работы

Раней мы прывялі каля 70 відаў і прыёмаў самастойных работ, большая частка якіх можа быць праведзена ў любой масавай школе. Ці азначае гэта, што кожны настаўнік павінен праводзіць усе гэтыя прыёмы хоць бы па адным разе? Не, гэта не азначае. З прыведзенымі прыёмамі работы настаўніку трэба азнаёміцца для таго, каб у яго распараджэньні быў дастатковы выбар разнастайных прыёмаў самастойнай работы. З гэтых прыёмаў ён можа выбраць толькі некаторыя, а менавіта тыя, якія па яго думцы зьяўляюцца найбольш важнымі для прахаджэньня праграмы і замацаваньня атрыманых ведаў і навыкаў. Гэтыя прыёмы ён павінен праверыць на ўласным вопыце, а надалей спыніцца на тых з іх, якія акажуцца найбольш адпаведнымі ў даных умовах і, апрача таго, найбольш даступнымі дзецям і яму самому. Гэтыя прыёмы і патрэбна практыкаваць як часьцей, даючы іх кожны раз на новым матар'яле.

## Як складаць заданьні для самастойнай работы

Посьпех самастойнай работы залежыць, аднак, ня толькі ад наліччa дапаможнікаў і выбару відаў і прыёмаў самастойнай работы, але галоўным парадкам ад **правільнай арганізацыі іх.** Тут перш за ўсё трэба адзначыць важнасьць **заданьня,** якое арганізуе ўсю наступную работу.

У якой-бы форме не давалася заданьне,—у пісьмовым выглядзе (на лістках, што раздаюцца дзецям, альбо на дошцы), альбо-ж у выглядзе адных толькі вуснх тлумачэньняў, альбо, нарэшце, у зьмешаным выглядзе,—**яно павінна быць асабліва пільна прадумана,** бо ад якасьці заданьня ў значнай ступені залежыць посьпех усёй самастойнай работы.

[1]) Прапанова настаўніцы Дзетчынскага р-ну, Маскоўск. вобласьці.

Зусім неабходна, каб дзеці ясна сабе прадстаўлялі **мэту данага заданьня.** Проста сказаць дзецям: «прачытайце апавяданьне на старонцы такой та»—недастаткова. Патрэбна яшчэ, прынамсі, ім загадзя сказаць, што яны могуць і павінны даведацца ў гэтым апавяданьні, а галоўнае,—што ад іх патрабуецца пасьля яго прачытаньня (адказы на пытаньні, аднаўленьне некаторых месц з апавяданьня і інш.). Інакш самастойная работа дзяцей будзе бяз мэты, і таму каштоўнасьць яе будзе вельмі невялікая.

Неабходна, каб заданьне было **пад сілу дзецям,** г. зн., каб яно было ня вельмі цяжкае для большай часткі групы, але ня дужа і лёгкае. Цяжкія заданьні ня толькі шкодна адбіваюцца на нэрвовай сыстэме дзіцяці, але і могуць прышчапіць дзецям шкодныя навыкі работы, бо яны вядуць да большага ліку памылак. Занадта лёгкія заданьні вядуць да заняпаду цікавасьці і да парушэньня дысцыпліны. Аднак у самым пачатку трэба даваць найбольш лёгкія заданьні, тым больш, што настаўнікі часта пераацэньваюць сілу дзяцей. Апрача таго, на першыя часы дзецям ня лёгка даецца самы працэс самастойнай работы, нават калі зьмест работы не цяжкі.

Абавязковым элемэнтам заданьняў зьяўляюцца ўказаньні аб тым **як патрэбна працаваць.** Трэба пільна прадумаць увесь працэс самастойнага выкананьня работы па заданьнях і пастарацца прадбачыць тыя цяжкасьці, з якімі дзеці могуць спаткацца. Чым больш цяжкасьцяй прадугледжана настаўнікам загадзя, тым прадукцыйней праходзіць самастойная работа дзяцей. Перш чым дзеці прыступаюць да работы, вельмі важна праверыць ці зразумелі яны, як яе патрэбна выконваць, і толькі пасьля пробнага выкананьня цяжкіх месц на адным-двух прыкладах можна прапанаваць дзецям прыступіць да выкананьня заданьня.

Зусім зразумела, што для самастойнай работы кожнай групы павінна быць падрыхтавана асобнае заданьне. Самая выдача, тлумачэньне і праверка разуменьня заданьня павінна адбывацца ў час кляснай работы настаўніка з кожнай групай. У выпадку адначаснай самастойнай работы ўсіх груп неабходна падбіраць такія віды і прыёмы работы, якія ўжо дзецям добра вядомы. Рэшту тлумачэньня настаўнік дае кожнай групе па чарзе, перш чым усе прыступаюць да працы.

Калі ў настаўніка няма асобных ведаў для кожнай групы, можна іншы раз даваць **розныя заданьні на адным і тым жа матар'яле.** Напрыклад, на дошцы напісаны два лікі. Першая група павінна іх скласьці, а 3-ая перамножыць. Альбо—напісаць апавяданьне, якое 1-я група павінна перапісаць, а 2-я ня толькі перапісаць, яле і падкрэсьліць некаторыя словы.

Аднак нельга даваць самастойную работу толькі для таго, каб чым-небудзь заняць дзяцей. Гэта фактычна азначае непрадукцыйную затрату часу і, значыцца, зрыў праграмы.

## Калектывізм у працэсе самой работы

У буржуазнай школе самастойная работа дзяцей выкарыстоўваецца для культываваньня (насаджэньня) індывідуалізма. Паміж дзецьмі штучна распальваецца супраціўніцтва пры дапамозе падарункаў і пакараньняў. Усё гэта робіцца зусім сьвядома з мэтай разбурэньня дзіцячай салідарнасьці, у якой буржуазныя пэдагогі менш за ўсё зацікаўлены.

Наўрад ці патрэбна даводзіць, што такая пастаноўка самастойнай работы нічога агульнага ня мае з задачамі савецкай школы. Нават з пункту гледжаньня простай прадукцыйнасьці, пазбаўленьне самастойнай работы—магутнага стымулу калектывізму і ўзаемадапамогі—ня вытрымлівае ніякай крытыкі.

Было-б, аднак, настолькі-ж памылковым і шкодным з пункту гледжаньня задач савецкай школы запэўняць, што ўсякая нагогул індывідуальная работа недапушчальна ў савецкай школе. Калектыўная работа ня толькі не выключае індывідуальную, але прадпалагае яе, бо пасьпяховая калектыўная работа толькі магчыма пры ўмове добрасумленнага і адказнага выкананьня сваёй работы кожным членам калектыву.

Таму, у аснове кожнай самастойнай работы павінна ляжаць менавіта індывідуальная работа. Але поруч з індывідуальнай работай усіх рабят над адным і тым-жа заданьнем патрэбна іншы раз практыкаваць таксама **падзел працы;** ён магчымы як у межах групы, калі кожнае зьвяно бярэ на сябе выкананьне розных заданьняў, што дае ў савакупнасці нешта цэлае (напрыклад, работа над інсцэніроўкай розных частак апавяданьняў), так і ў межах кожнага зьвяна, калі кожны бярэ на сябе пэўную частку агульнага заданьня (напрыклад, адшліфоўка частак якойнебудзь мадэлі). Некаторыя з відаў і прыёмаў работы, што апісаны вышэй, магчыма арганізаваць па прынцыпу падзелу працы. Такі падзел працы важны тым, што тут да агульнага стымулу супольнае працы далучаецца сьвядомасьць залежнасьці посьпеху ўсяе справы ад выконваемай кожным у асобку часткі.

Другім відам калектывізму ў рабоце зьяўляецца **ўзаемадапамога,** а таксама дапамога адстаючым з боку рабят, якія раней за іншых справіліся з сваім заданьнем. У рабоце з некалькімі групамі магчымы такія віды калектыўнай узаемадапамогі, якія цяжка ўжыць у рабоце з аднэй групай. Напрыклад, старэйшая група можа праверыць пісьмовыя работы малодшай групы.

Для разьвіцьця калектывізму карысна бывае таксама **калектыўнае спаборніцтва** паміж зьвеньнямі, радамі, двумя паловамі клясы альбо двумя групамі, якія патрэбна практыкаваць як мага часьцей.

## Кіраўніцтва самастойнай работай вучняў I ступені

Самастойная работа вучняў у клясе толькі ў тым разе прадукцыйна, калі настаўнік арганізуе правільнае кіраўніцтва—дапамогу, кантроль і нагляданьне за работай дзяцей.

У тыя гадзіны, калі настаўнік мае магчымасьць непасрэдна кіраваць усімі дзецьмі, што займаюцца самастойна, такое непасрэднае кіраўніцтва настаўніка самастойнай работай рабят можа аказаць дзецям неацанімую дапамогу.

Гэта дапамога настаўніка павінна выразіцца, у першую чаргу, у выпрацоўцы ў дзяцей **правільных навыкаў работы.** Яго абавязак у гэтых адносінах заключаецца перш за ўсё ў тым, каб трымацца элемэнтарных правіл **гігіены** разумовае працы, а менавіта: сачыць за правільнай пасадкай (рабяты ня рэдка згінаюцца ў час пісьма так, што ствараецца прамая пагроза скрыўленьня хрыбетніцы і, апрача таго, псаваньне зроку), за правільным чаргаваньнем працы і адпачынку; ён павінен паклапаціцца аб тым, каб кожнаму было відна тое, што напісана на дошцы, без асаблівага напружаньня зроку; патрэбна таксама высьцерагацца празьмернай перагрузкі, ператамленьня і напружаньня рабят і ні ў якім разе не даводзіць іх да сьпешкі і азарту.

Наступны абавязак настаўніка—навучыць дзяцей правільнай, г. зн. мэтазгоднай і эканомнай, **тэхніцы** разумовае працы (прыкладны пералік правіл разумовае працы для I ступені—гл. ніжэй). Настаўнік павінен у працэсе самастойнай работы сачыць і ўлічваць, наколькі правілы разумовае працы выконваюцца, і дапамагчы тым, хто яшчэ не навучыўся іх выконваць.

Трэба таксама навучыць дзяцей правільна і акуратна абыходзіцца з кнігамі і пісьмовымі прыладамі, а менавіта: 1) трымаць іх у парадку; 2) не забрудняць кніг, не размалёўваць іх; 3) правільна іх пералістваць, не мачыць сьлінай і не пакідаць «асьліных вушэй», не перагінаць праз вокладку; 4) абарачваць кнігі ў паперу; 5) правільна трымаць сшытак і ручку пры пісьме.

З другога боку, патрэбна весьці рашучую барацьбу з уласьцівым праяўленьнем уласьніцкіх інстынктаў у абыходжаньні з навучальнымі прыладамі. Трэба растлумачыць дзецям, што кніга ня музэйная цэннасьць, а сродак для работы. На прыкладах калектыўнага карыстаньня чарніламі, інструмантамі па працы патрэбна разьвіваць у дзецях прывычку да ўзаемадапамогі ў іх штодзённай рабоце.

Дапамога настаўніка можа выразіцца і ў адказах на пытаньні дзяцей, у паказаньнях аб тым, як справіцца з рознымі цяжкасьцямі, а таксама ў выпраўленьні допушчаных у працэсе работы фактычных памылак (калі гэтыя памылкі не мяркуецца паправіць непасрэдна пасьля работы).

Нарэшце, самастойная работа вучняў пад кіраўніцтвам настаўніка дае яму магчымасьць наглядаць за кожным дзіцём у

асобку і лепш знаёміцца з ім. Нагляданьне вучняў у працэсе самастойнай работы можна праводзіць, напрыклад, па такой схэме: 1) ці чытае дастаткова хутка; 2) ці запамінае самае галоўнае з прачытанага; 3) ці мае магчымасьць перадаць зьмест прачытанага; 4) ці дае пытаньні аб прачытаным; якасьць гэтых пытаньняў; 5) ці здолее даць адказ на звычайнае пытаньне; 6) ці здолее сам знаходзіць адказы на свае пытаньні; 7) ці ўмее фармуляваць пытаньне, на якое адказвае даны ўрывак; 8) ці выказвае свае ўласныя меркаваньні аб прачытаным; 9) ці здолее падабраць факты, каб абгрунтаваць сваю думку; 10) ці правільна разьлічвае час.

Падобная схэма карысна і ў тых адносінах, што яна дае магчымасьць выявіць адстаючых рабят. Менавіта гэтым вучням павінна быць аддадзена найбольшая ўвага ў працэсе кіраўніцтва самастойнай работай у клясе. Ім патрэбна дапамагчы правільна зразумець заданьне, знайсьці патрэбны матар'ял, прадумаць, што можна зрабіць, а галоўнае, пільна праверыць іх работу. Зразумела, што з адстаючымі рабятамі неабходна таксама весьці спэцыяльную работу, калі іншых вучняў у школе няма. У некаторых выпадках, лепш за ўсё гэта рабіць не пасьля ўрокаў, калі і настаўнік, і вучні стомлены, а да пачатку занятак.

## Улік самастойнай работы пры занятках з некалькімі групамі

Вельмі важнай неадымнай часткай правільнай арганізацыі самастойнай работы зьяўляецца ўлік, які складаецца з шэрагу ступеняў. Адзначым важнейшыя.

**Праверка правільнасьці адказаў.** Гэта можна зрабіць пры дапамозе розных прыёмаў. Адным з удалых прыёмаў падобнай праверкі зьяўляецца праверка правільнасьці работы іх **аўтарамі**, г. зн. самаправерка. Для гэтай мэты могуць служыць заўчасна падрыхтаваныя адказы да пытаньняў, задач і іншых работ. Лісткі з адказамі, загатаваныя ў дастатковай колькасьці экзэмпляраў, ляжаць на стале, і кожны па сканчэньні работы падыходзіць, бярэ ліст з адказамі і зьвярае з тым, што ў яго напісана. Калі такіх гатовых адказаў няма, для самаправеркі могуць служыць адказы, якія напісаны настаўнікам для данай групы на дошцы, альбо вуснае чытаньне правільных адказаў настаўніка.

Другім удалым прыкладам праверкі зьяўляецца **ўзаемная праверка.** Пасьля сканчэньня работы дзеці мяняюцца сшыткамі, і кожны праверае правільнасьць адказу са слоў настаўніка, альбо з дошкі ў сшытку ў свайго суседа.

Усё гэта аднак не вызваляе настаўніка ад уважлівай праверкі дзіцячых работ. Пры хатняй праверцы настаўнікам работ вельмі важна выяўляць тыповыя памылкі, г. зн. памылкі, якія

спатыкаюцца найбольш часта. Робіцца гэта так: у асобным сшытку альбо на лістку вэртыкальна пішуцца імёны дзяцей, а гарызантальна зьверху пералічваюцца тыпы памылак (напрыклад, па мове—дзеясловы ў неазначальнай форме з канчаткамі **тся** замест **ться**). Калі ў якога-небудзь вучня здараецца памылка, супроць яго імя ў вэртыкальнай графе, што адведзена данаму тыпу памылкі, ставіцца крыжык. Такім чынам аднаго погляду на гэту падвойную сыстэму ўліку дастаткова, каб вызначыць, якія памылкі часьцей здараюцца. З другога боку па гэтым-жа графіку можна адразу даведацца, якія вучні робяць найбольшы лік памылак. Ім патрэбна зрабіць асаблівую дапамогу.

**Падлік правільных адказаў і рэзультатаў работы.** Гэта вельмі каштоўны спосаб узбуджэньня цікавасьці да далейшых посьпехаў. Для таго, каб такі падлік быў магчымы, патрэбна самыя работы скласьці так, каб адказы паддаваліся падліку. Менавіта так і складзена большая частка пададзеных прыёмаў работы. Рэзультаты падліку можна выкарыстаць для арытмэтычных вылічэньняў, а таксама для дыяграмаваньня. Гэта вельмі ўмацоўвае значэньне пасьпяховасьці работы ў сьвядомасьці дзяцей.

**Тлумачэньне памылак.** Тлумачыць патрэбна ў клясе адны толькі **тыповыя** памылкі. Было-б неэканомна і нават шкодна фіксаваць увагу ўсіх дзяцей на памылках, што робяцца паасобнымі вучнямі. Гэтыя апошнія памылкі патрэбна растлумачыць у прыватнай гутарцы з рабятамі, для якіх яны маюць небясьпеку, альбо шляхам пісьмовых адзнак і ўказаньняў у сшытках гэтых рабят.

**Запісы зьместу работы.** Пажадана, каб вучні вялі **дзёньнікі** занятак, у якіх запісваюцца ўсе заданьні і работы, што выконваюцца ў клясе і дома. Апрача таго для мэт запісаў праробленай працы служыць і журнал настаўніка, куды ён заносіць падрабязнае апісаньне віду дзейнасьці, назвы прачытаных артыкулаў, выкарыстаных дапаможнікаў, нумары разьвязаных задач з падручніка і інш. Пачынаючаму настаўніку вельмі карысна, таксама вядзеньне **дзёньніка.** Час ад часу ў гэты дзёньнік заносяцца заўвагі і ўражаньні аб праведзенай рабоце, аб зробленых памылках, а таксама думкі і прапановы, якія ўзьнікаюць у настаўніка ў працэсе работы. Прагляд такога дзёньніка ў вольныя гадзіны можа зрабіць настаўніку вялікую паслугу для далейшай пасьпяховай работы.

## Канкрэтная ілюстрацыя правядзеньня самастойнай работы

Для таго каб даць нагляднае ўяўленьне аб тым, як тлумачыць заданьні, а таксама як праводзіць улік (на уроках з кожнай групай паасобку), мы падаем апісаньне самастойнай работы ў 2-й групе, карыстаючыся прыёмам з выкрэсьліваньнем лішніх слоў,

На дошцы напісана наступнае:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Шапка | 2. Футра | 3. Спадніца | 4. Галёшы | 5. Лён |
| Кепка | Паліто | Плацьце | Боты | Бавоўна |
| Галава | Плашч | Сукно | Валёнкі | Воўна |
| Шляпа | Сарочка | Штаны | Пальчаткі | Папера |
| Картуз | Шынэль | Блюза | Лапці | Скура |

Дошка закрыта паперай.

Пасьля таго, як дзеці падрыхтаваліся, настаўнік кажа: «Мы зараз праробім такую работу: у нас на дошцы напісана пяць слупкоў слоў, па пяць слоў у кожным слупку. Словы кожнага слупка маюць падабенства адно да другога, але адно слова ў кожным слупіку лішняе—яно непадобна на астатнія словы ў слупку; вы павіны перапісаць словы кожнага слупка апрача гэтага лішняга слова; значыцца, у вас у сшытках павінна быць у кожным слупку не пяць слоў, а толькі чатыры. Лішняга, чужога слова вы перапісваць ня будзеце.

Цяпер я вам пакажу на прыкладзе, як гэта зрабіць; слухайце: я ўслых буду гаварыць пяць слоў. Чатыры словы будуць падобны адно да другога, адно слова лішняе: сшытак, ручка, стол, пяро, аловак. Якія словы падобны адно да другога?—Чым яны падобны? (пісьмовыя прылады). Якое слова лішняе?»

Калі ўсё ясна, абвяшчаецца, што работа будзе праводзіцца на спаборніцтва. Спаборнічаюць чотныя рады з нячотнымі (тут маюцца на ўвазе вэртыкальныя рады; робіцца гэта для таго, каб папярэдзіць сьпісваньне). Тут папера здымаецца з дошкі, і дзеці прыступаюць к рабоце.

Пасьля таго, як большая частка рабят скончыла, суседзі абменьваюцца сшыткамі і закрываюць іх. Тым часам настаўнік хутка сьцірае на дошцы лішнія словы ў кожным раду. Затым кожны вучань, гледзячы на дошку, зьвярае работу сваіх таварышоў з тым, што напісана на дошцы, пры гэтым настаўнік прапануе дзецям на памылкі ў літарах не зьвяртаць увагі.

Пасьля таго, як сшыткі праверaны пачынаецца падлік правільна напісаных слупкоў. Падлічваць дапамагаюць рабяты, пасьля чаго абвяшчаецца рэзультат.

## Работа настаўніка ў аднэй групе пры самастойнай рабоце астатніх

Ужо з сказанага відаць, што абмежавацца самастойнай работай усіх груп пад кіраўніцтвам настаўніка немагчыма. Неабходна вылучыць час для клясных занятак з кожнай групай, хоць-бы для выдачы заданьняў, для правядзеньня ўліку, а галоўнае **для прахаджэньня той часткі праграмы кожнай групы, якая ня можа ўлажыцца** ў самастойную работу і патрабуе непасрэдных занятак з данай групай. Таму найбольш пашыраным спосабам занятак у школе з некалькімі групамі зьяўляецца

**кляснная работа настаўніка з аднэй групай, у той час як астатнія выконваюць самастойную работу.**

Галоўная цяжкасьць гэтага спосабу занятак заключаецца ў тым, што ў гэтым разе даводзіцца пакідаць каля паловы ці нават больш рабят без кіраўніцтва ў працэсе самастойнай работы. Таму, для таго, каб паставіць гэты спосаб занятак на належную вышыню, неабходна пазбавіцца як-небудзь ад толькі што вызначанага недахопу.

Калі настаўнікі два, і ў распараджэньні кожнага маецца дастаткова вялікі пакой, можна зрабіць так: у той час як адзін з настаўнікаў (што працуе, напрыклад, з 1-й і 3-й групамі) вядзе клясную работу з аднэй з груп (напрыклад, з 1-й), другі настаўнік (які вядзе, напрыклад, 2-ю, 4-ю групу) дае абедзьвем сваім групам самастойную работу і далучае да іх яшчэ адну групу (3-ю) першага настаўніка. На наступным уроку **другі настаўнік** вядзе клясную работу з аднэй з сваіх груп (напрыклад, з 4-й), а першы кіруе самастойнай работай абедзьвёх сваіх груп (1-й і 3-й), ды яшчэ аднэй групай другога настаўніка (2-й). Такім парадкам кожны настаўнік мае магчымасьць працаваць з аднэй з груп звычайным шляхам, а другая знаходзіцца пад кіраўніцтвам другога настаўніка, хоць і працуе над сваім заданьнем.

У іншых выпадках частковы выхад з становішча можа быць знойдзены ў тым, што малодшую групу, якая больш за ўсё мае патрэбу ў кіраўніцтве, настаўнік камандыруе каго-небудзь з старэйшай групы для дапамогі малодшым, што працуюць самастойна.

## Як прыцягнуць старэйшых вучняў для дапамогі малодшым

Гэту адказную ролю можна даручыць, бязумоўна, ня ўсім вучням старэйшых груп, а толькі тым, хто лепш ад іншых спраўляецца з уласнымі занякамі. Таксама вельмі важна, каб вучань, які накіроўваецца для дапамогі малодшым таварышам, карыстаўся аўтарытэтам у рабят, апрача таго неабходна сачыць за выкананьнем наступных умоў: 1) памоцнікамі выбіраюцца не адны і тыя-ж вучні, а магчыма большы лік па чарзе, 2) памоцнік адрываецца ад свае справы толькі ў тыя гадзіны, калі настаўнік ня тлумачыць нічога новага для гэтай групы, і не на ўвесь урок [1]).

Якая-ж дапамога можа быць аказана малодшым дзецям іх старэйшымі таварышамі, што вызвалены настаўнікам для гэтай работы?

Тут можа ісьці гутарка, бязумоўна, не аб самастойным правядзеньні занятак, а толькі аб некаторых відах кіраўніцтва са-

[1]) Обухаў і Корыдалін. Как организовать и как вести занятия с несколькими отделениями, выд. 2-е, Масква, 1916 г. стар. 124.

мастойнай работы, напрыклад аб тым, каб гэтыя рабяты сачылі за выкананьнем важнейшых правіл гігіены разумовае працы, адказвалі на найбольш лёгкія пытаньні, правяралі правільнасьць напісаньня слоў, вылічэньняў, тлумачылі незразумелыя словы. У выпадку сумненьняў альбо якіх-небудзь заўважаных непаладак, старэйшы вучань робіць знак настаўніку альбо падае яму запіску.

Зразумела, перш чым камандыраваць вучня для дапамогі малодшым, патрэбна яго як сьлед праінструктаваць і азнаёміць з матар'ялам, над якім будуць працаваць яго малодшыя таварышы.

Прыцягненьне старэйшых для дапамогі малодшым можа таксама выразіцца ў калектыўнай праверцы старэйшымі дзецьмі пісьмовых работ малодшых, а таксама ў складаньні для іх дапаможнікаў, аб чым мы ўжо гаварылі раней.

Гэты прыём—прыцягненьне старэйшых на дапамогу малодшым—вельмі карысны для тых і другіх. Але ім ня трэба злоўжываць. Патрэбна заўсёды мець на ўвазе, што рабяты самі павінны вучыцца і што яны зусім не падрыхтаваны для вядзеньня хоцьбы самай лёгкай пэдагагічнай работы. Таму празьмернае злоўжываньне гэтым відам узаемадапамогі было-б шкодна двойчы: як адрыў старэйшых ад іх непасрэдных занятак, і значыцца, невыкананьне простага ўказаньня пастановы ЦК аб тым, што кожная грамадзкая работа павінна быць падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы і як простая страта тым дзецям, якім аказваецца гэтага роду «дапамога».

## Як дапамагчы дзецям, што працуюць без непасрэднага кіраўніцтва настаўніка альбо дапамогі старэйшага вучня

Другі выхад з становішча (гэта можна ўжыць асабліва ў старэйшых групах) заключаецца ў тым, што рабяты, якія працуюць самастойна, у той час, як настаўнік заняты з іншымі дзецьмі, снабжаюцца некаторымі **дапаможнікамі,** якія аблягчаюць ім самастойную работу без непасрэднага кіраўніцтва настаўніка.

Такімі дапаможнікамі зьяўляюцца лісткі для самаправеркі, пра якія мы казалі раней. Сюды-ж маюць дачыненьне **даведачнікі** (напрыклад, арфаграфічныя слоўнічкі), **табліцы** (напрыклад, табліца арытмэтычных дзеяньняў альбо табліца мэтрычных мер), а таксама **плякаты аб тым, як патрэбна працаваць.**

Такія плякаты могуць выпрацоўвацца калектыўна самімі дзецьмі з дапамогай настаўніка альбо выносіцца настаўнікам на абгаварэньне дзяцей, а затым вывешвацца на відным месцы.

Вось прыкладны пералік агульных правіл тэхнікі разумовае працы для I ступені:

## Як патрэбна працаваць

1. Перш чым прыступіць да работы, прыгатуй усе прылады ў такім парадку, каб імі было лягчэй карыстацца.

2. Пазнаёмся добра з заданьнем і правер, ці ўсё ты зразумеў.

3. Калі што-небудзь незразумела, падумай спачатку сам і толькі, калі сам ня здолееш зразумець, зрабі знак настаўніку альбо напішы пытаньне на паперцы, а потым запытай у настаўніка.

4. У час работы сядзі прама, але бяз лішняга напружаньня.

5. Калі ты стаміўся, зрабі перапынак на мінуту ці дзьве, а затым зноў вазьміся за справу.

А вось матар'ял яшчэ да двух плякатаў.

## Як самому працаваць з кнігай

1. Чытай моўчкі, а не ўголас, ці шэптам. Калі чытаеш, не вадзі пальцам.

2. Старайся чытаць цэлыя сказы, а не асобныя словы.

3. Старайся чытаць магчыма хутчэй, але так, каб добра зразумець прачытанае.

4. Чытаючы, старайся прыпамятаваць, што яшчэ чытаў, бачыў, ці чуў аб гэтым.

5. Прачытаўшы ўрывак, закрый кнігу і паўтары ў думках сцісла тое, што ты прачытаў.

## Як навучыцца пісаць цяжкае слова

1. Спачатку прыгледзься да гэтага слова.

2. Затым зажмур вочы і пастарайся прыпамятаваць, як яно пішацца.

3. Потым адчыні вочы і правер, ці правільна ты запамятаваў слова.

4. Пасьля гэтага напішы слова, ня гледзячы ў кнігу.

5. Правер тое, што ты напісаў, з тым, што напісана ў кнізе.

6. Калі напісана няправільна, паўтарай ўсё спачатку да таго часу, пакуль не навучышся правільна пісаць слова, ня гледзячы ў кнігу.

Такім-жа парадкам можна скласьці іншыя плякаты—як разьвязваць задачы, як весьці календар надвор'я, як падрыхтавацца да ўрока і ім пад. Складаньне гэтых правіл зьяўляецца добрым практыкаваньнем у роднай мове.

Зразумела, гэтыя правілы ня трэба ўводзіць зараз, а патрэбна распрацоўваць паступова. Няма патрэбы таксама адразу

вывешваць усе правілы на плякаце. Іх можна заносіць па адным, па меры таго, як дзеці ўсьведамляюць іх неабходнасьць.

Другая практычная цяжкасьць, узьнікаючая ў выпадку самастойнай работы без кіраўніцтва, заключаецца ў тым, што дзеці вельмі лёгка адцягваюць сваю ўвагу, асабліва калі ў гэты час настаўнік вядзе цікавую клясную работу з іншымі дзецьмі ў тым-жа пакоі. Тут можна рэкамэндаваць толькі адно: працэс самастойнай работы павінен быць настолькі цікавым і інтэнсыўным, каб дзеці, якія заняты гэтай работа, захапіліся ёю. Гэтаму можа спрыяць спаборніцтва і інш. стымулы, аб якіх мы ўжо казалі раней. Рашаючае значэньне ў гэтых адносінах сыграе ўзровень **сьвядомых адносін** дзяцей да працы. Тут асабліва вялізарна роля самакіраўніцтва (аб гэтым гл. ніжэй). Органы самакіраўніцтва павінны ў прыватнасьці вылучыць дзяжурных вучняў, адказных за раздачу дапаможнікаў і за іншыя арганізацыйныя мерапрыемствы ў групе.

## Як весці клясныя заняткі з кожнай групай паасобку

У цяжкіх умовах знаходзіцца ня толькі тая група, якой даводзіцца працаваць зусім самастойна, але і тая, з якой настаўнік праводзіць клясныя заняткі. Гэта цяжкасьць заключаецца перш за ўсё ў тым, што час, які маецца ў распараджэньні настаўніка для вядзеньня клясных занятак з кожнай групай, па неабходнасьці абмежаваны, бо яму штодзённа патрэбна выкройваць час для работы па асноўных разьдзелах праграмы са ўсімі групамі. Апрача таго, яму міжвольна даводзіцца адцягваць сваю ўвагу для адказаў на пытаньні дзяцей, што працуюць самастойна, і для таго, каб наладзіць у гэтай апошняй групе парадак, а таксама для вырашэньня розных непрадбачаных цяжкасьцяй.

Для таго, каб перамагчы гэтыя недахопы, патрэбна паставіць на належную вышыню арганізацыю клясных занятак і дамагчыся таго, каб кожная мінута была выкарыстана прадукцыйна. Толькі падобнай рацыяналізацыяй клясных занятак настаўнік можа кампэнсаваць (ураўнаважыць) тыя адмоўныя бакі, што ўласьцівы гэтаму спосабу занятак, які зьяўляецца, як мы ўжо казалі раней, найбольш пашыраным у практыцы школы з некалькімі групамі.

Як-жа найбольш рацыянальна пабудаваць клясныя заняткі з кожнай групай паасобку?

Перш за ўсё, як паказала практыка, клясныя заняткі з кожнай групай у асобку лепш за ўсё будаваць па **паўгадзінных,** а не па гадзінных уроках. Пры такім падзеле ўроку настаўнік мае магчымасьць штодзённа пазаймацца з кожнай групай па розных разьдзелах праграмы.

Але для таго, каб гэтыя паўгадзінныя ўрокі былі прадукцыйны, патрэбны, каб магчыма менш часу было затрачана на падрыхтоўку да работы і інш. Гэтаму могуць дапамагчы наступныя канкрэтныя мерапрыемствы:

1) усё, што магчыма, патрэбна падрыхтаваць да урока. Напрыклад, ні ў якім разе нельга пісаць на дошцы ў час уроку тое, што ільга падрыхтаваць да ўрока. Патрэбна сваячасова паклапаціцца таксама і аб тым, каб у зусім гатовым для скарыстаньня выглядзе знаходзіліся ў пачатку ўроку наглядныя дапаможнікі, крэйда, кнігі і інш.

2) У канцы папярэдняга ўроку, альбо нават напярэдадні патрэбна дзецям сказаць, што яны будуць рабіць на даным уроку. Гэта дасьць ім магчымасьць лепш падрыхтавацца [1]).

3) Раздачу дапаможнікаў, як мы ўжо гаварылі раней, лепш за ўсё даручыць некалькім вучням, і прытым тым, якія адказваюць за іх захаваньне. Калі можна прадбачыць, што раздача ўсё-ж зойме шмат часу, гэта можна зрабіць у час перапынку альбо на папярэднім уроку, калі даная група працуе самастойна.

4) Парты і іншая школьная мэбля павінны быць расстаўлены так, каб на выхад да дошкі трацілася як мага менш часу. Патрэбна таксама зьвяртаць увагу дзяцей на неабходнасьць навучыцца магчыма хутчэй гэта рабіць.

5) Патрэбна дамагчыся таго, каб кнігі, сшыткі і іншыя прылады кожнага вучня ляжалі ў поўным парадку, з тым, каб ня траціць марна часу на іх адшуканьне.

6) Уменьне хутка і эканомна падрыхтавацца да работы важна ўключыць як пункт у дагавор аб сацспаборніцтве паміж групамі, дзяжурнымі, раздатчыкамі дапаможнікаў і вучнямі. Карысна гэта ўменьне час ад часу правяраць [2]).

## Як павысіць прадукцыйнасьць клясных занятак

Яшчэ большае значэньне маюць мерапрыемствы, накіраваныя на павышэньне прадукцыйнасьці правядзеньня саміх занятак.

Возьмем, напрыклад, гутарку. На практыцы настаўнікі маюць нахіл задаваць вялікую колькасьць пытаньняў. Падобная практыка дасталася нам у спадчыну ад дарэвалюцыйнай школы. Так напрыклад аўтары аднэй работы, якая напісана яшчэ да рэвалюцыі (Обухаў і Корыдалін) падаюць у якасьці ўзораў гутаркі, якія зьмяшчаюць больш за 40 пытаньняў [3]).

---

[1]) Прапанова т. Мацьвеева гл. часопіс „Методика политехнической школы“ № 1 за 1932 г., стар. 47.

[2]) Прапанова т. М. Н. Скаткіна. гл „Методику политехн. школы“ № 2—3 за 1931 г., стар. 74.

[3]) У прыведзенай працы стар. 108, 109 і інш.

Зразумела, што пры такой пабудове гутаркі дзеці ня маюць магчымасьці абдумаць свой адказ. Між тым, у гэтым, менавіта, і заключаецца галоўная каштоўнасьць гутаркі, а зусім ня ў тым, каб даваць мэханічныя аднаскладовыя адказы на пытаньні настаўніка.

Таму, гутарка павінна будавацца на невялікім ліку вузлавых пытаньняў (5-7), прычым кожнае пытаньне павінна быць загадзя пільна прадумана. Патрэбна прадбачыць магчымыя адказы вучняў і ў адпаведнасьці з гэтым падрыхтаваць свае дапаўненьні і тлумачэньні.

**Як правіла,** патрэбна задаваць пытаньне таму дзіцёнку, якому яно адпаведае—ня вельмі лёгкае, і ня вельмі цяжкае. Бязумоўна, настаўніку давядзецца папрацаваць для таго, каб загадзя ведаць хто і на якое пытаньне можа адказаць. Але затое, як толькі настаўнік даб'ецца посьпехаў у гэтых адносінах, ён можа быць упэўнены ў тым, што дасягнуў вядомага майстэрства ў сваёй справе.

Ітак, найбольш цяжкія пытаньні, пытаньні, якія патрабуюць дагадкі, уменьне ахапіць самае галоўнае, ужытку раней атрыманых ведаў, павінны задавацца каму-небудзь з найбольш моцных вучняў. З другога боку, лёгкія пытаньні, для адказу на якія патрэбна толькі прыпамятаваць тое, што ўжо пройдзена, альбо прывесьці які-небудзь прыклад, а таксама паўтарыць тое, што было сказана на даным уроку, патрэбна задаваць найбольш слабым. Рэшту пытаньняў патрэбна разьмеркаваць паміж серадняками ў залежнасьці ад іх цяжкасьці і асаблівасьці дзяцей.

Ва ўсіх выпадках патрэбна спачатку фармуляваць пытаньне, а потым выклікаць вучня, да якога яно накіроўваецца. Інакш настаўнік прывучыць думаць над задаваемым пытаньнем толькі таго вучня, да якога яно адрасуецца.

Другое важнае мерапрыемства па ўдасканаленьню вядзеньня клясных занятак заключаецца ў тым, каб кожнае выступленьне дзяцей—галаснае чытаньне, даклады і іншае было пільна прыгатавана дома ці ў клясе ў часы самастойных занятак астатніх вучняў. Даючы якому-небудзь з вучняў час для выступленьня, настаўнік павінен загадзя ведаць зьмест яго выступленьня і ступень падрыхтоўкі.

Што тычыцца практычных практыкаваньняў у тэхніцы чытаньня, ліку і інш., дык гэтыя практыкаваньні павінны быць кароткімі і інтэнсыўнымі (10—15 мінут штодзённа). І тут патрэбна ўнікнуць дарэмнай траты часу. Напрыклад, замест таго, каб голасна называць лікі, над якімі трэба вытвараць дзеяньні (напрыклад, множаньне), можна адзін з лікаў зьмясьціць на дошцы, а ў руках трымаць карткі, на кожнай з якіх маецца які-небудзь іншы лік. Паказваючы картку і тое, што напісана на дошцы, настаўнік эканоміць каштоўны час [1]).

[1]) Гл. Паркер. Общие методы обучения в начальной школе М. 1926 г.

## Супольная клясная работа з двумя групамі

У многіх школах праектуецца таксама і **супольная клясная работа з двумя групамі.** Падобная работа мае шэраг пераваг.

Перш за ўсё тут атрымліваецца відавочная эканомія часу: пры аднэй і той-жа затраце часу настаўнік мае магчымасьць весьці клясныя заняткі з двумя групамі. А як мы бачылі, роля клясных занятак вельмі значная—толькі тут настаўнік мае магчымасьць непасрэдна ўзьдзейнічаць на вучня; у працэсе клясных занятак дзеці выяўляюць свае запросы, дзеляцца сваім вопытам са ўсім калектывам. Супольна вырашаюць пад кіраўніцтвам настаўніка свае сумненьні і цяжкасьці і атрымліваюць эмоцыянальную зарадку для далейшай работы.

Важным зьяўляецца і **адукацыйнае** значэньне супольных занятак з двумя групамі. Пры правільнай пастаноўцы гэтай работы старэйшыя дзеці бяз страты для прахаджэньня сваёй праграмы дапамагаюць малодшым і, дапамагаючы ім, замацоўваюць свае ўласныя веды.

**І ў выхаваўчых адносінах** такія заняткі карысны для тых і іншых: малодшыя маюць прад сабой прыклад старэйшых, які яны пераймаюць, а старэйшыя падцягваюцца ў прысутнасьці малодшых.

Усё гэта правільна, але толькі пры аднэй умове: калі супольныя заняткі будуць аднолькава карысны для абедзьвюх груп. Тут мы маем на ўвазе ў першую чаргу праграму кожнай групы. Інакш ня будзе ні эканоміі часу, ні карысьці ў выхаваўчых, а тым больш у адукацыйных адносінах[1]).

Але як арганізаваць супольныя заняткі такім парадкам, каб яны былі карысны для ўсіх дзяцей?

## Супольная клясная работа з сумежнымі групамі

Калі настаўнік працуе з сумежнымі групамі (1 і 2, 2 і 3 альбо 3 і 4), дык яму лягчэй выбраць матар'ял для супольнай клясnай работы, чым пры іншых варыянтах, бо ў гэтым выпадку паміж праграмай абедзьвюх груп ёсьць больш агульнага. Можна вызначыць наступныя выпадкі, пры якіх ільга дапусьціць супольную працу з сумежнымі групамі.

1. Пры прапрацоўцы праграмнага матар'ялу, які па той ці іншай прычыне ня пройдзены старэйшай групай у мінулым годзе.

---

[1]) Небясьпека зьнікненьня розьніцы паміж групамі ў працэсе супольнай клясnай работы настолькі рэальна, што некаторыя мэтадысты толькі таму выказваюцца супраць супольных занятак груп Вопыт, аднак лавёў поўную магчымасьць правядзеньня супольных занятак бяз страты для прахаджэньня праграмы кожнай групы.

2. Пры падрыхтоўцы, правядзеньні і прапрацоўцы рэзультатаў экскурсій у новыя месцы, напрыклад, ва ўноў арганізаваную МТС, лесапільню і інш.

3. Пры правядзеньні новых вопытаў, а таксама ў рабоце з новымі наглядными дапаможнікамі—картамі, ілюстрацыямі і інш., якіх дзеці ў старэйшых групах у мінулым годзе ня бачылі.

4. Пры заслухоўваньні дакладаў дзяцей аб новых абсьледваньнях, а таксама дакладаў на тэмы бягучай палітыкі. (У выніку работы з газэтай).

5. У працэсе прапрацоўкі мастацкага матар'ялу, мастацкае чытаньне, разгляд малюнкаў, харавая дэклямацыя, драматызацыя і інш.

Ва ўсіх гэтых выпадках удзел абедзьвюх груп карысны і магчымы, але гэта не азначае, што да гэтых груп павінен быць ужыты адзін і той-жа падыход. Тут хаваецца вялікая небясьпека зьнікненьня розьніцы паміж групамі, што было-б грубейшым парушэньнем задач школы. Асноўнай адзінкай школьнай работы зьяўляецца група. Гэта мае адносіны таксама і да такіх школ, дзе на некалькі груп прыходзіцца адзін настаўнік.

Правільны спосаб занятак з рознароднай аўдыторыяй заключаецца ў тым, каб больш моцным ставіць больш цяжкія запытаньні і адносіцца з большымі патрабаваньнямі да іх адказаў, а малодшым і больш слабым дапамагаць і падбадзёрваць іх.

Канкрэтна гэты прынцып можна ўжыць у рабоце з дзьвюма групамі ў школе так: пры правядзеньні гутаркі настаўнік складае плян гутаркі такім парадкам, каб у яе ўвайшлі пытаньні, адпавядаючыя ўзроўню ведаў абедзьвех груп; пры гэтым дзеці кожнай групы адказваюць на свае пытаньні, але гутарка ў цэлым мае зьвязны характар. Калі дзеці малодшай групы ня здолеюць адказаць на заданае ім пытаньне, то настаўнік дае слова вучням старэйшай групы замест таго, каб самому падсказаць адказ.

Па гэтаму-ж прынцыпу можна арганізаваць супольнае чытаньне і разгляд мастацкага апавяданьня. Настаўнік чытае новае апавяданьне, якое яшчэ ня чыталі дзеці абедзьвех груп. Затым ён ставіць пытаньні, якія прызначаны замацаваць атрыманыя эмоцыянальныя перажываньні і скарыстаць для ўзбагачэньня ведаў дзяцей. Пры гэтым найбольш лёгкія запытаньні (напрыклад, запытаньні, што аднаўляюць у памяці факты, пададзеныя ў апавяданьні) даюцца дзецям малодшай групы, а больш цяжкія, напрыклад, пытаньні, патрабуючыя ацэнкі мастацкіх вартасьцяй твору) задаюцца старэйшай групе. Пасьля такой прапрацоўкі хто-небудзь з старэйшых дзяцей пераказвае ўсё апавяданьне.

Гэты прынцып можна ўжыць і ў правядзеньні вопыту, пляваньні экскурсіі і інш.

## Супольная кляснея работа з групамі нясумежнымі

Пры рабоце з 1 і 3 ці 2 і 4, а тым больш з 1 і 4 групамі супольная работа магчыма радзей, бо тут цяжэй выбраць матар'ял для агульнай кляснай работы. Але затое ў гэтым разе лягчэй разьмежаваць ролю абедзьвюх груп, а значыцца, унікнуць небясьпекі «ураўнілаўкі» у падыходзе да абедзьвюх груп.

Маюцца спэцыяльныя прыёмы, распрацаваныя для занятак з групамі нясумежнымі. Адзін з такіх прыёмаў састаіць у тым, калі ў час прапрацоўкі мастацкага апавяданьня альбо малюнку настаўнік ставіць пытаньні толькі малодшай групе. У гэты час старэйшыя слухаюць. Затым хто-небудзь з старэйшай групы на аснове чытаньня і заданых пытаньняў апавядае зьмест прачытанага ў зьвязным выглядзе. У гэты час слухаюць малодшыя, а затым хто-небудзь з іх можа паўтарыць зьмест апавяданьня.

Другі прыём заключаецца ў тым, што старэйшыя вучні распрацоўваюць (у час самастойнай работы) і ставяць пытаньні, а малодшыя на іх адказваюць. Бязумоўна, гэтыя пытаньні павінны быць загадзя пільна праверены настаўнікам.

Магчымы і такі спосаб супольна-кляснай работы нясумежных груп, пры якім адна з іх прымае актыўны ўдзел у рабоце, а другая слухае ці часткова ўдзельнічае. Напрыклад, пры чытаньні мастацкага апавяданьня, прапрацоўка якога цяжка для малодшай групы, старэйшая можа ўдзельнічаць у гутарцы, а малодшыя толькі слухаць. Таксама ў час чыткі апавяданьня, вельмі лёгкага для старэйшых, апошнія могуць слухаць і толькі зрэдку адказваць на найбольш цяжкія пытаньні [1]).

Застаецца яшчэ пытаньне аб магчымасьці супольнай работы пры трох групах. Супольная работа з трыма групамі ў некаторых выпадках магчыма, але яна вельмі цяжка і таму ня можа быць рэкамэндавана, асабліва пачынаючаму настаўніку. Але ў гэтым разе магчыма праводзіць заняткі з двумя групамі супольна, а трэцяй даваць самастойную работу. Гэта ўсё-ж значна лепш, чым заўсёды працаваць з аднэй групай, а астатнім даваць самастойную работу.

## Расклад занятак з некалькімі групамі

Ад таго, як складзены расклад занятак, залежыць вельмі шмат. Таму ня трэба шкадаваць часу на пільнае прадумваньне і складаньне раскладу. Тут патрэбна выходзіць з цэлага раду акалічнасьцяй.

Самае галоўнае—гэта вучэбны плян пачатковай школы і строгае разьмеркаваньне часу паміж асноўнымі разьдзеламі работы.

---

1) Гл. Обухаў і Корыдалін, там-жа стар. 97. і наступн.

Штодзённая норма вучэбных гадзін для розных груп складае для 1-й і 2-й груп—4 гадзіны ў дзень.

Для 3 групы—4—5 гадзін, а для 4—5 гадзін.

Гэты бюджэт вучэбнага часу разьмяркоўваецца між прадметамі па наступнай сетцы [1])

| | 1 гр. | 2 гр | 3 гр. | 4 гр. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Руская мова . . . . . . . | 7 | 7 | 6 | 6 |
| 2. Матэматыка . . . . . . . | 6 | 6 | 6 | 6 |
| 3. Прыродазнаўства . . . . . | 2 | 2 | 3(2) | 3 |
| 4. Грамадазнаўства . . . . . . | 2 | 2 | 2(3) | 3 |
| 5. Геаграфія . . . . . . . . | — | — | 2 | 3 |
| 6. Праца . . . . . . . . . | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 7. Замежная мова . . . . . . | — | — | — | 2 |
| 8. Фізкультура . . . . . . . | 1 | 1 | 1 | 1 |
| 9. І. З. О. . . . . . . . . | 2 | 2 | 2 | 2 |
| 10. Музо . . . . . . . . . | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Разам . . . | 24 | 24 | 26 | 30 |

З гэтага вучэбнага пляну вынікае, што работа па мове і матэматыцы павінна быць як правіла ўключана ў штодзённы расклад кожнай групы.

У расклад не ўваходзіць работа па арганізацыі дзіцячага асяродзьдзя і грамадзкая праца, на гэта аддаецца асобны час.

Далей патрэбна вырашыць пытаньне аб працягу вурока. Раней мы ўжо казалі, што для занятак з кожнай групай паасобку мэтазгодна ўстанавіць урок працягласьцю ў поўгадзіны. Гэта мае рацыю па многіх прычынах. Апрача таго, што настаўнік мае магчымасьць у гэтым разе штодзённа займацца з кожнай групай па розных разьдзелах праграмы, яму не даводзіцца надоўга пакідаць і іншых вучняў бяз непасрэднага кіраўніцтва. Апрачы таго, частая зьмена работы і чаргаваньне відаў работы стымулюе інтарэс і захоўвае дзяцей ад стамленьня. З другога боку, нязначная працягласьць клясных занятак дазваляе лепш скарыстаць вызначаны час. Нарэшце, самастойная работа наогул не павінна працягвацца без перапынку больш за паўгадзіны.

[1]) Вучэбная сетка сельскай пачатковай школы (7-дзённы рабочы тыдзень) (пастанова Калегіі і НКА РСФСР ад 19 лістападу 1932 г.)

Такім чынам, ня гледзячы на тое, што згодна вучэбнаму пляну заняткі ў нармальнай школе працягваюцца 45 мінут, у час працы з некалькімі групамі, асобныя заняткі з кожнай групай і самастойныя заняткі астатніх груп без настаўніка мэтазгодна арганізоўваць па паўгадзінных уроках.

Але як разьмяркаваць увесь час, што маецца ў распараджэньні настаўніка, які працуе з некалькімі групамі?

У многіх школах гэты час цягнецца мэханічна паміж усімі групамі так, што напрыклад, у 1-камплектнай школе на працягу першага ўроку настаўнік займаецца з 3-й групай, другога ўрока з 2-й групай, трэцяга ўрока з 1-й, затым ізноў з 2-й групай і г. д. Не цяжка бачыць, што пры такім раскладзе зусім выпадаюць іншыя спосабы занятак, а менавіта: супольная самастойная работа ўсіх груп, а таксама супольныя клясныя заняткі з дзьвюма групамі. Між тым абмежавацца адным толькі пераходам ад аднэй групы да іншай—азначае вельмі зьнізіць колькасьць і якасьць школьных занятак і ў той час пазбавіць непасрэднага кіраўніцтва дзяцей, працуючых самастойна. Таму, хоць найбольш часта настаўніку давядзецца пераходзіць з аднэй групы ў іншую, ня трэба грэбаваць і іншымі спосабамі занятак. Гэтым апошнім павінен быць аддадзены час, калі не штодзённа, дык ва ўсякім разе як мага часьцей.

Такім чынам расклад лепш за ўсё будаваць так, каб у яго ўвайшлі і паўгадзінныя заняткі з кожнай групай асобна і супольныя заняткі з дзьвюма групамі, і самастойная работа ўсіх груп пад кіраўніцтвам настаўніка. Працягласьць супольных занятак усіх груп можа быць нармальнай, г. зн. працягвацца 45 мінут. У выпадку паўгадзінных занятак перапынкі могуць быць устаноўлены ў 5 мінут.

Нарэшце, пры складаньні раскладаў патрэбна мець на ўвазе таксама цяжкасьць данага віду работы. Напрыклад, лічэньне, калі гэта магчыма, лепш даваць на другім ці трэцім уроку, а фізкультуру ці сьпевы—на адным з апошніх урокаў.

Дагэтуль мы мелі на ўвазе работу з дзьвюма групамі. Пры трох групах расклад скласьці яшчэ цяжэй, чым пры дзьвёх. У прыватнасьці, тут патрэбна здолець чаргаваць супольныя заняткі 1-й і 2-й, 2-й і 3-й і нарэшце 1-й і 3-й груп. Часткова дапаможа выйсьці з гэтага становішча настаўніку тое мерапрыемства, аб якім мы гаварылі раней: у некаторыя дні, альбо нават штодзённа вучні малодшай групы могуць прыходзіць на паўгадзіны раней, а вучні старэйшай групы—затрымлівацца на паўгадзіны пазьней.

Для таго, каб больш канкрэтна паясьніць прыёмы складаньня раскладу ў розных выпадках разьмеркаваньня груп, падаем прыкладны расклад занятак на пяцідзёнку для некаторых выпадкаў **(гл. дадатак 1).**

## Выхаваўчая работа пры занятках з некалькімі групамі

Пры занятках з некалькім групамі асабліва важнае значэньне мае правільна пастаўленая выхаваўчая работа і ўвязка яе з навучаньнем. У гэтых адносінах найбольш важна роля дзіцячага самакіраўніцтва, якое павінна быць пастаўлена на службу вучэбна-выхаваўчым мэтам школы (з пастановы ЦК). У прыватнасьці правільна наладжанае дзіцячае самакіраўніцтва вельмі дапаможа настаўніку ў арганізацыі парадку, без якога ня можа быць рацыянальна арганізаванай самастойнай работы, пры раздачы і захоўваньні дапаможнікаў, пры выбары старэйшых вучняў для дапамогі малодшым і ў шмат іншых выпадках.

Калі групы ня вельмі адрозьніваюцца па ўзроснаму складу, можна арганізаваць агульнае самакіраўніцтва, але з тым, каб кожная група мела сваіх прадстаўнікоў у кожнай камісіі ці брыгадзе. Другім важнейшым пытаньнем выхаваўчай работы зьяўляецца ўжываньне новых форм масавай работы, а менавіта сацспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкі буксір і г. д.

Сацспаборніцтва павінна быць выканана для абуджэньня сьвядомых адносін дзяцей да работы, для барацьбы з прагуламі і спазьненьнямі, для найлепшага скарыстаньня часу, для падвышэньня якасьці выконваемых работ. Спаборніцтва павінна праводзіцца паміж групамі, паміж асобнымі брыгадамі альбо зьвеньнямі ў межах кожнай групы, а таксама індывідуальна. У час падвядзеньня вынікаў работы, патрэбна выяўляць ударнікаў, што дапамагаюць пасьпяхова прапрацоўваць праграму школы.

Падобна гэтаму і грамадзкі буксір зьяўляецца добрым мэтадам для ліквідацыі адставаньня і барацьбы з рознымі школьнымі непаладкамі. Тая група ці брыгада, якая асабліва добра выконвае свае абавязкі, бярэ на буксір больш слабую групу ці брыгаду і на справе дапамагае ёй.

Для мэты падвышэньня якасьці вучобы і ўмацаваньня сьвядомай дысцыпліны можа быць скарыстана таксама насьценная газэта, у якой самі дзеці адлюстроўваць свае дасягненьні і недахопы гэтага парадку.

Нарэшце, добрая пастаноўка клюбнай работы, а таксама дружна праводзімая грамадзкая работа дапамогуць яшчэ большаму ўмацаваньню дзіцячага калектыву і ўзаемнаму зблiжэньню настаўніка і дзяцей.

## Падрыхтоўка настаўніка да работы

Зусім зразумела, што падрыхтоўка да занятак з некалькімі групамі патрабуе куды большай затраты часу і патуг, чым у звычайнай школе. Лепш за ўсё, калі настаўнік удзеліць увагу падрыхтоўцы і, у першую чаргу, складаньню раскладу яшчэ ў

час перапынку, да пачатку занятак. Гэта, у вельмі вялікай ступені, дапаможа яму справіцца з цяжкасьцямі ў працэсе работы. Тое-ж самае на працягу перапынку ад занятак патрэбна вызначыць віды і прыёмы самастойнай работы і той матар'ял, на якім іх мяркуецца правесьці.

Што тычыцца падрыхтоўкі да кожнага дню, то яна павінна стаяць у **пільным прадумваньні таго,** што павінна адбыцца ў час уроку, чым больш цяжкасьцяй улічыць настаўнік загадзя, тым больш эканомна і лепш будуць праведзены заняткі. Вялікую дапамогу ў гэтых адносінах зробіць настаўніку складаньне пісьмовых плянаў альбо канспэктаў у сшытку. Карыстаньне гэтым сшыткам, вызваліць настаўніка ад патрэбы ўсё запамінаць. Але справа зусім толькі ня ў гэтым, а галоўным чынам у тым, каб пастарацца як мага дакладней уявіць увесь ход урока,—абстаноўку, спосабы і парадак скарыстаньня наглядных і іншых дапаможнікаў, мяркуемыя адказы вучняў на пытаньні настаўніка, а таксама магчымыя цяжкасьці і спосабы іх вырашэньня.

Гэта можна зрабіць у час чаканьня якога-небудзь сходу і наогул скарыстаўшы для гэтага час, які звычайна траціцца марна.

Патрэбна таксама сваечасова падрыхтаваць усе неабходныя дапаможнікі менавіта ў тым парадку, у якім яны павінны быць скарыстаны, так каб ўсё было пад рукой. Гэта пазбавіць настаўніка ад нечаканых няпрыемнасьцяй.

Настаўніку, асабліва пачынаючаму, будзе таксама дужа карысна захоўваць нататкі, пляны ўрокаў, скарыстаны для самастойных работ матар'ял, а таксама ўзоры пісьмовых работ дзяцей, захоўваньне і зьмест гэтага матар'ялу ў пэўнай сыстэме значна аблегчыць работу ў наступным годзе.

Ня трэба таксама грэбаваць дапамогай старэйшых таварышоў. Неабходна ў выпадку якіх-небудзь цяжкасьцяй зьвяртацца за парадай да тых, хто зможа дапамагчы настаўніку,—да старэйшага таварыша, агранома, доктара і ім пад.

## Збор рацыяналізатарскіх прапаноў, як адзін з важнейшых сродкаў вырашэньня цяжкасьцяй работы з некалькімі групамі

У рабоце настаўніка да апошніх часоў вельмі ў нязначнай ступені скарыстоўваліся рацыяналізатарскія прапановы. Тымчасам гэты спосаб можа ў аграмаднай ступені ўзбагаціць настаўніка вопытам шматлікіх яго таварышоў, што працуюць ў розных канцох СССР. Гэта мае дачыненьне да работы настаўніка з некалькімі групамі, у якой кожная новая прапанова пазбаўляе настаўніка і дзяцей ад непасільнай часамі страты энэргіі. У сучаснай рабоце мы скарысталі некалькі такіх прапаноў

(гл. ссылкі). Нясумненна, аднак, што такіх прапаноў можна сабраць куды больш. Кожны настаўнік, які працуе з некалькімі групамі, менавіта таму, што гэта работа нялёгкая, можна спаткацца з некаторымі прыёмамі работы, якія могуць аказацца карыснымі для іншых настаўнікаў. Гэтыя прыёмы альбо іншыя прапановы ня трэба пакідаць пры сабе, а патрэбна паведамляць у рэдакцыю якога-небудзь часопісу, хоць-бы ў самым сьціслым выглядзе. У прыватнасьці рэдакцыя часопісу «Методика политехнической школы» адводзіць месца для разьдзелу «Рационализаторские предложения и обмен педагогическим опытом», дзе будуць зьмяшчацца таксама цікавыя прапановы аб рабоце настаўніка з некалькімі групамі. Там-жа даюцца ўказаньні аб тэхніцы складаньня гэтых прапаноў. Калі кожны настаўнік, які мае некоторы вопыт у рабоце з некалькімі групамі, унясе хоцьбы адну каштоўную прапанову аб тым, як лепш паставіць работу з некалькімі групамі, то такім парадкам будзе сабраны вялізарны матар'ял, значэньне якога будзе куды большым, чым тое, што напісана да гэтага часу па данаму пытаньню.

## Пералік цяжкасьцяй, якія патрабуюць вырашэньня шляхам унясеньня рацыяналізатарскіх прапаноў

Для таго, каб палегчыць настаўніку работу над складаньнем падобных рацыяналізатарскіх прапаноў аб занятках аднаго настаўніка з некалькімі групамі, падаем наступны пералік цяжкасьцяй, якія, па нашай думцы, больш за ўсё маюць патрэбу ў вырашэньні шляхам рацыяналізатарскіх прапаноў.

1. Пры занятках аднаго настаўніка адчасна з некалькімі групамі даводзіцца большую частку праграмы прапрацоўваць шляхам самастойнай работы дзяцей у клясе. Вельмі часта самастойная работа носіць мэханічны характар.

Якія віды і прыёмы самастойнай работы можна, па вашай думцы, рэкамандаваць? (апрача ўказаных у гэтай працы).

2. Галоўная цяжкасьць правядзеньня занятак з некалькімі групамі заключаецца ў тым, што ў той час, калі настаўнік вядзе заняткі з аднэй групай, астатнія вымушаны працаваць бадай без усялякага кіраўніцтва, гэта выклікае неабходнасьць ўважлівага інструктаваньня рабят, якім даецца самастойная работа, аб тым, як патрэбна працаваць.

Якога роду ўказаньні аб тым, як работаць, вы лічыце найбольш карыснымі? Прывядзіце ўзоры такіх указаньняў для розных груп. У якой форме патрэбна даваць гэтыя ўказаньні з тым, каб яны былі добра зразумелы дзецям? Якімі мерапрыемствамі можна забясьпечыць выкананьне гэтых указаньняў?

3. У некаторых выпадках настаўнік, які вядзе заняткі адначасна з некалькімі групамі, мае магчымасьць даваць самастой-

ную работу ўсім дзецям, для таго, каб ні адна група не засталася без кіраўніцтва.

У чым можа, па вашай думцы, выразіцца кіраўніцтва ў працэсе самастойнай работы? Як лепш за ўсё арганізаваць папярэджаньне памылак і кантроль над работай дзяцей, адказы на іх пытаньні, нагляданьне за здольнасьцямі асобных рабят і іншыя віды кіраўніцтва?

4. У тых выпадках, калі дзеці працуюць без кіраўніцтва настаўніка, неабходна так арганізаваць іх самастойную работу, каб яны па магчымасьці самі маглі атрымаць адказ на незразумелыя пытаньні, праверыць сваю работу і таму пад. Для гэтай мэты могуць служыць розныя дапаможнікі-даведачнікі, кніжкі для самаправеркі, плякаты аб тым, як патрэбна працаваць (напрыклад, як патрэбна чытаць, правільна пісаць).

Якія менавіта дапаможнікі даюць карысьць у гэтых адносінах? Калі вы іх ужывалі, прывядзіце дакладны тэкст гэтых матар'ялаў ці апішыце іх характар.

5. Кожная самастойная работа вучняў павінна правярацца. У адваротным выпадку вучні могуць замацаваць свае памылкі.

Як і калі правяраць работу і тлумачыць памылкі вучняў, прымаючы пад увагу ўмовы работы з некалькімі групамі і ў прыватнасьці тыя акалічнасьці, што ў настаўніка застаецца вельмі мала часу для клясных занятак з кожнай групай паасобку?

6. Калі настаўнік вядзе клясныя заняткі з аднэй групай, у той час як другія працуюць самастойна, яму даводзіцца нярэдка адрывацца для самых неадкладных указаньняў дзецям, што вядуць самастойную работу, для наладжваньня парадку і інш. Апрача таго, для клясных занятак з кожнай групай настаўніку ўдаецца выкройваць мала часу, таму гэты час павінен быць скарыстаны як мага больш эканомна і рацыянальна.

Якія мерапрыемствы дапамагаюць лепш за ўсё арганізаваць гэтыя клясныя заняткі з кожнай групай і лепш за ўсё скарыстаць іх час?

7. Поруч з заняткамі па чарзе з кожнай групай пры рабоце аднаго настаўніка з некалькімі групамі рэкамандуецца іншы раз весьці супольныя клясныя заняткі з некалькімі групамі.

Якія віды такіх занятак лепш за ўсё забясьпечваюць праходжэньне сваёй праграмы кожнай групай паасобку?

8. Работа з адстаючымі прадстаўляе асаблівыя цяжкасьці пры занятках аднаго настаўніка з некалькімі групамі. Тут даводзіцца працаваць ня толькі з большым лікам дзяцей, але і з дзецьмі розных узростаў, узроўню ведаў і разьвіцьця.

Якія канкрэтныя віды дапамогі найбольш мэтазгодны і даступны? Як скарыстаць для гэтай мэты старэйшых вучняў,

бацькоў, старэйшых братоў, сясьцёр і інш.? Якія ўказаньні вы ім даіцё?

9. Посьпех работы з некалькімі групамі ў значнай ступені залежыць ад падрыхтоўкі настаўніка. У прыватнасьці ад пільнага прадумваньня і складаньня гнуткага раскладу занятак. Пры гэтым важна ўлічыць цэлы шэраг акалічнасьцяй, у прыватнасьці, каб клясная работа, што вядзецца з аднэй групай, не перашкаджала самастойнай рабоце іншых. Калі настаўнікі два, патрэбна таксама ўлічыць расклад другога настаўніка.

Якія ўказаньні вы можаце даць аб складаньні раскладу пры рабоце аднаго настаўніка з дзьвюма і трыма групамі? Як кардынаваць (узгодніць) работу асобных груп?

Гэты пералік ня трэба разглядаць як вычарпальны, альбо колькі-небудзь закончаны, ён павінен быць дапоўнен фактычнымі цяжкасьцямі, якія ўзьнікаюць і будуць узьнікаць у працэсе работы з некалькімі групамі ў настаўнікаў-практыкаў. Вельмі пажадана, каб поруч з прапановамі дасылаліся і гэтыя «сустрэчныя» пытаньні. Урэшце яны будуць скарыстаны для складаньня «Тэмнікаў пэдагагічнай сьмекалкі», якія, нясумненна, адыграюць важную ролю ў справе разгортваньня рацыяналізатарскай работы сярод настаўніцтва, але яшчэ да апублікаваньня тэмніку па данаму пытаньню ў друку зроблены намі пералік цяжкасьцяй і сустрэчныя пытаньні, сабраныя на мясцох, могуць служыць матар'ялам для настаўніцкіх канфэрэнцый, мэтадычных аб'яднаньняў, а таксама для **вечароў абмену пэдагагічным вопытам** па данай тэме.

У выпадку правядзеньня такіх вечароў па пытаньню аб рабоце аднаго настаўніка з некалькімі групамі, просьба прысылаць пратакол вечару са скарыстанымі матар'яламі па адрасу: рэдакцыя сэктару кадраў Наркамасьветы.

*Дадатак 1*

## Прыкладны расклад розных спосабаў аб'яднаньня груп [1])

### ПЕРШАЯ І ТРЭЦЯЯ ГРУПЫ

| | І група | ІІІ група |
|---|---|---|
| | **Першы дзень** | |
| 8.30—9.15 | Родная мова: супольная прапрацоўка апавяданьн | |
| 9.25—9.55 | Самастойная пісьмовая работа па мове. (10 [3]) | матэматыка і геамэтрыя |
| 10—10.30 | Матэматыка: вуснае лічэньне | самаст. работа з картай (53) |
| 10.35—11.05 | Самастойная работа па матэматыцы (24). | грамадазнаўства |
| 11.10—11.55 | Фізкультура і гульні | |
| | **Другі дзень** | |
| 8.30—9 | Самаст. работа на прыродазнаўству. (47). | Прыродазнаўства |
| 9.5—9.45 | Прыродазнаўства | самаст. работа па прыродазнаўству (48). |
| 9.50—10 20 | Самаст. работа па матэматыцы (34) | |
| 10.25—11 10 | Родная мова: разгляд і разбор мастацкага малюнку. | |
| 11.20—11.50 | Праца | самаст. ілюстрацыйная работа (57). |
| 11.55—12.25 | Самаст. ілюстрацыйная работа. (57). | праца |
| | **Трэці дзень** | |
| 8 30—9 15 | Грамадазнаўства (гутарка з ІІІ групай, І слухае). | |
| 9 25—9.55 | Грамадазнаўст. | самаст. работа па грамадазнаўству (3 . |
| 10—10.30 | Самаст. работа па мове (6) | родная мова (граматыка) |

1) Прыкладныя расклады надрукаваны бяз зьмен з І выданьня.
У сувязі з пераходам сельскай школы на 7-дзённы тыдзень, расклады патрэбна складаць не на 4, а на 6 дзён. Але прынцыпы іх складаньня застаюцца тыя-ж.

2) Падкрэсьленыя віды работ адбываюцца ў прысутнасьці пэдагога.

3) Нумары, што вызначаны пры назьве самастойнай работы, азначаюць від альбо прыём, які прыведзены пад тым-жа нумарам у дадатку № 2.

| | I група | III група |
|---|---|---|
| 10.35—11.5 | Самастойная работа па тэхніцы лічэньня на адным і тым-жа матар'яле, але па розных заданьнях×. | |
| 11.10—11.40 | Вуснае лічэньне | ізо: лепка |
| 11.45—12.15 | Сьпевы | |
| 12.20—1.5 | | геаграфія |

**Чацьверты дзень**

| | | |
|---|---|---|
| 8.30—9.15 | Прыродазнаўства: правядзеньне вопыта. | |
| 9.25—9.55 | Родная мова | Самаст. работа па прыродазнаўству (зарысоўка вопыту) |
| 10—10.30 | Самаст. работа па мове (23) | Матэматыка |
| 10.35—11.5 | Матэматыка | самаст. работа па матэматыцы (32) |
| 11.10—11.40 | Самаст. работа па матэматыцы (27) | праца |
| 11.45—12.15 | Праца | самаст. работа па мове (22) |

## ТРЭЦЯЯ І ЧАЦЬВЁРТАЯ ГРУПЫ

**Першы дзень**

| | III група | IV група |
|---|---|---|
| 8.30—9.15 | Родная мова: супольнае чытаньне і разбор апавяданьня | |
| 9.25—9.55 | Самастойная работа па мове (4) | |
| 10—10.30 | Матэматыка | самаст. работа па матэматыцы (28). |
| 10.35—11.5 | Самаст. работа па матэматыцы (29) | геаграфія |
| 11.10—11.40 | Самаст. работа па геаграфіі (50) | |
| 11.45—12.15 | Фізкультура і гульні | |
| 12.20—1.5 | Праца | |

**Другі дзень**

| | | |
|---|---|---|
| 8.30—9.15 | Матэматыка: вуснае разьвязваньне задач | |
| 9.25—9.55 | Геаграфія | самаст. работа па матэматыцы (33). |

| | III група | IV група |
|---|---|---|
| 10—10.30 | Самаст. работа па геаграфіі (50). | мова (граматыка) |
| 10.35—11.5 | Мова (граматыка) | самаст. работа па мове (20) |
| 11.10—11.40 | Самаст. работа па мове (20). | грамадазнаўства (23) |
| 11.45—12.15 | Праца | самаст. работа на грамадазнаўству (41). |
| 12.20—1 5 | | мова: мастацкае чытаньне |

**Трэці дзень**

| | | |
|---|---|---|
| 8.30—9.15 | Прыродазнаўства: вопыт | |
| 9.25—9.55 | Самаст. работа па прыродазнаўству (49) | Матэматыка |
| 10—10.30 | Матэматыка | Самаст работа па матэматыцы (35) |
| 10.35—11.5 | Родная мова: прапрацоўка апавяданьняў | |
| 11.10—11.40 | Праца | самаст. работа па мове (12) |
| 11.45—12.30 | | Праца |

**Чацьверты дзень**

| | |
|---|---|
| 8 30—9.15 | Грамадазнаўства: пляnаваньне экскурсій |
| 9.25-11.10 | Экскурсія (на вытворчасьць) |
| 11.15—12 | Вучотная гутарка аб экскурсіі |
| 12.10—12.55 | Ізо: зрысоўка бачанага на экскурсіі |

## ПЕРШАЯ, ДРУГАЯ І ТРЭЦЯЯ ГРУПЫ

**Першы дзень**

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| 8.30—9.15 | Родная мова (грамата) | — | — |
| 9.25—9.55 | Самаст работа па мове (I) | Матэматыка: лічэньне | Вуснае |
| 10—10.30 | Матэматыка | самаст. работа па мове (6) | |
| 10.35-11.5 | Самаст. ізо (61) | грамадазнаўства | |
| 11.10—11.55 | Фізкультура і гульні | | |

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| 12—12.35 | — | Праца | самаст. работа па ізо (57) |
| 12.40—1.25 | — | самаст. ізо | (57) праца |

### Другі дзень

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| 8.30—9 | Матэматыка | | — |
| 9.5—9 35 | Прыродазнаўства | | самаст. работа па прыродазнаўству |
| 9.40—10.10 | Самаст. работа па мове (II) | | матэматыка |
| 10.15—10 45 | Грамадазнаўства | самаст. работа па матэматыцы (38) | |
| 10.50—11.20 | Самаст. работа па грамадазнаўству (43) | | геаграфія |
| 11.25—11.55 | Праца | самаст. работа па геаграфіі | |
| 12—12.30 | — | грамадазнаўства | самаст. работа па грамадазн. (44) |
| 12.35—1.5 | — | мова | самаст работа па мове (13) |
| 1.10—1.40 | — | — | мова |

### Трэці дзень

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| 8.30—9 | — | Матэматыка | — |
| 9.05—9 35 | Мова | самаст. работа па мове (6) | |
| 9 40—10.10 | Самаст. работа па мове (20) | мова | самаст. работа па матэматыцы (34) |
| 10.15—10.45 | Самаст. работа па матэматыцы (40) | самаст. работа па прыродазнаўству (47) | матэматыка |
| 10.50—11.10 | Сьпевы | | |
| 11.15—11.45 | Самаст. работа па прыродазнаўству | Праца | самаст. работа па геаграфіі (53) |
| 11.50—12.20 | Самаст работа па ізо (66) | — | Праца |

**Чацьверты дзень**

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| 8.30—9 | Мова | — | — |
| 9 5—9.35 | Самаст. работа па мове (10) | | грамадазнаўства |
| 9.40—10.10 | Матэматыка | | самаст. работа па грамадазнаўству (45) |
| 10.15—10.45 | Самаст работа па матэматыцы (34) | | |
| 10.50—11.20 | Самаст. работа па прыродазнаўству | | прыродазнаўства |
| 11.25—12.5 | Грамадазнаўства | самаст. работа па прыродазнаўству (48) | |
| 12.35—1.20 | — | мова (супольн. прапрацоўка малюнка) | |

*Дадатак 2*

## СЬПІС ВІДАЎ І ПРЫЁМАЎ САМАСТОЙНЫХ РАБОТ, ВЫЗНАЧАНЫХ У ТЭКСЬЦЕ

| №№ | Назва работ | У якіх групах |
|---|---|---|
| 1 | Работа з разразной азбукай . . . . . | I |
| 2 | Складаньне прапаноў з асобных слоў . . . . | I |
| 3 | Знаходжаньне знаёмых слоў у буйных загалоўках газэт . . | I |
| 4 | Злучэньне малюнкаў з адпаведным тэкстам . . . | I—IV |
| 5 | Складаньне апавяданьняў з асобных сказаў . . | II—IV |
| 6 | Клясыфікацыя слоў і фраз па рубрыках . . . | I—III |
| 7 | Прыдумваньне загалоўкаў да артыкулу. . . . | III—IV |
| 8 | Сыстэматычная работа з газэтай. . . . . | IV |
| 9 | Работа з газэтай па „мэтаду паўпрэдаў“ . . . | IV |
| 10 | Сьпісваньне з падкрэсьліваньнем пэўных слоў. . . | I—II |
| 11 | Сьпісваньне з устаўкай прапушчаных у кожным сказе слоў . | I—IV |
| 12 | Перапіска слоўных радоў без наўмыснага ўстаўленьня ў кожны рад лішняга слова . . . . | I—IV |
| 13 | Чытаньне пра сябе з кнігі ці газэты з пасьлядуючым адказам на пытаньні . . . . . . | II—IV |
| 14 | Пісьмовае вылажэньне прачытанага . . . . | III—IV |
| 15 | Пісьмовыя водзывы аб кнігах, што прачытаны дома . . | III—IV |

| №№ | Назва работ | У якіх групах |
|---|---|---|
| 16 | Пошукі адказаў на пытаньні з апавяданьняў, што прачытаны даўно . . . . . . . | III—IV |
| 17 | Апісаньне дзецьмі бачанага, чутага, а таксама ўспамінаў . | I—IV |
| 18 | Складаньне апавяданьняў па малюнках . . . | I—IV |
| 19 | Пісьмовая праца на якую-небудзь заданую тэму альбо па вольнаму выбару тэмы . . . . | II—IV |
| 20 | Прыдумваньне канца да незакончанага апавяданьня, а таксама прыдумваньне другога пачатку ці канца да другога апавяданьня . . . . . . . | III-IV |
| 21 | Інсцэніроўкі мастацкіх апавяданьняў . . . . | III—IV |
| 22 | Самастойнае складаньне артыкулаў у насьценгазэту . . | III—IV |
| 23 | Запісы дзелавога характару . . . . . | II—IV |
| 24 | Лік прадметаў і разьбіўка іх на лікавыя групы. . . | I |
| 25 | Работа з манетамі і грашовымі знакамі . . . . | I |
| 26 | Работа з цыфэрблятам . . . . . . | I |
| 27 | Гульні ў кооператыў, у матэматычнае лёто і доміно . . | I—II |
| 28 | Вылічваньні, падлікі, складаньне каштарысаў, вопісаў, улік выдаткаў . . . . . . . | III—IV |
| 29 | Устаўка прапушчаных даных у табліцы . . . . | III—IV |
| 30 | Вырэзваньне, склейваньне, разьвёртка і аплікацыя геамэтрычных фігур . . . . . . . | I—II |
| 31 | Работа з мазаікай і дыдактычным матэрыялам . . . | I—II |
| 32 | Вымярэньне з пасьлядуючымі запісамі, зарысоўкай і выкрэсьліваньнем дыяграм і картаграм . . . . | I—IV |
| 33 | Здыманьне плянаў . . . . . . | II—IV |
| 34 | Самастойнае разьвязваньне задач . . . . | II—IV |
| 35 | Разьвязваньне задач з вызначэньнем дзеяньняў, але бяз іх выкананьня . . . . . . . | III—IV |
| 36 | Разьвязваньне задач з выбарам правільнага адказу з некалькіх | II—IV |
| 37 | Разьвязваньне задач, патрабуючых у выглядзе адказу „так“ альбо „не“ . , . . . . . | II—IV |
| 38 | Разьвязаньне задач, у якіх даны ўмовы, але няма пытаньняў | II—IV |
| 39 | Складаньне задач на аснове фактычных даных . . . | III—V |
| 40 | Матэматычныя гульні і забавы . . . . . . | III—IV |
| 41 | Апрацоўка сабранага краязнаўчага матар‘ялу . . . | III—IV |
| 42 | Фотамантаж ілюстрацыі ў якой-небудзь тэме . . . | II—IV |
| 43 | Складаньне і афармленьне лёзунгаў і плякатаў да сьвят . | I—III |
| 44 | Складаньне дагавароў па соцспаборніцтву . . . | III—IV |
| 45 | Складаньне зводак і рапартоў аб ходзе соцспаборніцтва і ўдарніцтва . . . . . . | III—IV |

| №№ | Назва работы | У якіх групах |
|---|---|---|
| 46 | Рэдактаваньне артыкулаў у насьценгазэту . . . . | IV |
| 47 | Вядзеньне календара надвор'я . . . . . . | I—II |
| 48 | Самастойныя наглядальні і вопыты . . . . . | I—IV |
| 49 | Лябораторныя работы па прыродазнаўству . . . | I—IV |
| 50 | Знаходжаньне адказаў на пытаньні па геаграфіі пры дапамозе падручніка, карты і інш. . . . . | III—IV |
| 51 | Красьленьне контурных карт і паслядуючае занясеньне на іх розных пунктаў, знойдзеных на гатовай карце . . | III—IV |
| 52 | Прасочваньне і адзнака на контурнай карце шляху, які пройдзены якой-небудзь экспэдыцыяй, альбо жыцьцёвага шляху якога-небудзь рэвалюцыянэра . . . . | III—IV |
| 53 | Вызначэньне на карце адлегласьцяй з дапамогай маштабу . | III—IV |
| 54 | Работы з пясочнай скрынкай . . . . . . | III—IV |
| 55 | Паказ топографіі ваколіц. . . . . . . | III—IV |
| 56 | Геаграфічныя гульні . . . . . | III—IV |
| 57 | Работа па тэхніцы маляваньня і лепкі . . . . | I—IV |
| 58 | Размалёўка па ўказаньнях, напісаных на дошцы ці на лістах | I—II |
| 59 | Зарысоўка зьместу прачытанага . . . . . | I—II |
| 60 | Зарысоўка незакончаных малюнкаў . . . . | III—IV |
| 61 | Складаньне дыяграм і картаграм. . . . . | II—IV |
| 62 | Ілюстраваньне насьценгазэты, складаньне карыкатур . . | III—IV |
| 63 | Геамэтрычнае красьленьне . . . . . . | III—IV |
| 64 | Размалёўка карт . . . . . . . . | III—IV |
| 65 | Згатаўленьне рэльефаў мясцовасьці . . . . | III—IV |
| 66 | Аплікацыі . . . . . . . . . | I—II |

*І. М. Голуб.*

# Аб плянаваньні работы па фізыцы

Планаваньне ёсьць адзін з важнейшых вагароў у справе ўзьняцьця якасьці і эфэктыўнасьці работы выкладчыка ў школе.

Між тым гэтая работа знаходзіцца зачастую «на задворках» пэдагагічнага працэсу; выкладчыкі адмахваюцца ад важнейшага элемэнту падрыхтоўкі да непасрэднай работы ў клясе.

Наўрад ці патрэбна шмат даказваць, што плянаваньне дапамагае выкладчыку ў сыстэматызацыі вучэбнага матар'ялу, дапамагае правільнаму разьмеркаваньню паасобных разьдзелаў курсу, прымушае выкладчыка прадумаць усе этапы прапрацоўкі

данай канкрэтнай тэмы, лекцыі і т. д., выключае элемэнты выпадковасьці, стыхійнасьці, «казусаў», карацей—надае ўсяму працэсу выкладаньня ўстойлівасьць, прыводзіць да максымальнай эфэктыўнасьці пэдагагічнага працэсу.

Плянаваньне павінна складацца з 3-х момантаў: гадавога пляну, пляну тэматычнага і рабочага пляну. Асаблівае значэньне маюць два апошніх моманты. З іх і пачнем.

У гэтым артыкуле мы думаем паказаць прыклад распрацоўкі пляну тэмы па фізыцы і рабочага пляну. Для прыкладу возьмем тэму VI-га году навучаньня—ЗАКОН АРХІМЭДА Ў ВАДКАСЬЦЯХ.

## *Тэма*: **ЗАКОН АРХІМЭДА**—16 гадзін.

*Мэта распрацоўкі тэмы:* Знаёмства вучняў з законам АРХІМЭДА, яго тэарэтычным абгрунтаваньнем і шматлікімі прымяненьнямі ў тэхніцы і лябараторнай практыцы.

| Месяц і чысло | Лік гадзін | Частка тэмы | Кароткі зьмест | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 20\|II | 2 | Дэманстрац. зак. Архімэда. | Уступ<br>Досьлед з пасудзінай з адкідным дном.<br>Досьлед з пружыннымі вясамі, да якіх падвешана цэгліна.<br>Дэманстрацыя закону Архімэда на рычаговых вясох: а) пагружэньнем цела ў ваду, б) пагружэньнем цела ў іншую вадкасьць (сьпірт).<br>Формуліроўка закона Архімеда. Дэманстрацыя вядзёрка „Архімэда". | |
| (паказаць) | 2 | Тэарэтычнае абгрунтаваньне закону Архімэда. | 1. Вызначэнне рэзультацыйнай сілы (выпіхальнай) дзейнічаючай на цела, пагружанае ў вадкасьць, на канкрэтным лічбовым прыкладзе.<br>2. Вызначэньне выпіхальнай сілы, дзейнічаючай на цела, пагружанае ў вадкасьць у агульным выглядзе.<br>3. Прыклады вылічэньня выпіхальнай сілы па данаму аб'ёму пагружанага цела і спэцыфічнай вазе вадкасьцяй, у якую яно (гэта цела) пагружана; адваротная задача. | |

| Месяц і число | Лік гадзін | Частка тэмы | Кароткі зьмест | Увага |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| (паказаць) | 2 | Вызначэньне спэцыфічнай вагі на падставе закону Архімэда. | 1. Разьвязаць задачу вызначэньня спэцыфічнай вагі цьвёрдага цела на канкрэтным лічбовым прыкладзе.<br><br>2. Разьвязаць гэтую-ж задачу ў агульным выглядзе (даць формулу: $d = \frac{p}{p - p_1}$).<br><br>3. Разьвязаць задачу вызначэньня спэцыфічнай вагі вадкасьцяй на канкрэтным лічбовым прыкладзе.<br><br>4. Разьвязаць гэтую-ж задачу ў агульным выглядзе (даць формулу: $d = \frac{p - p_2}{p - p_1}$).<br><br>5. Разьвязаньне задач. | |
| (паказаць) | 2 | Закон плаваньня (як вынік зак. Архімэда) і яго прымяненьні. | 1. Вызначыць, пры якіх суадносінах паміж „$p$" (вагой пагружанага цела) і „$q$" (выпіхальнай сілай) цела тоне, плавае, знаходзіцца ў роўнавазе ўнутры вадкасьці.<br><br>2. Дасьледаваць гэта пытаньне на досьледзе (прабірка з дробам).<br><br>3. Сфармуляваць закон плаваньня.<br><br>4. Разгледзіць прымяненьне закону плаваньня ў судабудаўніцтве.<br><br>5. Разгледзіць прымяненьне закону плаваньня ў ваеннай справе. (Паплаўкі Іолшына, Палянскага, пантонны мост, падводная лодка, гутарка аб нашым РСЧФ). | |

| Месяц і чысло | Лік гадзін | Частка тэмы | Кароткі зьмест | Увага |
|---|---|---|---|---|
| | | | 6. Разгледзіць прымяненьне закону плаваньня да будовы арэомэтраў—паплаўкоў для вызначэньня спэцыфічнай вагі вадкасьцяй. | |
| (паказаць) | 4 | Лябарат. заняткі. | 1. Лябараторная работа па вызначэньні спэцыфічнай вагі цьвёрдага цела на падставе зак. Архімэда.<br>2. Лябараторная работа па вызначэньні спэцыфічнай вагі вадкасьці на падставе зак. Архімэда.<br>3. Праверка зак. плаваньня.<br>4. Зрабіць самадзелкавы арэомэтр. | |
| | | Замац. матэр. | | |
| (паказаць) | 2 | Разьвязаньне задач, зьвязаных з прымяненьнем зак. Архімэда. (вызначэньне спэцыфічнай вагі, зак. плаваньня і г. д. | | |
| (паказаць) | 2 | Паўтарэн. | Апрос вучняў па ўсёй прапрацаванай тэме. | |

Маючы пад рукамі такі плян тэмы, выкладчык здолее плянава разгарнуць сваю работу на працягу пэўнага адрэзку часу. Ён атрымлівае магчымасьць сыстэматычна канцэнтраваць сваю ўвагу на падрыхтоўцы чарговых заняткаў, да складаньня рабочага пляну кожнага вурока. Апошняе ёсьць, зразумела, штодзённая работа выкладчыка. Нельга, відавочна, спасылаючыся на тэматычны плян, адмовіцца ад рабочага пляну.

Рабочы плян павінен зьявіцца канкрэтызацыяй, дэталізацыяй паасобных этапаў пляну тэмы.

У якасьці прыкладу прыводзім ніжэй рабочы плян аднэй з частак, разабранай вышэй тэмы.

| Дата | *Рабочы плян па фізыцы.* |
| --- | --- |
| | **ВЫЗНАЧЭНЬНЕ СПЭЦЫФІЧН. ВАГІ ЦЕЛ НА ПАДСТАВЕ ЗАКОНУ АРХІМЭДА.** |
| 1. | Высьветліць неабходнасьць дакладных спосабаў па вызначэньні спэцыфічнай вагі. |
| 2. | Разьвязаць задачу вызначэньня спэцыфічнай вагі цьв. цела на лічбовым прыкладзе:<br>кусок жалеза важыць у паветры . . . . . 78 гр.<br>пры ўзважваньні ў вадзе . . . . . . . 68 „<br>Вызначыць спэцыфічную вагу жалеза. |
| 3. | Вывесьці формулу для вызначэньня ўдзельнай вагі цьвёрдага цела на падставе двох узважваньняў у агульным выглядзе:<br>цела важыць у паветры . . . . . . . $p$ гр.<br>вага ў вадзе. . . . . . . . . . $p_1$ гр.<br>адкуль $d=\frac{p}{p-p_1}$; |
| 4. | Разьвязаць задачу вызнач. спэцфічн. вагі вадкага цела на лічбовым прыкладзе:<br>кусок шкла важыць у паветры . . . . . 25 гр.,<br>у вадзе. . . . . . . . . . . 15 гр.,<br>у сьпірце . . . . . . . . . . 17 гр. |
| 5. | Вывесьці формулу для вызначэньня спэцыфічн. вагі вадкага цела ў агульным выглядзе:<br>цела ў паветры важыць . . . . . . . $p$ гр.,<br>„ у вадзе „ . . . . . . . $p_1$ гр.,<br>у дадзенай вадкасьці . . . . . . . . $p_2$ гр.<br>адкуль $d=\frac{p-p_2}{p-p_1}$; |
| 6. | Разьвязаць у клясе задачы: №№ ............ (Дзямідаў). |
| 7. | На дом даць задачы Дзямідаў №№..................<br>Брохес №№........... |

Вось два асноўных элемэнты плянаваньня—плян тэмы і плян чарговых заняткаў—якія ўзбройваюць выкладчыка на паднясьце якасьці работы, на сапраўднае, шчырае выкананьне дырэктыў партыі і ўраду.

Што тычыцца гадавога пляну, то ён прадстаўляе вельмі нескладаную справу і павінен адбіць тыя асобныя зьмены, якія, з прычыны тых ці іншых умоў, выкладчык уносіць у бюджэт часу распрацоўваемых тэм. У гэтым-жа пляне павінны быць прадугледжаны гадзіны на гадавое падагульненьне матар'ялу.

Можна раіць такую форму:

**193...г. ГАДАВЫ ПЛЯН ПА ФІЗЫЦЫ. VI год навуч. .................школа.**

| № тэмы | Кольк гадз. | З якога па якое чысл. ідзе прапрац. | Назва тэмы | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | (паказаць) | Уступ | |
| 2 | 16 | „ | Вымярэньне асн. фіз. вялічынь | |
| .. | .. | ........... | ........... | |
| .. | .. | ........... | ........... | |
| .. | .. | ........... | ........... | |
| 7 | 16 | (паказаць) | Зак. Архімэда ў вадкасьцях. | Тэма павялічана на 4 гадзіны за кошт тэмы „газы“ |
| .. | .. | ........... | ........... | |
| .. | .. | ........... | ........... | |
| 10 | (паказаць) | (паказаць) | Гадавое падагульненьне мат. р'ялу | |

Рэзюмуем. Мы намячаем тры моманты ў плянаваньні матар'ялу—гадавы вытворчы плян, плян тэмы і рабочы плян кожных занятак.

Пытаньне плянаваньня як адзін з фактараў узьняцьця якасьці работы школы, павінна стаць у цэнтры ўвагі асьветніцкай грамадзкасьці.

# Узорная лекцыя па прыродазнаўству

*(праведзена 3-IV 1933 г. у V-а кл. Менску 25 ФЗД настаўнікам Стахоўскім)*

**Т Э М А:**

«Размнажэньне расьлін».
П/т: «Радавое размнажэньне расьлін».
**Тэма лекцыі:** «Кветка і яе будова».

## МЭТАВАЯ ЎСТАНОЎКА:

Азнаёміць вучняў з будовай кветкі, што дасьць магчымасьць у далейшай працы выкарыстаць гэтыя веды для доказу эвалю-

цыйнага разьвіцьця ў расьлінным сьвеце (пераход лісточкаў падвяночка ў лепесткі, тычачкі, слупкі і г. д.), а таксама скарыстаць гэтыя веды пры выясьненьні дасягненьняў нашай савецкай навукі і ролі біялёгіі ў нашым сацыялістычным будаўніцтве: вывядзеньне новых парод культурных расьлін шляхам скрыжаваньня: ржона-пшанічныя гібрыды, расьліны высокаўраджайныя, мароза і засухаўстойлівыя, устойлівыя супроць розных хвароб, перасяленьне адных культур на месца другіх і г. д. Гэты матар'ял будзе выкарыстан для доказу зьменнасьці відаў (моманты антырэлігійнага выхаваньня).

Лекцыя разьлічана на дзьве гадзіны.

**Плян лекцыі:**

1. Праверка засваеньня матар'ялу папярэдняй лекцыі—20 мінут.
2. Уступная гутарка для сувязі пройдзенага матар'ялу з новым —10 мінут.
3. Распрацоўка жывой тэмы—45 мінут.
4. Лябараторная праца—15 мінут.

## ДЫДАКТЫЧНЫ МАТАР'ЯЛ:

Жывыя кветкі (ірыс, прымула), батанічныя табліцы (яблыня, вішня, гарох, бульба і інш.).

**Лябараторныя працы:**

Разгляд унутраных частак жывых кветак праз лупы па батанічных табліцах.

## ХОД ЛЕКЦЫІ:

**(1 частка лекцыі)**

Праверка засваеньня матар'ялу (1, 2) (прапрацаванага на папярэдняй лекцыі): 1) Рух пажыўных матэрый па сьцяблу і 2) «Будова валакністых расьлін», шляхам наступнай гутаркі:

**Пыт:** — Адкуль расьліны бяруць неабходныя для свайго жыцьця матэрыі?

**Ад:** — Расьліны бяруць неабходныя для свайго жыцьця матэрыі—часткова з глебы і большасьцю з паветра.

**Пыт:** — Якія матэрыі расьліны бяруць з глебы?

**Ад:** — З глебы расьліны бяруць ваду і мінэральныя солі.

**Пыт:** — Якія матэрыі яны бяруць з паветра?

**Ад:** — З паветра яны бяруць вуглярод.

**Пыт:** — Якімі органамі расьліны бяруць гэтыя матэрыі?

**Ад:** — Расьліны бяруць дапаможныя матэрыі карэньнямі з зямлі і лісьцямі з паветра.

**Пыт:** — Укажэце шляхі, па якіх рухаюцца тэтыя пажыўныя матэрыі?

**Ад:** — Усходзячыя сокі — вада і мінэральныя солі рухаюцца па драўніне, а нісходзячыя—арганічныя матэрыі—па лубу.

**Пыт:** — Раскажы коратка аб руху пажыўных матэрый па сьцяблу?

**Ад:** — Расьліны для свайго харчаваньня бяруць пажыўныя матэрыі з глебы і большую частку з паветра. З глебы яны бяруць ваду, мінэральныя солі, а з паветра—вуглярод. Органамі, якімі бяруць гэтыя пажыўныя матэрыі, зьяўляюцца карэньні і лісьця. З карэньняў яны падымаюцца ўверх па драўніне а з лісьцяў спускаюцца ўніз па лубу.

**Пыт:** — Пералічэце вядомыя вам валакністыя расьліны?

**Ад:** — Лён, каноплі, джут, рамі, кенаф і кендыр.

**Пыт:** — Чаму гэтыя расьліны завуцца валакністымі?

**Ад:** — Таму, што ў сьцяблі гэтых расьлін маюцца валокны, якія скарыстоўваюцца для вырабу тканіны.

**Пыт:** — У якой частцы сьцябла знаходзяцца гэтыя валокны?

**Ад:** — Яны знаходзяцца ў лубяной частцы кары.

**Пыт:** — Раскажы пра лён і яго апрацоўку?

**Ад:** — Лён расьліна аднагадовая. У лубяной частцы судзінка-валакністых пучкоў яго знаходзяцца валокны. Гэтыя валокны здабываюць такім чынам: лён рвуць, вяжуць у снапы і ставяць для прасушкі, потым яго абіваюць, мочуць, альбо сьцелюць, сушаць, труць, трэплюць, чэшуць, прадуць ніткі і ткуць розныя гатункі палатна. Лён зьяўляецца сыравінай для нашай тэкстыльнай прамысловасьці.

**Настаўнік:** У папярэдняй лекцыі мы азнаёміліся з тым, як расьліны разьвіваюцца з насеньня, як паступова ідзе гэта разьвіцьцё, якія жыцьцёвыя працэсы адбываюцца ў расьліне: дыханьне, жыўленьне, абмен матэрый і г. д. Сёньня мы пазнаёмімся з новым жыцьцёвым працэсам у расьлін — размнажэньнем. Расьліна, як і ўсякая іншая жывая істота, калі дасягае дарослаdensьці імкнецца размножыцца, г. зн. вывесьці падобныя да сябе новыя арганізмы.

Тыя часткі, з якіх разьвіваюцца новыя расьліны, вельмі разнастайныя: насеньне, бульбіна, цыбуліна, рознага роду вусы, карнявішча, галінкі, пупышкі.

Калі расьліна вырасла не з насеньня (з бульбіны, цыбуліны і і г. д.), такі спосаб размнажэньня называецца **вэгетацыйным.**

Спосаб размнажэньня расьлін насеньнем называецца **родавым** размнажэньнем. Гэтыя абодва спосабы размнажэньня выкарыстоўваюцца чалавекам у яго практычным жыцьці—расьлінаводстве. У зернавых культур пераважна карыстаюцца родавым спосабам размнажэньня, а ў гародных, садовых і цяплічных культурах шырока выкарыстоўваецца вэгетацыйны спосаб размнажэньня.

Зараз мы разгледзім родавы спосаб размнажэньня расьлін, г. зн.—праз насеньне. Насеньне разьвіваецца ў асобных органах расьлін—у кветках.

Такім чынам кветкі зьяўляюцца вельмі важнымі органамі ў так званых кветкавых расьлін. Калі-б ня было кветак — ня было-б і насеньня і культурныя расьліны павінны былі-б зьнішчыцца; па-другое, праз кветку мы выводзім новыя пароды культурных расьлін.

Мабыць вы, рабяты, чулі пра тыя вялізарнейшыя дасягненьні нашай савецкай навукі — нашых дасьледчых установ. Мабыць некаторыя з вас чулі пра Мічурына, які жыве і працуе ў горадзе Казлове (зараз Мічурынску ЦЧВ) у дзяржаўным Мічурынскім гадавальніку.

Мічурын вельмі многа вывеў новых садовых і гародных расьлін. Яго высокаякасныя сарты ігруш дасягаюць у вазе да 200 гр. Яго яблыкі важаць да 350 гр. Ён вывеў да 20 сартоў вінаграду, які ў 1929 г. перанёс 40° па Р. мароз. Ён вывеў гіганцкія пароды вішань і такія пароды, якія можна падаваць на стол разам з ягадамі як вазон. Шмат яшчэ чаго каштоўнага вывеў Мічурын, аб гэтым вы можаце даведацца ў брашурцы пад загалоўкам «Дасягненьні Мічурына на службу сацыялізму». Акрамя Мічурына ёсьць яшчэ шмат нашых савецкіх дасьледчых установ, якія таксама пасьпяхова працуюць над вывядзеньнем самых разнастайных карысных расьлін. Усе гэтыя новыя пароды расьлін выводзяцца праз кветку.

А як яны выводзяцца мы з вамі даведаемся тады, калі пазнаёмімся з будовай і жыцьцём кветкі.

Вось чаму на кветку мы сёньня зьвернем асаблівую ўвагу.

**Пыт:** — Вазьмеце кветкі, якія ў нас маюцца, разгледзьце іх уважліва і адкажыце—на чым яны сядзяць?

**Ад:** — Яны сядзяць на кветкавай ножцы.

**Пыт:** — Як называецца такая кветка, у якой няма кветаножкі?

**Ад:** — Яна завецца седзячай.

**Настаўнік:** Паказваючы на жывой кветцы, настаўнік пытае:

— Ці ня ведае з вас хто, што гэта за зялёныя лісточкі сядзяць на кветкавай ножцы? Зараз-жа пад вяночкам?

**Ад:** — Гэта падвяночак.

**Настаўнік** — Афарбаваная частка кветкі называецца вяночкам. Яна складаецца з паасобных лісточкаў, якія называюцца лепесткамі.

**Настаўнік** — У сярэдзіне вы бачыце на тонкіх нітачках мяшочкі з пылком—гэта тычачкі. Яны складаюцца з тычачкавай ніці і мяшочка, які называецца пыльнікам. У гэтым мяшочку знаходзіцца пылок, які мы наступны раз разгледзім праз мікраскоп, а пакуль што ўважліва разгледзьце тычачкі праз лупу (вучні разглядаюць 1 мінуту).

Сярод тычачак вы бачыце яшчэ адну частку кветкі, якая называецца слупком. Ён складаецца з ніжняй пашыранай часткі, плодазавязі, або проста завязі. Некалькі вышэй плодазавязі знаходзіцца шыйка, і нарэшце, самая верхняя частка называецца рыльцам. На табліцы вы бачыце слупок маку, у якім зусім няма шыйкі і рыльца сядзіць на плодазавязі.

**Пыт:** — З якіх-жа частак складаецца кветка?

**Ад:** — Кветка складаецца з кветкавай ножкі, падвяночка, вяночка, тычачак і слупка.

**Пыт:** — З якіх частак складаецца тычачка? Слупок?

Пакажы тычачкі ў кветкі? Пакажы слупок? Пакажы завязь?

**Пыт:** — Раскажы пра будову кветкі?

**Ад:** — Кветка складаецца з кветкавай ножкі, падвяночка, вяночка, тычачак і слупка. Падвяночак складаецца з зялёных лісточкаў, а вяночак з афарбованых, якія называюцца лепесткамі або пялёсткамі. Тычачкі складаюцца з тычачкавай ніці і пыльніка, а слупок—з плодазавазі, шыйкі і рыльца. Паасобныя часкі кветкі аднэй расьліны часта не падобны да асобных частак другой.

**Настаўнік** — Разгледзьце на табліцах часткі кветкі яблыні і гароху; параўнайце іх вяночкі.

Заўважце, што лепесткі ў гароха не аднолькавыя па форме, самы большы верхні лепесток называецца сьцяжком, два другіх завуцца крыльлямі, або вёсламі і два ніжніх, зросшыхся споднімі краямі, нагадваюць лодачку. Слупок складаецца з прадоўжнай плодазавязі, шыйкі і маленькага рыльца.

**Пыт:** — У якіх яшчэ расьлін вы бачылі падобную форму кветкі?

**Ад:** — У фасолі, бобу, паасобных кветак канюшыны.

**Настаўнік:** — Кветкі гэтыя па форме падобныя да матыля, а таму і расьліны з такімі кветкамі называюцца матылёвымі.

**Пыт:** — Раскажы пра будову кветкі матылёвых расьлін?

**Адк:** — Кветкі матылёвых расьлін складаюцца з падвяночка, вяночка, тычачак і слупка. У падвяночка лісточкі зрасьліся. Вяночак складаецца з пяці частак: верхні лепесток называецца сьцяжком, два бакавых—крыльлямі, або вёсламі і два ніжніх—нагадваюць па форме лодачку.

**Пыт:** — Разгледзьце на табліцах вяночкі бульбы і яблыні і падлічыце колькі лепесткоў у кожнай з гэтых кветак?

**Адк:** — У яблыні іх пяць, а ў бульбы нельга палічыць, таму што яны зрасьліся.

**Настаўнік** — Кветкі, лепесткі якіх зрасьліся, называюцца зрослалепестковымі.

Назавеце некалькі кветак, у якіх вяночкі вольналепестковыя?

**Адк:** — Яблыні, ігрушы, вішні.

**Пыт:** — Назавеце некалькі кветак, у якіх вяночкі зрослалепестковыя?

**Адк:** — Бульба, гарбузы.

**Настаўнік** — Кветкі, у якіх лепесткі аднолькавай вялічыні і формы, называюцца правільнымі (яблыня, ігруша, вішня).

Кветкі, у якіх лепесткі не аднолькавай вялічыні і формы, называюцца няправільнымі. Калі кветкі маюць усе пералічаныя часткі: падвяночак, вяночак, тычачкі, слупок, то яны называюцца поўнымі кветкамі; і калі-ж у кветкі не хапае аднэй з пералічаных частак — такія кветкі называюцца няпоўнымі (цюльпан).

**Пыт:** — Раскажы нам, як падзяляюцца кветкі па будове вяночка?

**Адк:** — Па будове вяночка кветкі падзляюцца на вольналепестковыя і зрослалепестковыя; правільныя і няправільныя.

**Пыт:** — Раскажы нам пра поўныя і няпоўныя кветкі?

**Адк:** — Поўнымі называюцца такія кветкі, у якіх маюцца падвяночак, вяночак, тычачкі, слупок, а няпоўнымі—калі адна з гэтых частак адсутнічае.

**Настаўнік** — І так мы разгледзелі будову кветкі. Давайце падсумуем усе нашы веды аб ёй.

**Пыт:** — Раскажы нам коратка пра будову кветкі.

Вучань зьвязна і пасьлядоўна паўтарае тое, што было сказана паасобнымі вучнямі ў папярэдніх разьдзелах аб кветцы.

**Настаўнік** — А цяпер вазьмеце па жывой кветцы і папрактыкуйцеся па распазнаваньні асобных частак кветкі; параўнайце іх з малюнкамі на табліцах і замалюйце ў сшытках.

Вучні разглядаюць паасобныя часткі кветкі і выконваюць данае ім заданьне.

**Настаўнік** — Усё, аб чым мы гаварылі сёньня, вы знойдзеце ў падручніку на стар. 82, 83, 84.

Падрыхтуйце гэты матар'ял к наступнай лекцыі.

*Д. Руманава*

# Бібліятэка і тэхпрапаганда

У газэце «Звязда» за 20 чэрвеня была апублікавана пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб мерапрыемствах па тэх. прапагандзе.

У 5-м п. гэтай пастановы сярод другіх вучасткаў прафсаюзнай работы адзначаецца таксама недастатковы ўдзел бібліатэк у правядзеньні масавай тэхнічнай прапаганды.

Бібліатэкі павінны зараз-жа перабудаваць сваю работу для найхутчэйшага выкананьня ўказанай вышэй пастановы.

Аднэй з асноўных прадпасылак пасьпяховай работы бібліатэкара з тэхнічнай кнігай—гэта палітэхнічная граматнасьць, засваеньне самім бібліатэкарам пэўнага мінімума ведаў, касаючыхся абслугоўваемага ім прадпрыемства—фабрыкі або заводу.

Для дасягненьня гэтай задачы яму на дапамогу павінны прыйсьці заводакіраўніцтва і сэкцыя ІТР.

Бібліатэкар павінен ведаць з якім матар'ялам прыходзіцца працаваць рабочым абслугоўваемага прадпрыемства, якія стадыі праходзіць гэты матар'ял у працэсе апрацоўкі на фабрыцы або заводзе, на якіх станках працуюць у вядучых цэхах данага прадпрыемства з тым, каб сьвядома, граматна падыйсьці да камплектаваньня даручанай яму бібліатэкі.

Але і ў гэтым выпадку, калі бібліатэкар арыентуецца ў асноўных пытаньнях вытворчасьці свайго прадпрыемства, ён усё-ж павінен праводзіць камплектаваньне тэхнічнай кнігі пры дапамозе і пад наглядам інжынэрна-тэхнічных работнікаў.

Перш за ўсё бібліатэка павінна выпісваць усю пэрыядычную літаратуру, якая датычыць данае вытворчасьці—апрача таго, што пэрыодыка сама па сабе ёсьць літаратура па тэх. прапагандзе, вучобе, гэта літаратура яшчэ часткова паслужыць бібліатэкару бібліяграфічным даведнікам, выхоўнай тэхнічнай кнігай па пытаньнях данае вытворчасьці.

Для большай паўнаты ў справе камплектаваньня патрэбна зьвязацца з асноўнымі выдавецкімі і кнігагандлёвымі цэнтрамі для сваечасовага атрыманьня літаратуры па абслугоўваемаму бібліатэкай прадпрыемству.

Час ад часу бібліатэка можа скарыстоўваць і такую крыніцу як даведнік аб уноў вышаўшай літаратуры, як запытаньні бібліатэкі мацярынскага прадпрыемства якога-небудзь буйнага цэнтру, як напрыклад: бібліатэка швэйнай ф-кі «Акцябр» запрашвае Ленінградзкую ф-ку «Бальшавічка», Маскоўскую «Труд» аб новай літаратуры па швэйнай справе.

Неабходна ўказаць яшчэ на адзін момант, гэта на момант неабходнасьці набыцьця бібліатэкай шматтыражак мацярынскіх прадпрыемств другіх цэнтраў. Так к прыкладу: абутковая ф-ка імя Кагановіча (у Менску) абменьваецца шматтыражкамі з Ленінградзкай абутковай ф-кай. Гэтыя шматтыражкі вельмі многа дадуць рабочым у справе азнаямленьня яго з кругам пытаньняў дадзенай вытворчасьці, абгаварваемых на другіх прадпрыемствах і дапамогуць трымаць рабочага (часткова) у курсе рацыяналізатарскіх прапаноў, якія ўносяцца на мацярынскім прадпрыемстве.

Такім чынам сваечасовае, найбольш поўнае і граматнае камплектаваньне бібліатэкі тэхнічнай літаратурай, адпавядаючай патрэбам абслугоўваемага ею прадпрыемства—асноўная прадпасылка да пасьпяховай работы бібліатэкі ў галіне тэх. прапаганды.

Цяпер некалькі слоў аб прасоўваньні тэхнічнай кнігі к рабочаму чытачу.

Перш за ўсё патрэбна ўказаць на неабходнасьць вылучэньня бібліатэкаю асобага каталёгу тэхнічных кніг, прызначаных для карыстаньня чытачоў; пры гэтым найбольш прыемлемым для

гэтай мэты, нам здаецца, картачны анотыраваны каталёг, згрупаваны ў суадпаведнасьці з патрабаваньнямі асноўных цэхаў, профэсіямі дадзенай вытворчасьці.

Анатацыі бібліатэкар можа часткова атрымаць ад крытыка-бібліграфічнага інстытуту з Масквы, часткова з Дзяржаўнай бібліатэкі і Бібліографічнага Інстытуту БССР, і часткова можа быць дапоўнен уласнымі сіламі з дапамогай работнікаў ІТС.

Адным з мэтадаў прасоўваньня кнігі зьяўляюцца практыкуемыя бібліатэкамі кніжныя выстаўкі, тут патрэбна зрабіць шэраг практычных указаньняў, якія не заўсёды скарыстоўваюцца ў практыцы масавых бібліатэк. Перш за ўсё выстаўка тэхнічнай кнігі павінна быць зроблена на відным мейсцы, каб чытач мог падыйсьці да яе, узяць кнігу ў рукі і разглядзець яе. Выстаўка павінна быць адпаведным чынам аформлена лёзунгамі, цытатамі.

Шырока павінен быць скарыстан мясцовы матар'ял данай фабрыкі, данага заводу, у выніку выстаўка павінна ў даступнай і блізкай форме прапагандаваць кожнага рабочага за павышэньне тэхнічных ведаў, за асваеньне асноў тэхнікі.

Выстаўкі павінны быць арганізаваны бібліатэкай ня толькі ў сьценах самой бібліатэкі, але і ў клюбе, Ленінскім кутку, у цэху, у сталоўцы, і ў другіх месцах масавага наведваньня рабочых.

Выстаўкі павінны часта мяняцца, як па матар'ялу кніг, так і па формах іх згрупаваньня, па афармленьню для большага іх узьдзейнічаньня.

Надзвычайна даступнымі і значымымі па сваіх выніках, мэтадах прасоўваньня кнігі зьяўляюцца рэкамэндацыйныя сьпісы. Яны павінны быць поўнасьцю скарыстаны бібліатэкай у мэтах прасоўваньня тэхнічнай літаратуры.

Сьпісы гэтыя павінны вар'іравацца: сьпіс літаратуры аб значэньні тэхнічнай вучобы і тэх. прапаганды, агульны сьпіс па данай вытворчасьці, розныя сьпісы для розных цэхаў—асобна для такарнага, ліцейнага, зборачнага і г. д.

Пры чым, калі мы бібліатэцы прад'яўляем патрабаваньні арганізацыі выставак за сьценамі бібліатэк у месцах масавага наведваньня рабочых, то гэтыя ўказаньні тым больш выпаўнімы і неабходны ў адносінах рэкамэндацыйных сьпісаў.

Пажадана, па меры магчымасьці, састаўляць анатыраваныя рэкамэндацыйныя сьпісы.

У кожным цэху можа быць бібліатэкай арганізаваны куток пад назвай «што ў бібліатэцы новага аб тэхніцы».

Ужо сама гэта назва абавязвае бібліатэку мець у сябе ўсё сапраўдна новае з гэтай галіны і своечасова паведамляць масавага чытача, а таму—максімум апэрацыйнасьці ў гэтай рабоце.

Цяпер пяройдзем к формам вуснай прапаганды тэхнічнай кнігі.

Тут перш за ўсё павінны быць скарыстаны лекцыі, даклады, праведзімыя на прадпрыемствах сіламі інжынэрна-тэхнічных работнікаў па розных пытаньнях тэхнічнага асваеньня данае вытворчасьці, пасьля папярэдняй дагаворанасьці дакладчык павінен тут-жа ўказаць на літаратуру, якая маецца ў бібліатэцы па гэтаму пытаньню, а бібліатэка павінна забясьпечыць у аўдыторыі выстаўку кніг па пытаньнях, якія былі высунуты ў дакладзе, сьпісы кніг, артыкулаў па тых-жа пытаньнях.

Могуць быць арганізаваны і спэцыяльныя бібліаграфічныя вечары па прапагандзе тэхнічнай кнігі, дзе 5-6 чалав. інжынэрна-тэхнічных работнікаў і найбольш кадрыхтаваных рабочых інфармуюць кожны аб якой-небудзь тэхнічнай кнізе, якую рабочаму неабходна прачытаць.

Па магчымасьці часьцей павінны праводзіцца бібліатэкай (уласнымі сіламі або з дапамогай другіх работнікаў ф-кі і завода) інфармацыі ў цэхах аб тэхнічнай кнізе, артыкуле, якія ўноў зьявіліся ў бібліатэцы.

Час ад часу можа быць арганізавана калектыўнае чытаньне якога-небудзь артыкулу, які касаецца данай вытворчасьці або пашыраючы кругазор рабочага ў якой-небудзь галіне тэхнічных ведаў.

Заводзкая шматтыражка, цэхавая насьценгазэта павінны шырока скарыстоўвацца бібліатэкай для прапаганды тэхнічнай кнігі.

У агульным аддзеле «што чытаць», які павінен стаць пастаянным аддзелам шматтыражкі (аб гэтым другі раз), неабходна сыстэматычна ўказваць, што чытаць для павышэньня сваіх тэхнічных ведаў, пры чым матар'ял часта можа быць скарыстаны адзін і той-жа самы, адна і тая-ж анатацыя можа быць уключана ў рэкамэндацыйны сьпіс, у шматтыражку і можа саправаджаць на выстаўцы даную кнігу.

Усе гэтыя мерапрыемствы ў канцы ставяць сабе задачу максымальна ахваціць рабочых чытаньнем тэхнічнай літаратуры.

Тут могуць быць скарыстаны таксама мэтады індывідуальнай агітацыі рабочых за тэхнічную кнігу, так напрыклад: бібліатэкар пасылае рабочаму па пошце паведамленьне, што ў бібліатэцы маецца кніга па яго спэцыяльнасьці і ён запрашаецца прыйсьці за ёю, або рабочы застае па прыходзе на работу каля свайго станка паведамленьне, што ў бібліатэцы атрымана кніга або артыкул па данаму пытаньню і рабочы можа атрымаць яго у такі-та час. Гэта форма прасоўваньня кнігі бясспрэчна дасьць станоўчыя вынікі.

Але бібліатэка зацікаўлена ня толькі ў прасоўваньні кнігі чытачу, але і ў засваеньні ім гэтай кнігі, у тым, каб аблягчыць рабочаму чытачу карыстаньне данай кнігай і тут павінны быць прыняты розныя меры.

Перш за ўсё пры бібліатэцы павінна быць арганізавана кансультацыя інжынэрна-тэхнічных работнікаў, якія даюць чыта-

чам розныя тлумачэньні адносна тэхнічнай літаратуры; за тым бібліатэка павінна час ад часу арганізоўваць віктарыны, тэх-баі.

Мы ў гэтым артыкуле не ўпамянулі аб абслугоўваньні бібліатэкай маючыхся на прадпрыемстве гурткоў тэх. вучобы. Зусім зразумела, што гэтыя гурткі павінны абслугоўвацца бібліатэкай у першую чаргу, неабходна толькі падкрэсьліць, што ўдзельнікі гурткоў тэх. вучобы, рацыяналізатары, вынаходнікі павінны стаць актыўнымі дапаможнікамі бібліатэкара ў справе ахвату ўсёй масы рабочых тэхнічнай кнігай.

Формы і мэтады прасоўваньня кнігі разнастайны, і ў адным артыкуле іх, вядома, нельга вычарпаць, належыць толькі яшчэ ўказаць, што ўся гэта работа павінна быць увязана бібліатэкай з работай фабрычна-заводзкіх арганізацый, з іх барацьбой за выпаўненьне промфінпляну, за павышэньне прадукцыйнасьці работы, за якасьць прадукцыі, бо сучаснае становішча тэх. прапаганды не забясьпечвае выкананьне дырэктыў ЦК КП(б)Б па асваеньню тэхнікі і задач, пастаўленых перад вытворчасьцю па якасных паказальніках—зьніжэньне сабекошту і павышэньне прадукцыйнасьці працы (з пастановы ЦК КП(б)Б па тэх. прапагандзе).

Ахоп тэхнічнай кнігай, як адзін з элемэнтаў тэхнічнай прапаганды, павінен быць адным з пунктаў догавару па сацспаборніцтву паміж цэхамі, брыгадамі і асобнымі рабочымі.

Задача, стаячая перад бібліатэкай у справе тэх. прапаганды, вельмі адказная, яна патрабуе ад бібліатэчных работнікаў сыстэматычнай і ўпартай работы, каб з гонарам выканаць партыйную дырэктыву па гэтаму пытаньню.

# АБМЕН ВОПЫТАМ ПРАЦЫ

*І. Марголін (Арнольдзі)*

## На розныя тэмы

*(Пэдагагічны нарыс)*

### 1. Чаму ў т. Зыкава праваліўся ўрок

Тав Зыкаў, настаўнік з вялікім стажам, надзвычайна адданы сваёй рабоце і, можна сказаць, жыве сваёю справай. На жаль, ён кепскі арганізатар пэдпрацэсу і дысцыпліна на яго ўроках вельмі кульгае. Тав. Зыкаў вельмі занепакоен гэтым і тлумачыць слабасьць дысцыпліны ў яго групе недастатковай цьвёрдасьцю яго характару.

Калі ўрок у яго бывае асабліва няўдалым, т. Зыкаў, увайшоўшы ў настаўніцкую, выказвае свае нездавальненьне перад таварышамі.

— Настаўнік, кажу вам з практыкі, не павінен быць вельмі добрым, ён ня мае права паказваць перад вучнямі мяккасьць свайго характару, іначай дзеці палезуць яму на галаву і сядуць на яго верхам.

Усе ўжо знаюць, аб чым ідзе гутарка, і адзін пытае, хітра ўсьміхаючыся:

— Што, тав. Зыкаў, ізноў быў у вас зрыў урокаў?

Тав. Зыкаў нездаволен усьмешкай таварыша і тым, што ён здагадваецца пра зрыў яго работы. Ён рашуча махае рукой, як быццам жадае абараніцца.

— Ніяк гэтага нельга кваліфікаваць як зрыў занятак. Урок прайшоў ня дрэнна, трошкі толькі кульгала дысцыпліна, і ўсё ад таго, што ў мяне няма дастатковай цьвёрдасьці, вельмі мяккі я чалавек.

Адзін раз сустракаю т. Зыкава радасным, узбуджаным.

— Сёньня ідзеце ка мне на ўрок,—гаворыць ён мне пры сустрэчы.—Будзе добрая лекцыя і належная дысцыпліна.

Адкуль такая самаўпэўненасьць?

Тав. Зыкаў зразу ажыўляецца.

— Часта недысцыплінаванасьць дзяцей бывае ад таго, што не хапае вучэбных і пісьмовых прылад, чарніл, алоўкаў. Пры пісьме пачынаецца беганіна. Сёньня ўсе дзеці заняты. Я дастаў цэ-

лую дзюжыну алоўкаў. Дзеці будуць чытаць, замалёўваць прачытанае і ўсё будзе добра.

— Ну, а добрасардэчнасьць не пашкодзіць?

Тав. Зыкаў усміхаецца шырокай і добрай усьмешкай.

— На гэты раз, спадзяюся, не перашкодзіць. А калі трэба будзе, буду цьвёрдакаменным!..

Даецца першы званок.

Тав. Зыкаў зашпільваецца на ўсе гузікі, хутка прыгладжвае валасы, забірае вучэбныя прылады. Можна ісьці.

Па дарозе нас даганяе другі званок. Мы хутка заходзім у клясу, у III групу.

У клясе стаіць яшчэ беспарадак. Некаторыя вучні яшчэ возяцца каля кляснай дошкі.

Аднак мае ўплыў прысутнасьць чужога чалавека. Дзеці рассаджваюцца і ўрок пачынаецца. Першая частка лекцыі праходзіць скомкана. З усяго відаць, што т. Зыкаў баіцца правала і пагэтаму ён сьпяшаецца, змазвае пытаньні, не зьвяртае ўвагі на адказы вучняў.

А праз 10 мінут т. Зыкаў прыходзіць да другой часткі яго лекцыі, да замалёўкі.

Ён глыбока і з аблягчэньнем уздыхае.

— Бярыце, дзеці, намалюйце тое, аб чым мы з вамі гутарылі, але малюйце добра, не сьпяшайцеся.

І як толькі вучні пачалі вымаць свае сшыткі і алоўкі, тав. Зыкаў гаворыць з імі з асобай радасьцю.

— Сёньня, дзеці, будзем маляваць усе як адзін. Разумееце, я для вас купіў цэлых 12 алоўкаў. У каго няма алоўка, падымеце руку.

І адбылося цуда! Больш-менш здавальняючая рабочая дысцыпліна, якая існавала да гэтага часу, зразу зьнікла.

36 дзіцячых рук зразу падняліся кверху, 36 дзіцячых ротў на розных ладох закрычалі:

— Настаўнік, дайце мне, у мяне няма алоўка! Я забыўся дома! Я згубіў!

Тав. Зыкаў ашаломлен, ён ужо ня ведае, што рабіць, як рэагаваць, ён бясьсільна апускае рукі, як бы гаворачы: усё прапала, нічога не зробіш!

Калі група крыху супакоілася, тав. Зыкаў пачынае запэўняць вучняў і просіць, каб яны прыступілі да работы.

— У мяне-ж толькі 12 алоўкаў, а вас 36 чалавек. Я іх раздам тым, якія на самай справе ў іх маюць патрэбу.

Голас т. Зыкава повен мальбы і дрыжачы.

Бяссільны і разьбіты ён патухшымі вачыма глядзіць на дзяцей.

Але дзеці неўмалімы. Хтосьці дзерзка падымае неастрыжаную, кудлатую галаву і крычыць на ўсю клясу:

— Знаем, знаем, ізноў раздасьце вашым любімчыкам!

Недалёка ад мяне сядзіць хлопчык гадоў 11-ці. Перад ім на лаўцы ляжыць яго сшытак, але ён к рабоце не прыступае. Ён штосьці трымае ў руках і баязьліва азіраецца па бакох. Яго рухі беспакойны. Я за ім сачу.

Я бачу, як ён ціха нахіляецца, яшчэ раз азіраецца і штосьці кідае ў бок.

Я таксама нахіляю сваю галаву і шукаю вачыма ў царыўшай паўцьме, на падлозе паміж партамі.

Спачатку я нічога не прыкмячаў, але потым бачу, якраз каля маіх ног ляжыць кусок алоўка. Гэта вучань знарок адкінуў яго, каб мець права прэтэндаваць на новы аловак.

Тав. Зыкаў пускаецца на хітрасьць.

— Ну, калі так,—гаворыць ён са злосьцю,—нікому тады ня дам, малюйце чым хочаце.

Ізноў падымаецца тая-ж самая нястрыжаная галава і крычыць:

— Ну, тады ня будзем маляваць! Хай прападае ўрок! Ня наша справа!

Тав. Зыкаў, аднак, ніяк ня можа прымірыцца з думкай, што ўрок яго правальваецца. Ён пачынае раздаваць алоўкі наперадзе седзячым вучням па чарзе.

Крык і шум у клясе дасягае тады найвышэйшага памеру. Крычаць тыя, якія сядзяць на апошніх лаўках. Тав. Зыкаў атакуецца з усіх бакоў. Ён зрабіўся бледным, нэрвуецца і не знаходзіць сабе месца.

Але вось аднекуль здалёку чуцен тоненькі гук званочка. Урок скончыўся.

Выходжу з клясы першым. Украдкай кідаю погляд на тав. Зыкава. Ён усё яшчэ стаіць каля століка, бледны, прыніжаны, з адным алоўкам, які застаўся ў яго ў руках.

## 2. Заслужаная апляуха

Тав. Генкін, заг. школаю-гігантам, яшчэ нядаўна быў рабочым на машынабудаўнічым заводзе. Проста з заводу, без перападрыхтоўкі, бяз курсаў паслалі яго ў школу і прапанавалі быць загадчыкам школы.

Спачатку тав. Генкін быў у вялікім затрудненьні

— Ні бацька мой, ні дзед ніколі ўказкі ня трымалі ў руках,— жартаваў тав. Генкін,—а я раптам пэдагогам стаў. Але калі пасылаюць, то трэба ісьці.

І тав. Генкін сама-па-малу ўвайшоў у сваю ролю і зрабіўся нядрэнным кіраўніком школьнага калектыву, паставіў добра гаспадарку школы, арганізаваў майстэрні.

Высокі, шырокаплечы, з вялікай чорнай шэвелюрай валасоў ён насіўся па карыдору школы, у настаўніцкай, бібліятэцы і ўсюды штосьці забясьпечваў, наладжваў.

Машынабудаўнічы рабочы Генкін знайшоў таксама правільны падыход к дзецям. Просты, справядлівы, ён ня любіў сантымэнтальнічаць, але дзеці любілі і ўважалі яго.

«В минуту жизни трудную», калі школьныя праблемы станавіліся асабліва вострымі, т. Генкін забягае да мяне за парадай. Па яго падыходзе да кожнага пытаньня зразу відно, што чалавек гэты надзвычайна зацікаўлен і мае поўную адказнасьць за ўзложаную на яго справу.

На гэты раз ён ка мне зайшоў вельмі рана, твар яго заклапочаны, нэрвовы.

— Што здарылася, тав. Генкін? Чаму так рана?

— Учора атрымаў аплявуху ад быўшага вучня і заслужаную аплявуху.

— ?!

Гляджу са зьдзіўленьнем на майго наведвальніка. Хачу хутка ўведаць падрабязнасьці, але баюся пытаць. У канцы адважваюся.

— У чым справа? Раскажыце.

— Вучань быў у школе, у 5-й групе. Недысцыплінаваны. Настаўнікі настойваюць: трэба выключыць. Я-ж гавару: трэба прыняць меры ўзьдзейнічаньня выхаваўчага характару. Але настаўнікі насядаюць. Асілілі мяне, узяў і выключыў.

Тав. Генкін замоўк і задумаўся.

Мая цікавасьць усё ўсільваецца.

Ну, што-ж далей, што-ж здарылася, пры чым тут аплявуха?

Тав. Генкін апавядае:

— Учора іду я праз базар. Трэба было мне купіць цьвікоў для сталярнай майстэрні. Бачу, мой вучань, выключаны са школы, круціцца там сярод публікі. Думаю, што-ж яму трэба тут? Падыходжу. Як толькі ён мяне ўбачыў, хутка прыблізіўся да мне і крычыць:

— Тав. Генкін, купіце пару папірос, папіросы першы сорт! Лепшыя папіросы ў сьвеце! І засьмяяўся мне проста ў твар.

Тав. Генкін змоўк. Ён выцер пот з твару і ў бясьсільлі сеў на крэсла.

— Ну, а далей што?

— Вы яшчэ пытаеце? Такую аплявуху ніколі не забуду. І заслужаную аплявуху. Як гэта выключыць вучня, якога можна выправіць. Яшчэ апіраюцца на пастанову ЦК аб школе. Але-ж там ясна сказана, што выключэньне са школы зьяўляецца самым апошнім сродкам узьдзейнічаньня...

— Што-ж вы думаеце рабіць цяпер?

— Ну, а вы як думаеце?

— Дайце трохі падумаць.

— А я ўжо рашыў. Цэлую ноч ня мог заснуць. Усё ляжаў ды думаў. Яшчэ сёньня пайду к вучню на дом і вярну яго ў школу.

— Ну, а настаўнікі як?

— Калі яны не разьбіраюцца ў пэдагагічных пытаньнях, дык рабочы ад станка іх навучыць. Зрабіў памылку, трэба папраўляць, так партыя вучыць і так правільна.

Згаджаюся з таварышамі. Неабходна вырваць вучня са злосных абдымкаў рыначнага жыцьця. Гэта самае галоўнае.

Тав. Генкін разьвітваецца супакоіўшыся.

— Некалькі дарагавата заплаціў за вучобу, але таму-сяму навучыўся,—гаворыць ён пры разьвітаньні і яго вочы зноў засіялі радасьцю, а крокі яго ўпэўненыя, цьвёрдыя.

Такі навучыцца многаму, думаю я, гледзячы на яго здалёку. Ён не баіцца строга крытыкаваць самога сябе, калі трэба і ўмее ў час выпраўляць свае памылкі.

## 3. „Невыправімы“

Вера Майсееўна ўвашла ў настаўніцкую пасьля ўроку бледнай, стомленай і ня села, але чуць ня ўпала на крэсла.

— Што такое, з вамі дрэнна?

Бягу к графіну за шклянкаю вады.

Але пакуль што Вера Майсееўна істэрычна разраўлася.

— Што здарылася?

Прысутнічаючыя настаўнікі вельмі занепакоіліся. Усе былі зьдзіўлены. Мы ўсе знаем Веру Майсееўну вельмі даўно. Яна адна з лепшых настаўнікаў школы. Яна вельмі многа і добра рыхтуецца да ўрока. Упарта працуе над павышэньнем сваёй кваліфікацыі. Вельмі добра ўладае клясаю.

Напэўна якое-небудзь сямейнае няшчасьце!

Калі Вера Майсееўна трошкі супакоілася, мы даведаліся аб прычыне яе істэрыкі. Бандарэнка—гэты вучань з вялікімі, вечна бруднымі ногцямі, з вялікімі раскудлачанымі валасамі давёў яе да сьлёз.

— Вы зусім ня ведаеце як ён зьдзекваецца нада мной. Ён падрывае ўсе заняткі, падрывае работу ўсёй групы, і ніякія меры не памагаюць.

— Калі ўжо Вера Майсееўна ня можа ім аўладаць, дык ніхто не дапаможа. Невыправімы дзіцёнак. Так гавораць некаторыя настаўнікі і са званком разыходзяцца па сваім клясам.

Некалькі супакоіўшыся ўваходзіць у сваю групу і Вера Майсееўна.

Трэба з ім пагаварыць, з гэтым Бандарэнкам, што ён сабе думае, я яго заву ў настаўніцкую.

Бандарэнка заходзіць. Я ўважліва да яго прыглядаюся.

Бледны, абарваны, вочы ліхаманкава, неспакойна бегаючыя ўзад і ўперад. Галава апушчаная, глыбока седзячая паміж худымі плечыкамі.

Дзікае дрэўца,—думаю пра сябе, пэдагагічна запушчаны дзіцёнак.

— Бандарэнка, аб чым ты думаеш? Ты-ж падрываеш работу ўсёй групы! Чаму ты ня хочаш вучыцца?

Бандарэнка сумна маўчыць, ён яшчэ ніжэй апусьціў галаву.

— Ты сёньня сьнедаў?

— Не.

— Чаму? Дзе твая мама?

— На базары, гандлюе фруктамі.

— Як сьпіш, дзе?

— На стале сплю, а ўлетку ў хляве.

Перад маімі вачыма разгарнуўся поўны малюнак. Бяспрытульны, бяз бацькі, бяз маткі расьце дзікім, часта бывае біты. Трэба пайсьці к ім на дом, зрабіць уплыў на дамашніх, калі ўдасца.

На жаль, не ўдаецца. Матка базарная гандлярка, аб дзецях ня думае. Старшы брат карцёжнік.

Бандарэнка з кожным днём становіцца зласьнейшым і зласьнейшым. Мы бяссільны, прымушаны прызнаць сваё бяссільле. Вера Майсееўна выбіваецца з сіл, адшуквае розныя сродкі ўзьдзейнічаньня, але дарэмна.

І к канцу навучальнага году Бандарэнка пераводзіцца ў школу цяжка-выхоўваемых дзяцей.

Адрэзалі гнілую галінку,—сказалі настаўнікі і супакоіліся.

На магутных хвалях ляцяць школьныя гады адзін за другім. Аб Бандарэнку ўсе ўжо даўно забылі. І раптам ён зноў усплыў перад маімі вачыма.

Пачатак чэрвеня. Ціхі, спакойны вечар лёг на шырокіх гарадзкіх вуліцах. Жартлівы ветрык ляціць міма, чапляючыся за маладыя зялёны лісточак. Бяз ніякай мэты гуляю па вуліцы. Раптам мяне застанаўляюць два прахожых.

— Добры вечар!

Пры сьвеце электрычнага ліхтара я пазнаю Веру Майсееўну. Вясёлая, бодрая па сьвяточнаму адзетая, яна зрабіла на мяне ўражаньне, чалавека, перажываючага асобную радасьць.

— Вельмі добра, што сустрэліся. Вы ідзеце з намі.

А радасны голас катэгарычан і гучыць загадам.

— Куды? А хто вас праважае?

Вера Майсееўна яшчэ больш узбуджаецца.

— Што не пазнаеце? Гэта яшчэ лепш. Будзе сюрпрыз. А ідзем мы на выпускны вечар вячэрняй рабочай школы. Вы ідзеце з намі.

Я некалькі зацікаўлен, іду.

А на вечары я даведаўся пра наступнае: з Верай Майсееўнай ішоў Бандарэнка. Па сканчэньні школы для цяжка-выхоўваемых, ён трапіў на завод, узяўся за работу, уступіў у камсамол, стаў лепшым ударнікам і пашоў працягваць сваю вучобу ў вячэрняй рабочай школе.

Вера Майсееўна шчасьлівая, радасная, уся пылаючая ад узбуджэньня разважае далей:

— Калі я яго першы раз убачыла ў сябе ў групе ў вячэрняй школе, я ад спалоху абамлела. Хацела нават зразу пакінуць работу. Ізноў Бандарэнка! Я пільна на яго паглядзела і рукі ў мяне дрыжэлі. Але ён зразумеў мае становішча, падышоў да мяне і гаворыць:

— Вера Майсеўна, прабачце мне за мінулае. Цяпер я ўжо другі. Зусім перамяніўся. Вось убачыце.

— І што вы думаеце,—заканчвае Вера Майсееўна,—ён поўнасьцю апраўдаў сваё абяцаньне. Добра вучыўся і сёньня канчае школу.

Як добрая любячая маці глядзіць Вера Маўсееўна на свайго выхаванца, які знаходзіцца тут непадалёку і чытае газэту.

Ён шырокаплечы, высокі ростам і добра адзеты.

Глядзіш на яго і пераконваешся ў тым, што яго цяжкія дзіцячыя гады даўно прайшлі бясьсьледна.

Значыць ня трэба ўныcase, нават і пры самым апошнім.

— Наша выхаваўчая сыстэма такая, наш выхаваўчы сацыялістычны труд такі, што і самы апошні можа хутка перарадзіцца. Так адказвае Вера Маісееўна, бадзёра разьвітваючыся са мною, і адыходзіць к свайму любімцу, к Бандарэнку.

## 4. Чыя праўда?

Вузкі, доўгі школьны карыдор завешан рознымі лёзунгамі, намаляванымі дзіцячай нявопытнай рукой. У кутку карыдора сьценная газэта на яўрэйскай і беларускай мовах. Каля газэты чорная рагожа, на якой красуюцца 6 дзіцячых карыкатур.

Карыкатуры зроблены з любоўю. Мастак, відаць, стараўся ўшчаміць чым памацней і выбраць позы самыя сьмешныя.

Чытаю подпісы пад карыкатурамі. Знаёмыя дзіцячыя прозьвішчы.

У чым справа? Ці даўно вісіць гэта рагожа?

Аказываецца ўжо даўно, больш тыдню. А вісіць яна па пастанове Школькому, якую адобрыла школьная адміністрацыя.

У настаўніцкай ў часе вялікага перапынку я асьцярожна нашчупваю думку пэдкалектыву адносна правільнасьці гэтай меры ўзьдзейнічаньня.

А ці не цярпяць выстаўленыя дзеці ад насьмешак сваіх таварышоў? Як такая форма ўзьдзейнічаньня адбіваецца на іх псыхалёгічным становішчы?

Аказваецца, што школьнае начальства аб такіх «тонкасьцях» і не задумвалася.

У чым справа? настойліва супярэчыць мне загадчык школы. У нас-жа на фабрыках, ужываюць такі-ж самы мэтад ўзьдзейнічаньня, чым-жа мы горш?

Адзін з выкладчыкаў нясьмела ўмешваецца ў нашу размову.
Школа ўжо ня цэх заводу. Нельга мэханічна пераносіць мэтады ўзьдзейнічаньня дарослага асяродзьдзя на дзяцей.
Калі ў школе ёсьць ударнікі і лжэўдарнікі, то могуць быць і рагожы і карыкатуры, настайвае на сваім загадчык школы. Нічога антыпэдагагічнага ў гэтым ня бачу.
Пэдагог пачынае схіляцца ў мой бок, адступаць.
А мабыць вы і на самай справе правы!
Павінны-ж быць пэўныя меры ўзьдзейнічаньня!
Не, ня праў, кажу я. Мэханічны падыход нікуды ня варты.
Хто-ж будзе паміж намі арбітрам?
Загадчык школы лічыць сябе аўтарытэтам і ня хоча ўступаць.
Ладна, думаю я, нас рассудзіць прэса.
Праз некалькі тыдняў у цэнтральнай прэсе зьявіўся артыкул з вялікім загалоўкам:
— «Против механицизма, за коммунистические методы воспитания»; артыкул чытаецца выкладчыкамі школы і некаторыя з іх надзвычайна абескуражаны, па іх мэтадам выхаваньня ўдарылі і вельмі моцна.
Загадчык школы сваіх пазыцый аднак не здае. Агульная прэса, па яго думцы, у такіх пытаньнях не кампэтэнтна.
Аднак па савету таварышоў ён рагожу з карыкатурамі зьнімае.

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

*Ів. М.*

## Л. Г. ЦЕРАХАВА І В. Г. ЭРДЭЛІ—ГЕАГРАФІЯ, ПАДРУЧНІК ДЛЯ ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ,

**частка першая, 3-ці год навучаньня, пераклад з рускай мовы, выдана Белдзяржвыдавецтвам у ліпені 1933 году тыражом 50.000 экз. памерам 5,5 аркуша.**

Гэтая кніжка мае вялізарную перавагу перад ранейшымі спробамі выдаць падручнік па геаграфіі для пачатковай школы і старэйшых груп першага канцэнтру сямігадовай палітэхнічнай школы.

Дадатнымі бакамі работы аўтара зьяўляецца разумнае сыстэматычнае расплянаваньне вучэбнага матар'ялу, кароткае і досыць выразнае тлумачэньне разуменьня геаграфічных зьяў і паняцьцяў і лёгкая для дзяцей мова, зьмяншэньне патрэбных ілюстрацый, а таксама і практыкаваньняў, неабходных для самастойнай дзіцячай распрацоўкі і для паўтарэньня і замацаваньня пройдзенага матар'ялу.

З дапамогай вопытнага настаўніка, вучні па гэтаму падручніку змогуць набыць мінімум патрэбных геаграфічных ведаў і агульнае разьвіцьцё для таго, каб у наступных групах успрыймаць больш складаныя геаграфічныя веды.

Поруч з дадатнымі бакамі данага падручніка, па мойму, маюцца і некаторыя хібы.

Ня зусім на месцы зьмешчаны рыс. №3 «Адкуль дзьме вецер?» «Вецер дзьме з таго боку, куды павернута стрэлка». Гэты самы рысунак было-б мэтазгодней зьмясьціць на старонцы 47 у разьдзеле—«Як арганізаваць назіраньні за надвор'ем», дзе патрэбна было-б даць тлумачэньне аб флюгеры і для чаго ён патрэбен. На стар. 4, у артык. «Гарызонт і Староны гарызонта» дзе ён зьмешчаны, там ён фактычна нічога не дае. Па мойму, мала дапамагае на стар. 5 практыкаваньне 2—«Разабраць па рыс. 3, адкуль дзьме вецер». Пытаньню пабудовы флюгера, для чаго ён патрэбны і як ім карыстацца для вызначэньня старонак гарызонта патрэбна было-б больш удзяліць увагі.

На стар. 6, у артыкуле—«Як знайсьці стораны па палярнай зорцы»—недастатковае тлумачэньне «Вялікай Мядзьведзіцы» і як яе вызначыць.

Зусім адсутнічае тлумачэньне як арыентавацца ў лесе і адшукаць стораны гарызонту пры адсутнасьці компаса, сонца і зорак.

Лічу патрэбным поруч з плянам цэнтра гор. Масквы зьмясьціць плян гор. Менску, знаёмства з якім для вучняў 1-га канцэнтра школ Беларусі прадстаўляе сабою вялікую цікавасьць. На пляне гор. Менску абавязкова паказаць галоўныя вуліцы, больш значныя фабрыкі і заводы, урадавыя і культасьветныя ўстановы. Наогул адсутнасьць у падручніку па геаграфіі для школ Беларусі пляну гор. Менску і карты Беларусі значна зьмяншае каштоўнасьць гэтай кніжкі.

Лічу мэтазгодным на старонцы 45 у дадатак да разьдзелу «Плян і карта» уставіць невялічкі падагульняючы артыкул, у якім коратка, але выразна высьветліць, як і чым адрозьніваюцца паміж сабою плян, тапаграфічная карта і карта фізычная.

Значным недахопам зьяўляецца тое, што ў разьдзеле № 5 «Надвор'е і клімат нашай мясцовасьці» абсалютна нічога ня сказана пра клімат Беларусі і прычынах яго некаторай стракатасьці.

На стар. 56, у артык. «Карта зямлі» было-б ня лішнім даць сьціслае тлумачэньне аб градуснай сетцы.

Усе рысункі, якіх налічваецца ў кніжцы 61, выкананы ня зусім выразна з тэхнічнага боку, пры чым многія з іх з посьпехам маглі-б быць заменены рысункамі з прыроды і жыцьця Беларусі.

Вокладкі, а таксама і шрыфт здавальняючыя, хоць было-б куды лепш, каб шрыфт быў крыху буйнейшым, прымаючы пад увагу узрост і агульную пісьменасьць вучняў.

Наогул падручнік Л. Г. Церахава і В. Г. Эрдэлі—геаграфія—частка 1-ая, робіць прыемнае уражаньне, ня гледзячы на тое, што якасьць афармленьня гэтага падручніка прымушае жадаць значнага паляпшэньня. Але калі мы яго параўнаем і па зьместу і па тэхнічнаму афармленьню з падручнікамі выданьня мінулых гадоў, то ўбачым аграмадную розьніцу і вялікі зрух наперад. Зараз з упэўненасьцю можна сказаць, што верны крок у барацьбе з «карэнным недахопам» у школе зроблены.

## ІНФАРМАЦЫЯ

# Інструкцыйна-метадычны ліст

## Як арганізаваць перадачу вопыта працы ўзорнай школы — масавай школе

*(Распрацаваны заг. Менскай 25-й узорнай ФЗД тав. Цмыгам і зацверджаны Школьным сектарам НКА БССР).*

Асноўная задача ўзорнай школы—стварыць і паказаць настаўнікам, рабочым, калгаснікам і вучням узоры найлепшай пастаноўкі вучэбна-выхаваўчай справы ў школе.

Якім шляхам ўзорная школа можа вырашыць гэту задачу? Толькі праз высокаякаснае выкананне стабільных праграм і адпаведнай узорнай арганізацыі ўсяго педагагічнага працэса.

Што-ж павінна для гэтага зрабіць ўзорная школа? Яна павінна ў першую чаргу асвоіць прынцыповыя асновы новых праграм і потым ўжо так паставіць работу па гэтых праграмах, каб яна была сапраўды ўзорнай для настаўніцтва масавай школы.

Зразумела, што ўзорная школа павінна максімум увагі сканцэнтраваць на пытаннях: аб метадах выкладання, планавання і ўліку работы, арганізацыі працоўнага рэжыму ў школе і арганізацыі вучнёўскага калектыва наогул.

Такім чынам, кожная ўзорная школа, раней чым прыступіць да перадачы свайго вопыта масавай школе, павінна гэты вопыт набыць, афарміць у пэўных дакумантах і матар'ялах.

Матар'ялы неабходны наступныя:

а) патрэбна сабраць матар'ялы, якія-б паказалі, як школа ліквідуе «карэнны недахоп», як вучні авалодваюць ведамі, як вырашаецца пытанне злучэння навучання з вытворчай працай, на аснове падпарадкавання яго вучэбным і выхаваўчым мэтам школы, стан ведаў вучняў па дысціплінах, як засваенне «асноў навук» увязана з справай комуністычнага выхаваньня і як дапамагае школа ў барацьбе з элементамі антыпролетарскай ідэалогіі (сабраць працы вучняў па групах і прадметах, паказчыкі паспяховасці вучняў і г. д.), паказаць удзел школы ў гаспадарча-палітычным жыцці.

б) Усе віды школьнага планавання: гадавы вытворчы план школы, яе навучальны план па прадметах і групах, рабочыя планы настаўнікаў, планы асобных урокаў, планы школы па гра-

мадскай рабоце, па рабоце з бацькамі і настаўніцтвам, па пазашкольнай рабоце з вучнямі, па рабоце ДСК і піянерарганізацыі.

в) Патрэбна асобна вылучыць матар'ялы, якія-б характарызавалі рэжым школы і стан дысцыплін у ёй.

г) Падабраць матар'ялы, характарызуючыя практыку ўжывання метадаў у навучальнай рабоце ўзорнай школы, а іменна: метад распрацоўкі тэм, і асобных урокаў па розных прадметах, запісі ўзорных урокаў, тыпы заданняў па прадметах для самастойнай работы вучняў у класе, лабараторыі, габінеце, рабочым пакоі, школьнай майстэрні, на вытворчасці і дома.

Патрэбна падабраць матар'ялы па распрацоўцы пытанняў прыватных методык, напрыклад, па пытанню «як папярэджваць памылкі і як іх выпраўляць, якім дыдактычным матар'ялам карыстацца пры навучанні грамаце ў нулявых групах, першых і інш.», нават проста запіскі з настаўніцкіх штодзённікаў, якія высветляюць методыку настаўніка да ўрока, методыку прыпаднясення вучням новага матар'ялу, методыку замацавання ведаў па асобных прадметах, методыку праверкі ведаў вучняў, дыдактычны і метадычны матар'ял для асобных тэм таго ці іншага прадмета і гадоў навучання.

д) Матар'ялы, характарызуючыя методыку пазашкольнай работы з вучнямі, у прыватнасці методыку інтэрнацыянальнай і антырэлігійнай работы, а іменна: пратаколы занятак гурткоў, матар'ялы віктарыны, палітбаёў, дыспутаў, тэзісы дакладаў, канспекты гутарак, замежная перапіска (з палітзняволенымі і г. д.).

е) Дакуманты, якія выяўляюць змест і методыку работы ДСК і піянерарганізацыі, напрыклад: арганізацыйныя схемы, пратаколы, мастацкае афармленне асобных вучасткаў работы піянераў і ДСК, соцдагавары паміж асобнымі групамі і вучнямі на лепшую якасць вучобы і выкананне рэжыму ў школе, найбольш інтэнсіўную грамадскую работу.

ж) Дакуманты і матар'ялы, якія характарызавалі-б сапраўды ўзорную пастаноўку кіраўніцтва працай і вядзенне школьнай гаспадаркі.

Вось, прыкладна, той круг абавязкаў, над якім узорныя школы павінны папрацаваць, сабраць матар'ял, адбіваючы іх вопыт працы ў гэтым напрамку, і аказаць дапамогу масавай школе.

Зразумела, што дапамога масавай школе можа быць аказана ўзорнай школай тым большая, чым багацейшы яна будзе мець вопыт—зафіксаваны і належным чынам апрацаваны і афармлены. Пры гэтым патрэбна памятаць, што матар'ял павінен падбірацца школай не прыдуманы, а жыццёвы, правераны вопытам самой школы і які мае значэнне для падвышэння якасці школьнай работы.

Для лепшага скарыстання ўсяго гэтага матар'яла як самой школай, так і масавай школай, патрэбна пры кожнай узорнай

школе мець невялічкі пакой, дзе-б увесь гэты матар'ял быў сканцэнтраваны, зрабіць нешта накшталт педгабінету або габінету педагагічнай практыкі. У гэтым габінеце і павінны канцэнтравацца ўсе матар'ялы ўзорнай школы.

Як-жа ўвесь гэты матар'ял лепш усяго раскласці ў габінеце і аформіць яго?

Матар'ялы, якія характарызуюць пастаноўку навучальнага прадмета па асобных прадметах, павінны быць размешчаны ў так званых «групавых кутках» габінетаў, напрыклад: куток першай групы, другой групы, трэцяй групы і г. д., пры чым у гэтых кутках матар'ялы павінны распалагацца па прадметах—родная мова і літаратура, матэматыка, грамадазнаўства, гісторыя, фізіка і г. д., адным словам па ўсіх прадметах, якія маюцца ў данай групе.

Матар'ялы, якія асвятляюць антырэлігійную, інтэрнацыянальную, ваенна-абарончую работу, пазашкольную работу, работу ДСК і піянераў, пытанні агульнай методыкі педпрацэсу, пытанні кіраўніцтва—усё гэта павінна быць сканцэнтравана ў спецыяльных асобных тэматычных кутках габінета педагагічнай практыкі ўзорнай школы. Тэхніка афармлення матар'яла павінна забяспечыць максімум магчымасці яго скарыстання настаўніцтвам масавай школы: усе дакументы павінны быць чотка надрукаваны, або чыста і разборчыва напісаны, хавацца яны павінны ў асобных папках, на абложках якіх неабходна зрабіць адпаведны загаловак—пералік матар'ялаў гэтай папкі. Карыстанне гэтымі папкамі павінна быць зусім вольным і даступным для ўсіх настаўнікаў масавай школы ў часе працы школы.

Для збора і афармлення матар'ялаў у габінеце, патрэбна вылучаць найбольш моцнага, праверанага настаўніка ўзорнай школы. Зразумела, што ўсе настаўнікі ўзорнай школы павінны прымаць актыўны ўдзел у працы педагагічнага габінета.

Але праца ўзорнай школы на гэтым не канчаецца. Толькі пасля адбору і падбору матар'яла, праверанага практыкай школы, і пачынаецца работа ўзорнай школы з масавымі настаўнікамі, перадача свайго вопыту масавай школе. Як-жа арганізаваць узорнай школе перадачу свайго вопыта масавай школе? Ужо з вышэйсказанага відаць, што пры наяўнасці габінета педагагічнай практыкі і адпаведнага ў ім матар'ялу, настаўніцтва масавай школы, праз самае простае наведванне габінета, зможа шмат чаго атрымаць карыснага для сябе. Наяўнасць такога габінета дае магчымасць у любы момант аказаць дапамогу настаўніку, не звязваючы настаўніка бюджэтам часу.

Другі від сувязі ўзорнай школы з масавай школай, гэта ўзорныя лекцыі, якія даюцца ў прысутнасці масавага настаўніцтва. Пры арганізацыі і правядзенні ўзорнай лекцыі неабходна прытрымлівацца наступных правіл і парадку:

1. Мэта ўзорнай лекцыі—даць сапраўды ўзор правядзення ўрока масаваму настаўніку. Урок павінен быць ідэалагічна і метадычна вытрыманым.

2. Тэма ўзорнага ўроку спачатку распрацоўваецца на групавых або прадметных аб'яднаннях, куды запрашаюцца адпаведныя настаўнікі масавай школы. Кожны ўзорны ўрок павінен быць абавязкова зацверджан інструктарам-метадыстам Горрай-АНА і, толькі ў выпадку немагчымасці гэтага зрабіць, загадчыкам навучальнай часткі.

3. Пасля правядзення ўзорнага ўрока прысутнічаючыя настаўнікі прымаюць ўдзел у абгаварэнні ўрока і даюць ацэнку.

4. Узорны ўрок абавязкова павінен пратакаліравацца, для чаго павінна быць вылучана спецыяльная асоба ў якасці сакратара.

5. Усе планы—канспекты, пратакольныя запісі і ацэнка ўзорнай лекцыі павінны перадавацца ў навучальную частку школы і ў габінет педагагічнай практыкі.

6. Навучальная частка складае расклад узорных лекцый з паказаннем прадмета, групы, тэмы, даты, прозвішча настаўніка, які будзе праводзіць урок. Расклад узорных урокаў не менш як за пяць дзён павінен рассылацца па школах раёну.

7. Усе жадаючыя прысутнічаць на лекцыі павінны з'явіцца за 10—15 мінут да пачатку ўрока ў настаўніцкую, адкуль арганізавана разам з заг. навуч. часткі ідуць у клас. Уваход у клас пасля званка забараняецца.

8. У час лекцыі прысутнічаючыя не ўмешваюцца ў ход урока, не задаюць пытанняў ні настаўніку, ні вучням, не гутараць, не заглядаюць у сшыткі вучняў, не ходзяць па класе і г. д.

Трэці від сувязі—гэта кансультацыі. Кансультацыі найбольш эфектыўны і канкрэтны спосаб для аказання метадычнай дапамогі настаўніку-масавіку, асабліва маладому настаўніку, які не мае належнага вопыта. Кансультацыі могуць быць індывідуальныя і калектыўныя. Індывідуальныя кансультацыі маюць на мэце задаволіць запатрабаванні асобных настаўнікаў па ўсіх пытаннях школьнай практыкі.

Калектыўная кансультацыя мае на мэце задаволіць запатрабаванні групы настаўнікаў па таму ці іншаму спецыяльнаму пытанню. Зразумела, што кансультацыі павінны праходзіць у габінеце педагагічнай практыкі. Да кожнай калектыўнай кансультацыі габінет педагагічнай практыкі павінен падрыхтаваць да кожнай тэмы, па якой адбываецца кансультацыя, выстаўку матар'ялаў, праводзіць кансультацыю з адпаведным паказам ілюстрацыі: планы, расклады, формы ўліку, планаванне, дыдактычны матар'ял, вучэбна-педагагічную літаратуру і г. д. Для правядзення кансультацыі школа павінна ўстанавіць пэўныя дні і гадзіны найбольш зручныя для масавай школы. Школа аб гэтых днях і гадзінах абавязкова паведамляе АНА і школы.

Для вядзення кансультацыі школа прыцягвае асобных спецыялістаў—працаўнікоў узорнай школы, педтэхнікума і інструктароў-метадыстаў, агранома, інспектара і г. д.

Чацверты від—удзел узорнай школы ў правядзенні настаўніцкіх курсаў і канферэнцый. Узорная школа падрыхтоўвае па адпаведных пытаннях сваіх дакладчыкаў, дзеліцца сваім вопытам у форме выступленняў, расказа аб рабоце ўзорнай школы па таму ці іншаму пытанню.

Пяты від—арганізацыя часовай і сталай школьнай выстаўкі, як на настаўніцкіх канферэнцыях раёну, таксама і ў сябе ў школе. Акрамя гэтага можа быць арганізавана сталая выстаўка работы ўзорнай школы ў раённым педгабінеце, у асветніцкім клубе (дом асветы, у хаце-чытальні, дамах соцкультуры і г. д.), адным словам у тых месцах, дзе збіраецца большая маса асветнікаў і наогул насельніцтва.

Шосты від—выезды ўзорных школ у свае падшэфныя школы, або школы свайго падшэфнага с/совета. Зразумела, што такія выезды работнікаў узорнай школы ў масавыя школы, змогуць аказаць значную дапамогу настаўніку ў яго практычнай рабоце на месцы і асабліва ў наладжванні метадычнай работы.

Сёмы від—арганізацыя перапіскі ўзорнай школы са школамі дальніх раёнаў і нават са школамі іншых раёнаў і рэспублік. Абмен некаторымі метадычнымі дакумантамі, формамі планавання, уліку і г. д., абмен думкамі па пытаннях арганізацыі педпрацэса ў цэлым,—усё гэта прынясе карысць не толькі масавай школе, але і самой узорнай школе.

Восьмы від—прыцягненне масавага настаўніцтва ў метадычную работу ўзорнай школы. Ужо пры распрацоўцы падрыхтоўцы да ўзорнай лекцыі, калі ў гэтым прымае ўдзел масавае настаўніцтва, прыносіць яму карысць. Далей патрэбна гэта замацаваць і праводзіць такую работу, як падрыхтоўка да лекцый, распрацоўка таго ці іншага пытання сумесна з масавым настаўніцтвам хоць-бы бліжэйшых школ.

Дзевяты від—асвятленне працы ўзорнай школы ў друку, газеце, педагагічных часопісах і нават асобнымі выданнямі.

Дзесяты від—удзел узорных школ у працы сельметадбюро і райметадбюро, распрацоўка асобных пытанняў, падрыхтоўка гэтых пытанняў і г. д.

Такім чынам кожная ўзорная школа павінна арганізаваць у сябе збор вопыту сваёй працы і належным чынам перадаць яго масавай школе. Сродкамі перадачы вопыту ўзорнымі школамі,—масавай школе, як відаць з вышэйсказанага, з'яўляецца:

1. Удзел узорнай школы на настаўніцкіх курсах і канферэнцыях.
2. Арганізацыя выстаўкі аб працы ўзорнай школы.
3. Удзел узорнай школы ў рабоце сельскіх і раённых метадбюро.

4. Арганізацыя вуснай і пісьмовай кансультацыі.

5. Арганізацыя і скарыстоўванне габінета педагагічнай практыкі, як асяродка збору вопыта школы.

6. Арганізацыя ўзорных лекцый з наступным іх абгаварэннем.

7. Асвятленне працы ўзорных школ у друку.

8. Уцягненне масавага настаўніцтва ў метадычную працу ўзорнай школы.

9. Арганізаваны выезд настаўнікаў узорных школ у падшэфныя школы.

10. Арганізацыя сувязі школы з школамі далёкіх раёнаў.

Трэба папярэдзіць узорныя школы, што яны ні ў якім разе не павінны падмяняць адміністрацыйныя і арганізацыйныя функцыі РайАНА.

Адказны рэдактар В. І. ХОМО

